Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 11 верасня 1987 г. № 37 (3395) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

ВІНШУЕМ

## Максіму ТАНКУ — 75

17 верасня спаўняецца 75 год народнаму паэту Беларусі Максіму Танку. З гэтай нагоды праўленне СП БССР падрыхтавала юбіляру прывітальны адрас, у якім сардэчна вітае яго, выдатнага беларускага паэта і грамадскага дзеяча, з днём 75-годдзя. У прывітальным адрасе акрэсліваецца жыццёвы і творчы шлях юбіляра, галоўныя матывы і вобразы яго паэзіі, пералічваюцца ягоныя кнігі, а ў заключэнне гаворыцца:

**«У 1977 годзе ў перакладзе на рускую мову выйшла Ваша кніга «Нарачанскія сосны», за якую Вам прысуджана Ленінская прэмія.**

**У 1966 годзе Вам было прысвоена ганаровае званне народнага паэта Беларусі, а ў 1982 годзе — званне Героя Сацыялістычнай Працы.**

**На працягу многіх гадоў Вы ведзяце вялікую грамадскую дзейнасць. Былі старшынёй Вярхоўнага Савета БССР шостага і сёмага скліканняў. Зараз з'яўляецеся дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, членам ЦК КПБ, сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, членам Савецкага камітэта абароны міру, старшынёй Беларускага аддзялення польска-савецкай дружбы, акадэмікам АН БССР, членам Камітэта па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях СССР, старшынёй Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР.**

**Партыя і ўрад высока ацанілі Вашу літаратурную і грамадскую дзейнасць, узнагародзіўшы Вас чатырма ордэнамі Леніна, ордэнамі Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам Вялікай Айчыннай вайны II ступені і медалямі.**

**Горача, ад усяго сэрца вітаючы Вас з гэтым слаўным юбілеем, жадаем Вам, дарагі Яўген Іванавіч, моцнага здароўя, вялікага асабістага шчасця і новага плёну ў Вашай нястомнай літаратурнай і грамадскай дзейнасці».**

Калектыў рэдакцыі штотыднёвіка далучаецца да гэтых сардэчных віншаванняў і шчырых пажаданняў.

Матэрыялы, прысвечаныя юбілею Максіма Танка, чытайце на стар. 6 - 7.

**Максім ТАНК на беразе роднай Нарачы.**

Фота Ул. КРУКА.

Максім Танк усе гады творчай дзейнасці быў надзіва чулы да жыцця, і паэзія яго ўвасобіла самыя разнастайныя па фарбах і па танальнасці праявы паўсядзённасці, якая ўбірае і з'явы сусветнага значэння, і «прыватныя» чалавечыя пачуцці і якая разам, у сваёй нярэдка супярэчлівай злітнасці, і ёсць само жыццё.

Здаецца, няма такой значнай гістарычнай з'явы, якая не знайшла б адбітку ў творчасці Максіма Танка. Азіраючы ўсё тое, што даў людзям Максім Танк, мы не ўбачым моманту, калі б паэт стаяў у баку ад галоўнага, што вызначала сабой гістарычны шлях нашага народа. Паэзія Максіма Танка ва ўсе часы народнага быцця ішла разам з народам па магістральным яго шляху. У гэтых адносінах паэзія Танка — у найлепшым значэнні паэзія грамадзянская, паэзія значных грамадскіх інтарэсаў. Ніколькі не супрацьстаўляючы гэта папярэдняму, а падкрэсліваючы злітнасць абедзвюх якасцей, хачу зазначыць, што паэзія Максіма Танка з рэдкай чуласцю адбіла і свет найтанчэйшых, інтымных пачуццяў. І гэта таксама выдатная якасць танкаўскай паэзіі: яна — вельмі чалавечная. Мне здаецца, што вершы Максіма Танка інтымнага характару належаць да лепшых дасягненняў беларускай лірыкі.

**Іван МЕЛЕЖ.**

# КАСТРЫЧНІК І ПЕРАБУДОВА




## Анкета «ЛіМа»

**1. У чым Вы асабіста бачыце пераемнасць рэвалюцыйных традыцый, *практычную сувязь перабудовы з ідэаламі* Кастрычніка?**

**2. Як Вы ўяўляеце значэнне чалавечага фактару, чалавечай асобы ў працэсе перабудовы? Ролю мастака ў рэвалюцыйным абнаўленні, якое адбываецца ў грамадстве?**

***З адказамі на пытанні анкеты выступалі народны артыст* СССР Я. Глебаў («ЛіМ», 7 жніўня г.г.), заслужаны дзеяч мастацтваў БССР В. Нікіфараў («ЛіМ», 21 жніўня г.г.) і народны мастак СССР З. Азгур («ЛіМ», 4 верасня г.г.).**

**Сёння на анкету адказвае пісьменнік Ігнат Дуброўскі.**

1. Кожная сацыялістычная рэвалюцыя, у тым ліку і Вялікая Кастрычніцкая, па характары сваім глыбока дэмакратычная з'ява ў развіцці чалавецтва. У час ажыццяўлення сацыялістычнай рэвалюцыі ўсё вырашаюць працоўныя масы. Першым усенародна-дэмакратычным актам Кастрычніцкай рэвалюцыі было звяржэнне Часовага ўрада, калі член Петраградскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта Антонаў-Аўсеенка ў ноч паўстання ў кастрычніку 1917 года ўварваўся ў залу Зімовага палаца, дзе засядалі міністры Часовага ўрада, і вынес ўсенародны прысуд:

— Ад імя рэвалюцыі абвяшчаю Часовы ўрад звергнутым, а вас — арыштаванымі!

«Ад імя рэвалюцыі» — значыла ад імя народа. Трыумфальнае шэсце Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі па нашай краіне выражалася не толькі ў стварэнні дэмакратычных органаў Савецкай улады, але і ў дэмакратызацыі вытворчасці. Адразу ж пасля рэвалюцыі, пасля вядомай «чырвонагвардзейскай атакі на капітал», — нацыяналізацыі капіталістычнай прамысловасці, — на фабрыках і заводах устанаўліваўся рабочы кантроль, які ў той жа час быў і кіраваннем вытворчасцю.

Ваенны камунізм, выкліканы грамадзянскай вайной, інтэрвенцыяй капіталістычных краін у нашу маладую Савецкую рэспубліку, разрухай у народнай гаспадарцы, звузіў дэмакратыю, асабліва ў вытворчасці. Каб мабілізаваць усе сродкі на абарону рэвалюцыі, быў зроблены пераход да пераважна адміністрацыйных метадаў кіраўніцтва. З заменай ваеннага камунізму нэпам (новай эканамічнай палітыкай) пасля грамадзянскай вайны зноў была шырока разгорнута дэмакратыя. Дэмакратычныя метады распаўсюджваліся і на вытворчасць. Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі ў 1924 годзе, — на той час ён быў старшынёй Вышэйшага савета народнай гаспадаркі, — казаў: «Для таго, каб наш цэнтральны апарат дзейнічаў з дакладнасцю гадзіннікавага механізму, месцы павінны мець права ўзвышаць голас і пярэчыць, калі яны знаходзяць, што работа ідзе не так, як трэба, і калі замест арганізацыі ўносіцца дэзарганізацыя; нельга так слепа думаць, што ўсё, што зыходзіць з цэнтра, добра».

Найвышэйшым ідэалам Кастрычніцкай рэвалюцыі для нас з'яўляецца сацыялістычная дэмакратыя. Недарма словы «Кастрычніцкая рэвалюцыя» і «свабода» ўспрымаюцца намі як сінонімы. Свабода — як спрыяльныя ўмовы для ўсебаковага развіцця асобы, свабода — як роўныя правы ўсіх грамадзян, свабода слова, свабода сумлення, свабода — як гарантыя ад беспрацоўя і г. д., у поўным значэнні сацыялістычнай дэмакратыі. Якую б лухту ні малолі на Захадзе, у нас, у сацыялістычных краінах, самыя шырокія правы чалавека. Сёння гэта не праграма, а рэчаіснасць. У апошнія дзесяцігоддзі сталі пераважаць адміністрацыйныя, валюнтарысцкія метады кіраўніцтва. Гэта не магло не прывесці да звужэння і прамога парушэння прынцыпаў сацыялістычнай дэмакратыі.

Перабудова нашага грамадства цалкам грунтуецца на пераемнасці традыцый Кастрычніцкай рэвалюцыі. Яна не можа быць ажыццёўлена без далейшай шырокай дэмакратызацыі ўсіх галін дзейнасці членаў нашага грамадства, як у вытворчасці, так і ў галіне мастацтва, аж да выпрацоўкі і зацвярджэння заканадаўчых актаў.

Важнай традыцыяй Кастрычніка з'яўляецца працоўны энтузіязм, высокая свядомая дысцыпліна. Савецкай уладзе засталася ў спадчыну разбураная народная гаспадарка. Рабочыя многіх заводаў і фабрык, асабліва тых, якія працавалі на абарону, за адзін-два гады ўзнялі вытворчасць да даваеннага ўзроўню, а некаторыя і перавысілі яго. Рэвалюцыя натхніла людзей на вялікія справы, якія акрэсліла і паставіла перад народам партыя бальшавікоў. Нашы задачы, якія мы вырашаем сёння ў працэсе перабудовы ўсяго грамадства, рэвалюцыйныя па сваёй сутнасці, яны — працяг, развіццё Кастрычніцкай рэвалюцыі. Працоўны ўздым, энтузіязм, якія праявіліся на ленінскіх суботніках, павінны быць святой працоўнай традыцыяй у вырашэнні велічных задач перабудовы.

2. Чалавечы фактар мае рашаючае значэнне ва ўсебаковай перабудове нашага грамадства. Пад тэрмінам «чалавечы фактар» найперш разумеюцца актыўныя, ініцыятыўныя, працавітыя людзі, людзі-энтузіясты. Але ж чалавек па сваім характары і відах дзейнасці бязмежна шматгранны, бадай, невычэрпны. Працавіты, старанны рабочы і калгаснік, рвач і нясун, ініцыятыўны, клапатлівы, разумны і рашучы кіраўнік, бюракрат, хабарнік, алкаголік — усё гэта чалавечы фактар сёння. Адсюль складанасць задачы фарміравання, выхавання чалавечага фактару, чалавека, які быў бы па светапоглядзе, па сваіх здольнасцях, стараннасці, па веданні дасягненняў навукі, тэхнічнага прагрэсу, па валоданні тэхнікай і новай тэхналогіяй вытворчасці, па агульнай культуры на ўзроўні задач перабудовы.

Разам з гэтым трэба выхоўваць і такія ўласцівасці, якія чалавека робяць чалавекам. Гэта — мысленне па-новаму, высокая свядомасць у разуменні сэнсу жыцця, задач краіны і сваіх уласных, высокая мараль, дабрачыннасць (нравственность), добрасумленнасць, шанаванне сваёй уласнай годнасці, адданае служэнне Радзіме, да самаахвярнасці, гонар за яе, за свой завод, калгас, установу. Адным словам, усеагульная перабудова грамадства — гэта ў першую чаргу выхаваўчая работа, як у плане перавыхавання, так і выхавання новага чалавека, чалавека новага мыслення, новай псіхалогіі. А гэта самая складаная задача. У маральным, эстэтычным і этычным сэнсе за апошнія дзесяцігоддзі мы, на жаль, маем немалыя страты.

У выхаванні і перавыхаванні чалавека вялікую, а можна сказаць — галоўную ролю павінны ўзяць на сябе школа і сям'я. Асабліва і вельмі важнае значэнне ў выхаванні мае мастацтва ўсіх відаў, а найперш — мастацкая літаратура. Лекцыі, даклады, агульныя гутаркі, дыскусіі і іншыя сродкі масавага калектыўнага выхавання таксама маюць вялікае значэнне. Усё ж індывідуальныя выхаваўчыя метады най-

## НАВІНЫ ТЫДНЯ

### *БАРАДЗІНО*

Барадзіно... 175 гадоў назад назва гэтай маленькай вёсачкі пад Масквой назаўсёды ўвайшла ў гісторыю нашай Радзімы, сусветную гісторыю. Увайшла разам з імёнамі Кутузава і Баграціёна, Раеўскага і Кутайсава і многіх іншых афіцэраў і салдат — сыноў розных народаў Расіі.

Барадзіно стала сімвалам народнай славы і воінскай доблесці.

Двойчы — у гады Айчыннай вайны 1812 года і ў 1941, калі пачалася Вялікая Айчынная, Барадзінскае поле станавілася полем крывавай бітвы з іншаземнымі захопнікамі. Тут пацярпеў крах міф аб непераможнасці Напалеона. Тут гітлераўскія агрэсары зведалі сілу духу і патрыятызму савецкіх воінаў.

Сімвалічна гучыць надпіс на помніку героям-артылерыстам вайны 1812 года: «Доблесць бацькоў — спадчына дзяцей». А на пачарнелым дзоце побач з савецкім танкам на п'едэстале яшчэ надпіс — «Ахоўваецца дзяржавай».

6 верасня на Барадзінскае поле прыйшлі аддаць даніну памяці героям тысячы людзей.

На ўрачыстасці прысутнічалі таварышы **В. І. Варатнікоў, Я. К. Лігачоў, М. М. Слюнькоў, М. С. Саломенцаў, А. М. Якаўлеў, У. І. Далгіх, Б. М. Ельцын, М. І. Талызін, Д. Ц. Язаў, В. А. Мядзведзеў, Г. П. Разумоўскі.** Былі тут прадстаўнікі партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый, военачальнікі, франтавікі, ветэраны партыі і працы, перадавікі вытворчасці з Масквы і Падмаскоўя, дзеячы навукі і мастацтва. Прысутнічалі госці з-за рубяжа.

Пасля ўрачыстага мітынгу і ўшанавання памяці герояў Барадзіно адбылося тэатралізаванае прадстаўленне. Над полем прагучалі бессмяротныя радкі Пушкіна і Лермантава, мелодыі Чайкоўскага і Пракоф'ева, вершы і песні сучасных аўтараў.

Урачыстасці, прысвечаныя 175-годдзю Барадзінскай бітвы, вылiліся ва ўсенароднае свята.

### МІЖНАРОДНЫ КІРМАШ

8 верасня ў Маскве пачала работу VI Маскоўская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш — адзін з буйнейшых форумаў кнігавыдаўцоў свету. У форуме ўдзельнічаюць больш як 3000 фірм са 103 краін, а таксама 13 міжнародных арганізацый, у прыватнасці, ААН, ЮНЕСКА, ЮНІСЕФ.

Па традыцыі самая вялікая экспазіцыя на выстаўцы — савецкая. У ёй прадстаўлена каля 20 тысяч кніг: новыя выданні класікаў марксізму-ленінізму, творы, у якіх раскрываецца сэнс сённяшніх рэвалюцыйных пераўтварэнняў у нашым грамадстве. Значнае месца ў экспазіцыі займае мастацкая літаратура народаў СССР, кнігі для дзяцей і юнацтва, даведачая літаратура, мастацкія альбомы.

Спецыяльны раздзел экспазіцыі «Ленін. Кастрычнік. Мір» прысвечаны 70-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

На ММКВК-87 упершыню дзейнічае Камерцыйны цэнтр для кнігавыдаўцоў і кнігагандляроў. У час правядзення выстаўкі адбудуцца шматлікія міжнародныя сустрэчы, будзе праведзены конкурс дзіцячага малюнка «Герой маёй любімай кніжкі».

На ўрачыстай цырымоніі адкрыцця выстаўкі прысутнічалі член Палітбюро ЦК КПСС, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР **Г. А. Аліеў**, адказныя работнікі ЦК КПСС, кіраўнікі раду міністэрстваў і ведамстваў, дзеячы культуры і навукі.

Апладысментамі сустрэлі прысутныя прывітанне **М. С. Гарбачова** ўдзельнікам і гасцям шостай Маскоўскай міжнароднай выстаўкі кірмашу. Прывітанне зачытаў старшыня аргкамітэта ММКВК-87, старшыня Дзяржкамвыда СССР **М. Ф. Нянашаў.**

Удзельнікам і гасцям выстаўкі-кірмашу накіраваў таксама пасланне генеральны сакратар ААН **Х. Перэс дэ Куэльяр.**

**(Па матэрыялах цэнтральнага друку і ТАСС).**

### У ГОНАР ПЕСНЯРА

**Цэнтральны дзіцячы парк імя М. Горкага. Там, дзе цяпер размяшчаюцца атракцыёны, дзе ўзвышаецца *помнік-бюст* Цыялкоўскаму, стаяў да вайны дом Якуба Коласа (згарэў ад бамбёжкі на трэці дзень гітлераўскага нашэсця). Свята паэзіі, прысвечанае песняру Беларусі, сабрала сюды мінчан і гасцей беларускай сталіцы.**

**Гучыць мелодыя песні І. Лучанка «Мой родны кут...» у выкананні цымбалісткі Т. Чанцовай. На фоне музыкі заслужаная артыстка БССР Р. Маленчанка чытае ўступ да паэмы «Сымон-музыка»: «Ад роднае зямлі, ад гоману бароў...»**

**Выступае лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Васіль Зуёнак. Ён гаворыць пра ўплыў творчасці Якуба Коласа на сённяшнюю беларускую літаратуру, чытае вершы, прысвечаныя дзецям.**

**З увагай слухаюць прысутныя заслужанага работніка культуры БССР, сына песняра Данілу Канстанцінавіча Міцкевіча. Прамоўца *ўспамінае* даваенныя гады, эпізоды з жыцця Якуба Коласа.**

**Прыгадалі сустрэчы з песняром і прачыталі вершы, прысвечаныя любімаму настаўніку, Мікола Аўрамчык і Пятро Прыходзька.**

**Пра неўміручасць вялікага**




### АДЗІН ДЗЕНЬ...

**...Што і казаць, не часта можна ўбачыць адразу столькі людзей, якія ведаюць пра тэлебачанне ўсё. Дакладней, амаль усё, бо ўдзельнікі Усесаюзнага фестывалю тэлевізійных фільмаў адказаць спрабуюць на пытанне вельмі і вельмі няпростае — з чым выходзіць на вялізную, шматмільённую глядацкую аўдыторыю, якую штовечар збірае «блакітны экран». Паводле прызнання рэжысёра дакументальнай стужкі «Архангельскі мужык» М. Галдоўскай, працаваць сёння складана: раней скажаш з экрана хоць кроплю праўды — і сабой задаволены, маўляў, і я нешта адкрыў... Цяпер на поўны голас гучыць тое, што ўчора прамаўлялася шэптам, і кожны новы фільм ці перадача выпрабоўвае не столькі прафесійны спрыт стваральнікаў, колькі актыўнасць іх грамадзянскай пазіцыі. «Выбачайце за тэхнічную якасць гэтых кадраў. Яны нам былі неабходныя»,— такія незвычайныя цітры з'явіліся ў фільме свярдлоўскіх тэледакументалістаў «За белымі дзвярыма»...**

**Гэтыя радкі пішуцца, калі фестываль перакрочыў свой «экватар», а газета выйдзе ў свет, калі будзе вядома рашэнне аўтарытэтнага журы... Да вынікаў і ўрокаў прадстаўнічага тэлефоруму «ЛіМ» яшчэ вернецца, адзначу тут толькі тое, што вылучаныя на конкурс Беларускім тэлебачаннем «Сведка» А. Рыбарава і «Тут быў Крылоў» В. Хашчавацкага адразу па праглядзе займелі добрую рэпутацыю.**

**Кожны фестывальны дзень надзвычай насычаны. Адначасова дэманструюцца чатыры конкурсныя праграмы — мастацкіх, дакументальных, дзіцячых і музычных стужак. Дадаць сюды рэтраспектыўны паказ фільмаў мінулых гадоў, шматлікія сустрэчы і творчыя дыскусіі, і будзе зразумела, што на справе значыць «абняць неабдымнае».**

**Як звычайна, найбольш людна ля манітораў, на якіх дэманструюцца творы тэледакументалістаў. І невыпадкова, бо менавіта ад іх найперш чакаюць сугучнасці з сённяшнім днём, вастрыні і актуальнасці. Тым больш, што лепшыя стужкі рэжысёраў А. Канеўскага, І. Бяляева, Д. Лунькова, Г. Левашова-Туманішвілі і іншых маюць здольнасць шмат у чым і апярэджваць час... З «добрых і розных» фільмаў праграмы дня прыкметна вылучаліся ўжо згаданы «За белымі дзвярыма» Р. Нігашава, «Від з акенца» А. Смелай (Масква) і «Наш век» А. Пеляшана (Ерэван).**

**Папулярнасць, якой карыстаецца дакументальная праграма фестывалю, тлумачыцца і яшчэ адной прычынай. Яна горача абмяркоўвалася падчас творчай дыскусіі за «круглым сталом». «Дакументальны тэлефільм — крытычны і сцвярджальны пачатак» — так была акрэслена тэма сустрэчы, але гаворка сканцэнтравалася вакол даўняй і балючай праблемы: няпростага лёсу менавіта вострапраблемных стужак. Адзначалася, што прызнаныя бясспрэчнымі творчымі ўдачамі, узнагароджаныя прызамі фільмы «2×2=X», «Цюлені», «Маё «я», «Эксперымент» і шэраг іншых, знятыя на працягу мінулага дзесяцігоддзя, альбо ўвогуле не трапілі на экраны ЦТ ці былі паказаны толькі аднойчы і ў нязручны час («фільмы выключанага тэлевізара»). Надзённая тэледакументалістыка не сустракаецца з шырокім гледачом, адсутнасць зацікаўленай падтрымкі смелых пошукаў стымулюе**

больш эфектыўныя. Мастацкая літаратура якраз і вызначаецца тым, што кожны пісьменнік праз свае творы сустракаецца з чытачом адзін на адзін. У кожным разе ён уплывае на індывідуальнага чытача.

На першы план у сучаснай мастацкай літаратуры трэба вывесці як героя твораў ініцыятараў перабудовы з асяроддзя рабочых, калгаснікаў, спецыялістаў, вучоных, кіраўнікоў. Іх ужо сёння не мала, а з кожным днём будзе больш і больш. Не трэба забываць і барацьбы з бюракратызмам, хабарніцтвам, алкагалізмам, крадзяжом і разматачваннем народнага дабра, з амаральнасцю.

У выхаванні новага чалавека, фарміраванні чалавечага характару трэба як можна паўней скарыстаць каштоўнейшую спадчыну — жыццё і дзейнасць першых бальшавікоў, ленінскай гвардыі, яго саратнікаў, тых, хто рыхтаваў і ажыццяўляў Кастрычніцкую рэвалюцыю. Тых, хто ў барацьбе за інтарэсы працоўных, за гістарычныя лёсы краіны ішлі ў турмы, на катаргу і нярэдка ахвяроўвалі сваім жыццём, але не здаваліся. Тых, хто рабіў першыя закладзіны нашай сацыялістычнай дзяржавы. За апошнія дзесяцігоддзі нанесены немалыя страты ў выхаванні ў маральным сэнсе. Таму важна паказаць нашай моладзі самаахвярнае служэнне народу гэтых людзей — камуністаў, іх аддачасць рэвалюцыйнай справе, іх, можна сказаць, абсалютную добрасумленнасць, стаўленне грамадскіх абавязкаў вышэй за свае асабістыя інтарэсы, вышэй за сваё ўласнае жыццё. У паводзінах сваіх, па ўмовах быту — кватэры, забеспячэнне прадуктамі і іншым - яны не вызначаліся ад працоўных мас.

Дазвольце ў парадку прыкладу прывесці такі факт. Аляксандр Дзмітрыевіч Цюрупа, народны камісар харчавання ў гады грамадзянскай вайны, аднойчы на пасяджэнні Савета Народных Камісараў страціў прытомнасць і ўпаў з крэсла. Высветлілася, што прытомнасць ён страціў ад знясілення працяглым галаданнем. Камуніст, у руках якога былі харчовыя фонды ўсёй краіны, жыў з вялікай сям'ёй на галодным пайку, як і ўсе людзі ў тыя гады, але не дазволіў сабе ўзяць лішняй крошкі. Толькі распараджэннем Леніна, пасля гэтага здарэння, Цюрупе, улічваючы яго вялікую сям'ю, быў павышаны паёк. Ленін сам, як гэта вядома, жыў у тыя цяжкія гады на галодным пайку, як і ўсе.

Бальшавікі — кіраўнікі першых гадоў рэвалюцыі—па чуласці да чалавека, да яго патрэб і пакут былі самымі блізкімі, самымі даступнымі, былі сапраўднымі кіраўнікамі-таварышамі.

Мы не маем права ігнараваць гэтыя магутныя і найкаштоўнейшыя сродкі выхавання, і наследваць ім, мабілізаваць гэтыя сродкі, зрабіць іх дзейснымі — найлепш можа мастацкая літаратура.

Гутарка ідзе не аб выхаванні ў нашага чалавека аскетызму, але аб усведамленні грамадскага абавязку, аб матэрыяльнай сціпласці, што ўпрыгожвае чалавека, аб веданні і строгім раздзяленні мяжы між сваім асабістым і грамадскім, аб жыцці кожнага з вынікаў сваёй працы.

Не трэба забываць ні ў якой меры, нават самай малейшай, выхаваўчага значэння **строгай** дысцыпліны і самадысцыпліны, акуратнасці як праяўлення эстэтычных і этычных годнасцей чалавека.

**Ігнат ДУБРОЎСКІ.**




Выступае В. ЗУЁНАК.

**Коласа гаварыла маладая паэтэса Ала Канапелька.**

**На свяце гучалі творы песняра ў выкананні народнай артысткі БССР М. Захарэвіч, заслужанага артыста рэспублікі П. Дубашынскага, артыста Л. Улашчанкі, была разыграна віктарына «Ці ведаеце вы творчасць Якуба Коласа?», экспанавалася выстаўка.**

**Добра стасаваўся да літаратурнай часткі свята канцэрт лаўрэата Міжнароднага фестывалю народнай музыкі ў Югаславіі, лаўрэата Усесаюзнага і Рэспубліканскага конкурсаў фальклорнага ансамбля «Крупіцкія музыкі».**

**І. КУРБЕКА.**

**шэрую хвалю бесканфліктных, сацыяльна *анемічных* стужак. Выйсце ўдзельнікам дыскусіі бачыцца ў стварэнні надзейнага механізму выхаду праблемнай дакументалістыкі на шырокі экран, ва ўкараненні высокіх крытэрыяў мастацкай ацэнкі твораў, развіцці іх шматжанравасці.**

**У гэты ж дзень адбыўся пленум Усесаюзнай камісіі па тэлебачанні Саюза кінематаграфістаў СССР, на якім разглядалася мадэль перабудовы тэлевізійнага кінематографа.**

**А ўвечары, у 22 гадзіны, рэжысёры, крытыкі і журналісты, акрэдытаваныя на фестывалі, *сабраліся на чарговую сустрэчу* ў прэс-цэнтры. Тут, у атмасферы не менш зацікаўленай, але камернай, у гаворцы няспешнай абмяркоўваецца конкурсная праграма, працягваецца абмен думкамі. Вечар 9 верасня запомніцца, безумоўна, сустрэчай з армянскім рэжысёрам Артурам Пеляшанам, мастаком удумлівым і тонкім, чалавекам надзвычай цікавым.**

**... Такі вось дзень. Адзін з фестывальнага тыдня, напоўненага разнастайнымі ўражаннямі, сустрэчамі, спрэчкамі.**

**А. ГАНЧАРОЎ.**

# ВІНШУЕМ!

***За вялікія заслугі ў развіцці савецкага музычнага мастацтва і* актыўны ўдзел у грамадскім жыцці прафесару кафедры кампазіцыі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі СМОЛЬСКАМУ Дзмітрыю Браніслававічу прысвоена ганаровае званне народнага артыста Беларускай ССР.**

## *Да 110-годдзя з дня нараджэння Ф. Э. ДЗЯРЖЫНСКАГА*

# ПЕРШЫ ЧЭКІСТ



У летапіс Вялікага Кастрычніка золатам упісана імя Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага — выдатнага дзеяча Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы. Усе свае сілы, усё сваё жыццё ён аддаў барацьбе за шчасце працоўных. Дзяржынскі зрабіў вельмі многае для арганізацыі рабочага і сацыял-дэмакратычнага руху ў Беларусі, Літве і Польшчы, для інтэрнацыянальнага згуртавання пралетарыяту ў адзіным агульнарасійскім руху пад кіраўніцтвам РСДРП. Ніякія ганенні і праследаванні не маглі прымусіць Дзяржынскага здрадзіць клятве змагацца са злом і несправядлівасцю да апошняга дыхання. А на яго долю выпалі суровыя выпрабаванні. За рэвалюцыйную работу Дзяржынскага шэсць разоў арыштоўвалі, тры разы адпраўлялі ў ссылкі. Дзяржынскі адыграў велізарную ролю ў падрыхтоўцы, перамозе і абароне заваёў сацыялістычнай рэвалюцыі. Як старшыня ВЧК—ОГПУ, Народны камісар шляхоў зносін, а потым Старшыня ВСНГ Ф. Э. Дзяржынскі ствараў сацыялістычную дзяржаву і ахоўваў яе.

Імя Дзяржынскага яшчэ пры жыцці стала сімвалам крыштальнай чысціні і непарушнай цвёрдасці рэвалюцыянера-ленінца.

Асабліва адчувальная сіла народнай памяці пра Ф. Э. Дзяржынскага на яго радзіме. Яшчэ ў 1932 г. бліжэйшы ў той час да радзімы Дзяржынскага ў Савецкай Беларусі горад Койданава па просьбе працоўных быў перайменаваны ў Дзяржынск. А ў 1939 г. пасля вызваленчага паходу Чырвонай Арміі і ўз'яднання Беларусі пачалася падрыхтоўка да адкрыцця на хутары Дзяржынава мемарыяльнага музея. У 1943 г. гітлераўцы спалілі ўсе пабудовы ў Дзяржынаве. Пасля Вялікай Айчыннай вайны на радзіме Ф. Э. Дзяржынскага сяляне арганізавалі калгас, назваўшы яго імем свайго вялікага земляка. У Дзяржынаве і ў бліжэйшай вёсцы Пятрылавічы былі ўстаноўлены мемарыяльныя абеліскі, а ў Мінску, Івянцы, Дзяржынску, Стоўбцах і некаторых іншых населеных пунктах — помнікі Ф. Э. Дзяржынскаму. 11 верасня 1957 г. у Івянцы быў адкрыты музей Ф. Э. Дзяржынскага, а ў 1972 годзе на хутары Дзяржынава — мемарыял, у які ўваходзяць рэстаўрыраваныя падмуркі пабудоў, спаленых нямецкімі захопнікамі, картасхема, помнік, 49 валуноў, што сімвалізуюць гады жыцця Ф. Э. Дзяржынскага. Філіял музея.

Калектыў музея праводзіць вялікую работу па зборы, вывучэнні і прапагандзе матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці Ф. Э. Дзяржынскага. Ад многіх устаноў, арганізацый, дэлегацый і прыватных асоб (у тым ліку ад членаў сям'і і родзічаў Ф. Э. Дзяржынскага, яго землякоў і саратнікаў) музей атрымаў за 30 гадоў звыш дзевяці тысяч экспанатаў. Сярод іх — рэчы з Дзяржынава, некаторыя асабістыя рэчы Ф. Э. Дзяржынскага, фота- і ксеракопіі яго рукапісаў, першыя выданні яго прац, прысвечаныя яму творы літаратуры, жывапісу, графікі, скульптуры, успаміны, дакументальныя фільмы.

Неацэнную дапамогу ў камплектаванні фондаў і ва ўсёй рабоце музея аказала Соф'я Сігізмундаўна Дзяржынская — жонка Фелікса Эдмундавіча. Дзякуючы ёй, яе добразычліваму стаўленню да нашага музея ў музей паступілі многія унікальныя экспанаты, у тым ліку асабістыя рэчы, фотаздымкі, кнігі і дакументы Ф. Э. Дзяржынскага.

Значную дапамогу музею аказалі сын Ф. Э. Дзяржынскага — Ян Феліксавіч, нявестка Любоў Фёдараўна, пляменніцы Соф'я Уладзіславаўна і Ядвіга Генрыхаўна, сяброўка С. С. Дзяржынскай, член КПСС з 1926 года Марыя Францаўна Развадоўская.

Пісьмы, успаміны, фотаздымкі і іншыя матэрыялы пра Ф. Э. Дзяржынскага даслалі ў музей А. Д. Стасава, В. Ф. Аляксеева, Л. А. Фоціева, А. І. Мікаян, К. Я. Варашылаў, А. А. Андрэеў, В. Н. Сідарава, С. Г. Ціхамолаў, С. І. Аралаў, С. Г. Уралаў, І. П. Судакоў, Я. Я. Буйкіс і многія іншыя, каму пашчасціла працаваць і сустракацца з Ф. Э. Дзяржынскім.

Сабраныя матэрыялы з'явіліся асновай для стварэння паўнацэнных экспазіцый музея і яго філіяла, перасоўных выставак. Гэтыя экспазіцыі даюць цэласнае ўяўленне аб жыцці і дзейнасці Дзяржынскага, аб яго родных мясцінах, памагаюць вывучыць шлях, пройдзены нашай краінай, асэнсаваць яго з пазіцый сённяшніх задач сацыялістычнага будаўніцтва, служаць важным сродкам камуністычнага выхавання.

Бясконцая плынь экскурсантаў у музей і Дзяржынава. Іх вядзе сюды ўдзячная памяць і бязмежная цікавасць да ўсяго, што звязана з імем гэтага легендарнага чалавека, жаданне прайсці па сцежках, дзе хадзіў Дзяржынскі.

Наведванне музея і родных мясцін Ф. Э. Дзяржынскага ўключана ў пастаянны турыстычны маршрут Бюро міжнароднага маладзёжнага турызму «Спадарожнік» ЦК ВЛКСМ, Мінскім, Маладзечанскім, Барысаўскім і Баранавіцкім бюро падарожжаў і экскурсій, дамамі адпачынку, прафілакторыямі, піянерлагерамі, прадпрыемствамі, установамі, навучальнымі установамі, Упраўленнем па замежным турызме пры Савеце Міністраў БССР. Музей і Дзяржынава наведвае 75—80 тысяч чалавек у год. За 30 гадоў тут пабывала каля 1 мільёна 150 тысяч чалавек.

Тысячы хвалюючых запісаў на розных мовах пакінулі наведвальнікі музея і філіяла музея ў кнігах водгукаў, якія з'яўляюцца своеасаблівым летапісам усенароднай любові да Ф. Э. Дзяржынскага. Прывяду некалькі такіх запісаў:

**«Гэты музей — школа духоўнасці, партыйнасці, беззапаветнага служэння Партыі, Рэвалюцыі, Народу! Вельмі важна, што такі музей існуе, што яго актыўна наведваюць.**

**Народны артыст СССР, лаўрэат Ленінскай прэміі М. УЛЬЯНАЎ».**

**«Без перабольшання можна сказаць, што гэты музей па багацці сабраных матэрыялаў аб Ф. Э. Дзяржынскім, любоўным стаўленні да іх захаванасці і памнажэння — адзіны ў СССР. Музей праводзіць вялікую работу па папулярызацыі жыцця і дзейнасці Дзяржынскага.**

**Я. Г. ДЗЯРЖЫНСКАЯ — пляменніца Ф. Э. Дзяржынскага,**

**Н. І. ЗУБАЎ—аўтар біяграфіі Ф. Э. Дзяржынскага,**

**М. С. СЕЛІВЕРСТАВА — член КПСС з 1919 г.».**

**«Пачуццё захаплення ахоплівае кожнага, хто судакранаецца ў гэтым музеі з Вялікім Чалавекам, Рыцарам рэвалюцыі. Дух Дзяржынскага прадаўжае жыць у сценах музея.**

**Група ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, г. Мінск».**

**«Мы вельмі ганарымся, што на нашай зямлі нарадзіўся і вырас Дзяржынскі. Будзем крочыць яго дарогай.**

**Калгаснікі калгаса «Радзіма Дзяржынскага» Стаўбцоўскага раёна».**

**«Захапляемся мужнасцю і стойкасцю Дзяржынскага, нам ёсць з каго браць прыклад. Слава аб Дзяржынскім будзе жыць у вяках.**

**Рабочыя Мінскага ордэна Леніна аўтазавода».**

**«Мы вучымся ў Дзяржынскага жыць і змагацца за незалежнасць нашай Радзімы, быць людзьмі з чыстымі рукамі, халоднай галавой і гарачым сэрцам.**

**Кубінскія студэнты».**

Вобраз Ф. Э. Дзяржынскага, яго моцны дух будуць заўжды служыць прыкладам самаадданага служэння справе камунізму.

**Н. КАРНЕЕЎ,**
*дырэктар музея Ф. Э. Дзяржынскага, заслужаны работнік культуры БССР.*

# Патрэбны спецыяльныя слоўнікі

По характару сваёй працы мне даводзіцца займацца рознымі пытаннямі ў галіне гісторыі архітэктуры, архітэктурнай археалогіі і матэрыяльнай культуры Беларусі і сумежных з ёю тэрыторый. Для правільнага разумення глыбіннай сутнасці кожнага навуковага артыкула, а тым больш манаграфіі, вельмі важна дакладна ведаць усе нюансы тэрміналогіі, якой карыстаўся даследчык пры напісанні сваёй працы. І тут нельга абысціся без розных слоўнікаў і энцыклапедый, асабліва ілюстраваных, накшталт польскага «Słownika sztuk pienknych», якія ўтрымліваюць расшыфроўку канкрэтных навуковых назваў і вызначэнняў. На жаль, у нашай рэспубліцы такія выданні амаль адсутнічаюць, калі не лічыць 4-га тома Кароткай беларускай энцыклапедыі і пяцітомнай Беларускай энцыклапедыі літаратуры і мастацтва. Але ж гэта энцыклапедыі, а не слоўнікі, і таму маюць вельмі істотную спецыфіку.

Вялікая надзея была ў мяне і маіх калег на «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы». Але, на жаль, карыстацца гэтай фундаментальнай працай пры напісанні навуковых артыкулаў, напрыклад, па гісторыі беларускай архітэктуры, амаль немагчыма, а часам і небяспечна, бо слоўнік можа звесці ў зман, асабліва маладога, пачынаючага даследчыка.

Адразу кідаецца ў вочы значная прафесійная некампетэнтнасць укладальнікаў слоўніка ў пытаннях гісторыі беларускай архітэктуры, археалогіі і шэрагу іншых. Вось канкрэтны прыклад. На с. 264 (5 том, кн. 2) даецца вызначэнне цэглы як штучнага будаўнічага матэрыялу ў выглядзе прамавугольных брускоў з гліны і іншай мінеральнай сыравіны. І на гэтым усё. Дарэмна шукаць у слоўніку такіх вызначэнняў, што непасрэдна датычацца цэглы, як плінфа — старажытная цэгла XI—XIII стст. пэўнага фармату, цэгла пальчатка XIII—XVIII стст., што мела барозны на адной з шырокіх паверхняў цагліны, якая, дарэчы, у спецыяльнай літаратуры мае канкрэтную назву — «пасцель», нічога не прачытаеш у слоўніку пра профільную цэглу XI—XX стст. розных форм і канфігурацый (зусім не прамавугольных, як сцвярджае пра гэта слоўнік), з якіх выкладваліся архітэктурныя дэталі будынкаў, напрыклад, гатычныя нервюры скляпенняў беларускіх замкаў і вежаў. Няма і такіх важных для характарыстыкі цагляных мурован тэрмінаў, як тычок (кароткі бок цагліны) і лажок (доўгі бок цагліны). Калі быць дакладнымі, то слова «лажок» у слоўніку ёсць, але тлумачыцца яно як памяншальнае ад слова «лог», што, вядома, не мае ніякага дачынення да архітэктуры.

Гэты спіс можна працягваць. Відаць, складальнікі слоўніка зусім забыліся, што карыстацца ім будуць не толькі пісьменнікі і журналісты, але і навукоўцы. Таму і даводзіцца часам несці ў рэдакцыю цэлы стос розных навуковых выданняў на розных мовах і даказваць не зусім дасведчанаму рэдактару, які абапіраецца на Тлумачальны слоўнік, права на існаванне пэўных слоў-тэрмінаў.

Вернемся да перакладаў. Вядома, нам патрэбны навуковыя і звычайныя англа-беларускія, нямецка-беларускія і іншыя слоўнікі, але, на маю думку, трэба паклапаціцца пра беларуска-літоўскі і беларуска-латышскі слоўнікі, без якіх зараз зусім немагчыма абысціся як нам, так і нашым суседзям. У гэтай сувязі можна спаслацца на артыкул «Нашы клопаты — наша багацце» («ЛіМ», 27 снежня 1985 г.), дзе ўжо ўзнімалася пытанне аб неабходнасці выдання латышска-беларускага і беларуска-латышскага слоўнікаў. За апошнія сорак гадоў назапашана такая колькасць навуковай інфармацыі па гісторыі архітэктуры і мастацтва Літвы і Латвіі на літоўскай і латышскай мовах, абысціся без якой сучаснаму даследчыку беларускага дойлідства і матэрыяльнай культуры, цесна звязаных гістарычна і тэрытарыяльна з Прыбалтыйскім рэгіёнам, проста немагчыма.

Мне здаецца, што калі па кожнай галіне гісторыі мастацтва ці іншай гуманітарнай навуцы стварыць разам з літоўскімі і латышскімі калегамі кваліфікаваныя калектывы складальнікаў навуковых слоўнікаў і ўключыць гэтыя выданні ў план выдавецтва «Навука і тэхніка», то праз пяць-шэсць гадоў мы маглі б ужо карыстацца імі ў нашай штодзённай працы.

А. ТРУСАЎ,
кандыдат гістарычных навук.

# Чаму без абмеркавання?

У сталіцы Беларусі на праспекце імя Машэрава ўзведзены абеліск «Горад-герой Мінск». Помнік, я ў гэтым глыбока перакананы, не стаў, на жаль, славутасцю сталіцы Беларусі. Чаму? Мысленне архітэктараў аказалася неарыгінальным, а адсюль і трафарэтнае, спрошчанае рашэнне. Колькі такіх штыкоў і жаночых фігур ужо стаіць у краіне? Сотні! Дзе ж новыя ідэі?

Узвядзенню помнікаў (асабліва такой агромністай грамадскай значнасці) павінны абавязкова папярэднічаць дыскусіі, як гэта, напрыклад, мела месца пры абмеркаванні праектаў мемарыялу на Паклоннай гары ў Маскве. Грамадская думка наконт альтэрнатыўных праектаў дазваляе знайсці лепшы варыянт і пазбегнуць непапраўных памылак.

С. ПОЛЬСКІ,
прафесар Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага.

# З павагай да культуры

Наша грамадства перажывае зараз хвалюючы час перабудовы. Мы смела прызналі былыя памылкі. Зараз трэба смела і самакрытычна іх выпраўляць. Гэта тычыцца і адносін да культуры, да мінулага. Вельмі слабыя ў нас падручнікі па гісторыі. Колькі цікавага і невядомага даведаўся я нядаўна з кнігі В. Грыцкевіча «От Немана к берегам Тихого океана»! Нашы землякі даследавалі бязмежныя прасторы Сібіры і Далёкага Усходу, Сярэдняй Азіі і Казахстана. Лёс аднаго «гаваискага доктара» М. Судзілоўскага варты дзесяткаў кніг і фільмаў. А якую інтэрнацыянальную работу можна правесці, зыходзячы з гэтых фактаў! У першую чаргу такія веды патрэбны дзецям — нашаму будучаму, маладым грамадзянам шматнацыянальнай краіны.

У апошні час шмат зроблена па аднаўленні гістарычных помнікаў, выданню унікальных збораў фальклору і г. д. Але яшчэ большае чакае свайго часу. Марудна ідзе справа аднаўлення геаграфічных назваў у мясцовым гучанні. Дарэчы, гэтае пытанне зноў узняў нядаўна ў «Советской Белоруссии» гісторык Л. Лыч. Ніяк не зрушыцца з месца выданне паштовак, праспектаў, наклеек і значкоў на беларускай мове, якіх чакаюць шматлікія турысты. Знікла з музычных аранжыровак беларуская скрыпачка, якая натхняла Ф. Багушэвіча і Цётку. Паслухаць, дык адно баян і цымбалы выконваюць беларускія мелодыі. Чужымі здаюцца нам ужо імёны Зося, Стася, Язэп, Ядвіга, Францішак, Адам. Між тым іх насілі выдатныя прадстаўнікі нашай культуры, шматлікія героі літаратурных твораў. Я з трывогай думаю, што мой сын можа і не палічыць «Касіў Ясь канюшыну» беларускай песняй, бо не існуе зараз такое імя. Чамусьці ўсе Янкі па пашпарту пішуцца Іванамі, а з нечай лёгкай рукі горад Янаў завецца Іванава (чытаеш і блытаеш часам з вядомым рускім горадам).

В. ЧАЙЧЫЦ.
г. Масква.

# А як жа грамадская думка?

Мы прачыталі інтэрв'ю з намеснікам старшыні Дзяржбуда БССР Л. В. Маскалевічам («ЛіМ», нумар за 7 жніўня гэтага года), і нас агарнула сумнае пачуццё. Бо з гэтага інтэрв'ю вынікае, што за аснову рэгенерацыі Верхняга горада ўзяты праект Мінскпраекта. Прычым няма ні слова нават аб існаванні праекта Белрэстаўрацыі. Але ж літаральна за месяц да з'яўлення гэтага артыкула мы прысутнічалі на абмеркаванні праектаў рэгенерацыі старога Мінска, дзе гаварылася аб непрафесіяналізме і нават шкоднасці аднаўлення Верхняга горада па праекце, распрацаваным архітэктарамі Левіным, Градавым, Дзятлавым і іншымі. У абарону гэтага «твора» не выказаўся ніхто з прысутных, акрамя саміх аўтараў.

Не зразумела, чаму зараз, калі столькі ўвагі аддаецца грамадскай думцы, тав. Маскалевіч і тая арганізацыя, якую ён прадстаўляе, цалкам праігнаравалі гэтую думку?

І таму ў нас узнікла пытанне: для чаго трэба было рабіць тое абмеркаванне? Ці не дзеля звычайнай адчэпкі?

Н. КЛЕНІЦКАЯ,
студэнтка БДТМІ,
С. ГРАЧУХІНА,
студэнтка МПІ.

# «Музыка ствараецца і для мяне...»

Чаму сёння так востра ўзнікла пытанне з так званай сучаснай музыкай? Відаць, таму, што мы не бачылі, ці бачылі і замоўчвалі, музычныя захапленні падлеткаў, якія ўжо зрабіліся сталымі людзьмі з пэўным густам. Пра рок-музыку апошнім часам было выказана шмат меркаванняў, якія выразна падзяляюцца на дзве групы. Адно меркаванне — гэта рэчаіснасць, сучаснасць, якой не пазбегнуць, таму трэба прыняць праяўленне рознага «металу». Другія даводзяць, што рок — з'ява шкодная для нашай музычнай культуры, што сапраўднае мастацтва толькі там, дзе чалавек узбагачаецца духоўна. Таму, маўляў, «рок» трэба забараніць. Мне здаецца, што мы не павінны адгароджвацца мураванай сцяной ад замежнай музычнай культуры, але навошто ж успрымаць яе як найлепшыя дасягненні, а нацыянальны песенны мелас недаацэньваць, пагарджаць ім?

Я не музыкант, я інжынер па адукацыі, але музыка ствараецца і для мяне, для такіх, як я, а мне не вельмі хочацца карыстацца тым, што робіцца па замежных узорах.

В. АРЛОЎ,
інжынер.
г. Віцебск.

# Не паклапаціліся...

Больш за два гады назад атрымаў Гродзенскі абласны драматычны тэатр новае памяшканне. Пра тэатральнае наваселле, памятаецца, паведамляў і «ЛіМ», друкуючы на вокладцы фотаздымак нязвыклай формы будынка, які імкліва ўзнёсся над Нёманам. Што і казаць, прыгожа!

Але з цягам часу ў супрацоўнікаў тэатра з'явіліся і новыя клопаты, якія не назавеш прыемнымі... Справа ў тым, што, у адпаведнасці з праектам, па перыметры будынка вынесены жалезабетонныя апоры, абліцаваныя вапнавымі плітамі. На абліцоўцы з'явіліся непрывабныя чорна-зялёныя плямы — паверхня вымагае сістэматычнай апрацоўкі. Але ж вышыня апор дасягае 26-ці метраў! Тое самае з вялізнымі вокнамі, якія трэба рэгулярна мыць, а вышыня іх — да 17-ці метраў...

Як, пры дапамозе чаго можна «пакарыць» гэтыя вышыні, — вось пытанне, якое вельмі хвалюе супрацоўнікаў тэатра. Але адказу на яго атрымаць не могуць, хоць, па логіцы, адказаць абавязаны заказчык — абласное ўпраўленне культуры. Заказваючы маскоўскаму інстытуту «Дзіпратэатр» праектна-каштарысную дакументацыю, варта было прадугледзець неабходныя ўмовы для нармальнай эксплуатацыі. Але праекціроўшчыкі не распрацавалі, а заказчык не арганізаваў выраб спецыяльных прыстасаванняў — ці то люлек, ці то вышак. Своечасова не падумалі, не паклапаціліся... І што цяпер?

— Дырэкцыі тэатра неабходна праявіць больш ініцыятывы, адшукаць чарцяжы, заказаць патрэбныя вырабы, — катэгарычна сцвярджае намеснік начальніка абласнога ўпраўлення культуры М. Шаўцоў.

З гэтым не пагаджаецца сам тэатр — маўляў, наша справа ставіць спектаклі, а не выпраўляць чыйсьці недагляд.

— Дарэчы, заказчык дагэтуль не забяспечыў нас прадугледжанымі праектам стацыянарнымі магнітафонамі, — гаворыць мастацкі кіраўнік тэатра І. Пятроўскі. — Апаратура, на якой мы працуем цяпер, — старая, бытавая, — не вытрымлівае аніякай крытыкі і адмоўна ўплывае на агульную культуру нашых пастановак.

С. БАРМАШ,
інжынер-будаўнік.

# Паказваць скарбніцу ўсім

Я часта бываю ў Мінску. І вось у чарговы раз атрымаў асалоду ад наведання Музея старажытнай беларускай культуры АН БССР. Аднак выклікае горкія пачуцці той факт, што музей адкрыты практычна толькі для груп «Інтурыста» і некаторых абраных. Тут, пэўна, няма віны супрацоўнікаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук, якому музей належыць, бо экскурсійнае абслугоўванне не ўваходзіць у задачы інстытута і не прадугледжана штатным раскладам. Хочацца сказаць вялікае дзякуй стваральнікам музея. Але другой такой экспазіцыі ў рэспубліцы няма. І хіба старажытнае мастацтва беларускага народа ўяўляе цікавасць толькі для замежных турыстаў? Становішча здаецца мне ненармальным. Музей заслугоўвае права на статус агульнадаступнага.

С. ПАПОЎ,
выкладчык.
г. Масква.

# Адрас для сацыёлагаў

Я вучуся ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце на гісторыка-філалагічным факультэце, наш чацвёрты курс беларуска-рускага аддзялення, можна сказаць, — рэзерв спецыялістаў роднай мовы і літаратуры. Дзе, як не тут, павінен праяўляцца натуральны інтарэс да беларускай перыёдыкі, да тых праблем, што ўзнімаюць «Маладосць», «Чырвоная змена», «Народная асвета», «Полымя», «ЛіМ». Але з 69-ці студэнтаў чацвёртага курса гэтыя выданні выпісваюць 5—10 чалавек. Можа, гэта не так ужо і дрэнна, калі прыняць пад увагу, што падпісацца на ўсе выданні аднаму студэнту няпроста, ды і няма патрэбы. Можна, скажам, адзін ці два экзэмпляры выпісаць на групу. Але на самай справе атрымліваецца, што чытае гэтыя выданні толькі той, хто іх выпісвае. Астатнія аддаюць перавагу выданням на рускай мове. Чаму? Гэтае пытанне патрабуе даследавання, а яно нікім не рабілася. Патрэбна, на маю думку, правесці такое даследаванне сіламі спецыялістаў-сацыёлагаў.

М. ШУКАНАЎ,
студэнт ГДУ.
г. Гомель.

# ПРА ЧЫТАЦКІ ПОПЫТ І ІНШАЕ

Нядаўна ў кніжных магазінах і кіёсках нашага горада з'явілася выданне кнігі Ч. Айтматава «Буранны паўстанак» на беларускай мове. На лепшай паперы, цудоўна ілюстраваная, кніга мае памер з сямейны альбом. На жаль, у нашай школьнай бібліятэцы няма кнігі «Буранны паўстанак» (ёсць часопісная публікацыя рамана). Але на беларускай мове кніга нам, бадай, і не патрэбна. Айтматава вывучаюць па курсу «Літаратура народаў СССР» на ўроках рускай літаратуры ў старэйшых класах і чытаюць, вядома, на рускай мове.

Можна мне запярэчыць: маўляў, гэта выданне і не прызначаецца для школьных бібліятэк і для вывучэння на ўроках. А для каго яно прызначаецца? Для чытача «наогул», нейкага масавага, сярэднеарыфметычнага чытача кнігі, на маю думку, выдаваць нельга. Гэта, даруйце за параўнанне, будзе амаль тое ж самае, што шыць сукенку для «жанчыны наогул», без уліку яе густу, узросту, камплекцыі і г. д. Нашылі ўжо такіх сукенак і такіх паліто, вісяць гадамі ў магазінах і на складах.

Дык каму канкрэтна патрэбны Ч. Айтматаў на беларускай мове? Дададзім сюды, напрыклад, Коба Абэ («Жанчына ў пясках»), якога я бачу ў адным кніжным магазіне ўжо, мабыць, з год на адным і тым жа месцы. Чытач гарадской масавай бібліятэкі таксама наўрад ці возьмецца за Айтматава ў перакладзе, бо ў гэтым няма ніякай патрэбы, ён прачытае яго ў арыгінале. Магчыма, гэтыя кнігі выдаюцца для сельскіх бібліятэк? Вельмі ўжо раскошныя выданні, дарагавата. Але галоўнае: ці будуць яе чытаць у вёсцы? Мая сястра працуе ў сельскай бібліятэцы і сцвярджае, што не, там таксама чытач аддае перавагу Айтматаву, або замежным пісьменнікам, або рускім пісьменнікам — на рускай мове. Ці вывучае хто гэты чытацкі попыт? У мяне такое ўражанне, што гэта нікога не цікавіць.

Возьмем цяпер беларускую літаратуру. Тут крэн у другі бок. Праходзяць вучні на ўроку беларускай літаратуры такія творы, як М. Лынькова «Міколка - паравоз», Я. Маўра «Палескія рабінзоны», В. Вольскага «Тры падарожжы ў краіну беларусаў», Я. Брыля «Птушкі і гнёзды», А. Васілевіч «Расці, Ганька», К. Чорнага «Настачка», — гэты спіс можна доўжыць і доўжыць, а ў школьнай бібліятэцы яны або ўсе на рускай мове, як, напрыклад, у нас «Палескія рабінзоны», або толькі ў адным-двух экзэмплярах, ды і то ў зборы твораў (як «Першы генерал» І. Шамякіна, «Сірочы хлеб» Я. Брыля). А тое, што ёсць на беларускай мове, выдана дваццаць, а то і трыццаць гадоў таму назад, састарэлае і абшарпанае, нягледзячы на нашы гераічныя намаганні падклеіць, падшыць, падрамантаваць...

Вось і зараз ідуць да мяне ў бібліятэку дзеці са спісамі рэкамендаваных для чытання твораў. Аднаму-другому яшчэ нешта знойдзеш, а астатнім вымушана гаварыць «няма» або «вазьмі на рускай мове». І бяруць на рускай мове Чорнага і Лынькова, Быкава і Мележа, бо лепш ужо прачытаць на рускай мове, чым не прачытаць зусім. Але ці парадак гэта? Як жа нам не сорамна, што мы не можам задаволіць свайго, беларускага, чытача сваёй, беларускай, кнігай? Не ведаю, як выдавецтвам, а мне — сорамна.

Я ні ў якім выпадку не хачу сказаць, што Быкаў ці Шамякін не патрэбны на рускай мове. Вельмі патрэбны. Нават у нас, у Беларусі, многія любяць, ахвотна купляюць, бяруць у бібліятэках кнігі беларускіх пісьменнікаў на рускай мове. Але перш чым перакладаць і выдаваць такую кнігу, трэба цалкам задаволіць попыт чытача на арыгінал! Трэба, каб нашы дзеці вывучалі і Лынькова, і Маўра, і Коласа, і Вольскага на той мове, на якой пісаў свой твор пісьменнік, таму што нават самы бездакорны пераклад, — гэта толькі больш ці менш удалая копія.

Звычайна выдавецтвы спасылаюцца на нястачу паперы і другія вельмі аб'ектыўныя прычыны. Нястача паперы? Можа, замест Айтматава на беларускай мове, які яшчэ ці знойдзе свайго чытача, трэба друкаваць тое, што так патрабуецца сёння, асабліва тое, што вывучаецца ў школе?

Некалькі слоў пра сябе. Працую ў школьнай бібліятэцы дзесяць гадоў, выкладаю англійскую мову і вельмі люблю беларускую літаратуру, асабліва В. Быкава, таленту якога пакланяюся і творы якога ніколі не чытаю ў перакладзе. Дарэчы, такім жа любімым пісьменнікам з'яўляецца для мяне і Чынгіз Айтматаў.

Л. КАВАЛЬКОВА.
г. Магілёў.

# ХАЙ БУДЗЕ ДЫЯЛОГ

Прачытаў ліст у рэдакцыю «Раз — і знялі...» (№ 29 за 17 ліпеня г. г.), які даслалі члены выставачнага камітэта абласной фотавыстаўкі. Раз і знялі, — як гэта проста. Тыя, хто знімае, могуць з задавальненнем пацёрці рукі — і на рэспубліканскай фотавыстаўцы не было тых работ, і ўвогуле не было работ новых, яркіх, праблемных. Тое, што здарылася, толькі яшчэ раз засведчыла, што ў перабудовы шмат непрыхільнікаў. Кепска, што гэтыя людзі маюць дачыненне да мастацтва. Такія, як Н. Кюнар і ёй падобныя, штурхаюць нас да бездухоўнасці, падрываюць жаданне працаваць.

Дык што, прасцей нам думаць штампамі, ствараць прахадныя фота, бо іх не здымуць з экспазіцый? А між тым — пара здымаць бесканфліктнае, немастацкае. Пара, і да гэтага нас усіх заклікае партыя, пара абыходзіцца без тых, хто не жадае і не можа перабудавацца. І вельмі хочацца спадзявацца, што будуць у экспазіцыях канфліктныя фотаздымкі, а вось такіх канфліктаў не будзе. Будзе дыялог зацікаўленых у развіцці фотамастацтва людзей, а не забаронны маналог адміністратараў. Увогуле апошняе слова павінна быць за гледачом.

І. ПЯТРОВІЧ,
фотааматар.
г. Мінск.

КНІГАПІС

ЯНКА БРЫЛЬ
АД СЯЎБЫ ДА ЖНІВА
АПАВЯДАННІ

Я. БРЫЛЬ. Ад сяўбы да жніва. Апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.

**Змест аднатомніка Янкі Брыля «Ад сяўбы да жніва» склалі яго лепшыя творы, напісаныя за паўвека мастакоўскай дзейнасці. Сярод іх такія вядомыя апавяданні, як «Марыля», «Мой зямляк», «Праведнікі і зладзеі» і іншыя. Змешчаны таксама некаторыя з ранніх твораў Я. Брыля, якія па розных прычынах у яго кнігі не ўваходзілі.**




В. БЫКАЎ. Абеліск. Аповесць. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1986.

**Серыя мініяцюрных кніг, якую не першы год выпускае выдавецтва «Мастацкая літаратура», папоўнілася аповесцю Васіля Быкава «Абеліск». Кніга выдадзена на грамадскіх пачатках. Мастак Георгій Паплаўскі.**




В. ВІТКА. Бабуліны госці. Вершы. На рускай мове. Для маленькіх. М., «Детская литература», 1987.

**Тыражом два мільёны экземпляраў выдадзены гэты зборнік Васіля Віткі, перакладзены на рускую мову І. Такмаковай. Дасціпныя гісторыі, расказаныя старэйшынам беларускай дзіцячай літаратуры, думаецца, прыйдуцца даспадобы дзецям у розных кутках нашай неабсяжнай краіны.**




В. ВЯРБА. Белыя пісьмы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.

**Лепшыя з твораў Веры Вярбы, якія раней друкаваліся ў кнігах «Вочы вясны», «Высокосны год», «Альфа», «Яраслаўна» і іншых, увайшлі ў аднатомнік «Белыя пісьмы». Яны сведчаць аб шматграннасці творчасці паэтэсы, верш «Ручнікі» якой стаў народнай песняй.**

СПРЭЧКІ
ПАЛЕМІКА

**Галіна ТЫЧКО**

# Яшчэ раз пра вайну і пра народ...

У СУЧАСНЫМ літаратурным жыцці нямала надзённых ідэйна-эстэтычных праблем, якія патрабуюць сур'ёзнага абмеркавання. Сярод іх — праблема народнасці і праблемы вайны і міру, якія закранаюцца ў артыкуле Валянціна Акудовіча «Лёсы вайны — лёсы свету», надрукаваным у шостым нумары часопіса «Нёман» за гэты год. У падыходзе мастацкай літаратуры да тэмы вайны В. Акудовіча цікавіць перш за ўсё адпаведнасць псіхалагічнай і гістарычнай праўдзе. Эталонам выступае рэчаіснасць, адлюстраваная і асэнсаваная ў народнай свядомасці.

Літаратура пра першую сусветную вайну «адкрыла свету новы вобраз вайны, — піша В. Акудовіч. — І не проста новы, але якасна новы, раўназначны вобразу вайны ў народным разуменні». Які ж гэта вобраз? «І пры цары Гароху, і пры Мікалаі II для народа вайна была з'явай незразумелай, чужой, якая пярэчыла чалавечай натуры (бунт — іншая справа); «блажью великих мира сего», якія б прыгожыя ідэалы яны ні сцвярджалі народнай крывёй», — лічыць В. Акудовіч. Выснова гэтая без уліку канкрэтных фактаў з гісторыі таго ці іншага народа выглядае досыць спрэчнай. Як быць у такім разе са шматлікімі войнамі за незалежнасць, з Айчыннай вайной 1812 года? Тыя прыгожыя ідэалы, якія сцвярджаліся народнай крывёй пад час справядлівых войнаў, адпавядалі, напэўна, не толькі інтарэсам «великих мира сего», але не былі чужымі і ўсяму народу.

У сваім шчырым і справядлівым імкненні даказаць абсурднасць вайны ўвогуле В. Акудовіч робіць даволі нечаканыя абагульненні. «Але калі раней грамадская свядомасць не была на баку селяніна, народа, паколькі звязвала з вайной барацьбу за інтарэсы нацыі, дзяржавы, то нарэшце на гэты раз (у час першай сусветнай вайны. — **Г. Т.**) у вайны не знайшлося пераканаўчага алібі...» — піша ён. Аднак незразумела, як можна інтарэсы нацыі не звязваць з інтарэсамі селяніна, народа? Да таго ж грамадская свядомасць, як вядома, мае класавы характар, і нельга гаварыць, што грамадская свядомасць не была на баку народа, не ўдакладняючы, што гэта грамадская свядомасць эксплуататарскіх класаў.

Абгрунтоўваючы «новы вобраз вайны», які адпавядае народнаму разуменню ў творах А. Барбюса, Э. Хэмінгуэя, Э. Рэмарка, М. Гарэцкага, крытык сцвярджае, што «...упершыню пісьменнік не павінен быў шукаць апраўданне таму, чаму шукаць апраўданне заўсёды вельмі цяжка, упершыню ён змог глядзець на вайну ва ўсе вочы, а ўбачанае не было патрэбы ўкладваць у пракрустава ложа нацыянальнага патрыятызму». Безумоўна, калі ўзяць пад увагу вялікі грамадзянскі і антываенны запал В. Акудовіча, можна ўсе гэтыя «ўпершыню...» і «ва ўсе вочы...» палічыць проста выдаткам эмацыянальнай узрушанасці. Аднак неяк міжволі ўспамінаецца, што нават «пракрустава ложа нацыянальнага патрыятызму» не ў стане было перашкодзіць Л. Талстому ў «Вайне і міры» адлюстраваць усю жахлівасць і антычалавечнасць вайны. Дарэчы, што да нацыянальнага патрыятызму, то часамі ў В. Акудовіча ён сапраўды бывае залішнім. *У лік найбольш значных* твораў пра першую сусветную вайну крытык слушна ўключае «На імперыялістычнай вайне» М. Гарэцкага, *але пры гэтым* сарамліва зазначае: «Безумоўна, для папулярнасці ў масавага чытача «Запіскам Лявона Задумы» не хапае займальнасці калізіі, як напрыклад, у Хэмінгуэя, але маладая беларуская літаратура пачынала свой *шлях*, арыентуючыся на высокія ідэалы праўды і міласэрнасці, выпрацаваныя ў нетрах класічнай рускай літаратуры, і яе не цікавілі больш лёгкія шляхі да сэрца чытача». Навошта такі патрыятызм, які крыўдзіць Хэмінгуэя, прыпісваючы яму арыентацыю на сапсаваныя чытацкія густы, а заадно і класічную рускую літаратуру, адмаўляючы ёй у папулярнасці? Каб зразумець прычыны адносна невялікай папулярнасці «Запісак...» М. Гарэцкага, акрамя займальнасці калізіі, варта, напэўна, успомніць, што пра існаванне гэтага твора масавы чытач на працягу многіх гадоў і не здагадваўся, а яшчэ ўспомніць моўную сітуацыю ў рэспубліцы і той нацыянальны нігілізм, які, на жаль, яшчэ далёка не зжыў сябе ў адносінах масавага чытача да здабыткаў роднай культуры.

Аднак давайце вернемся да вайны і яе значэння для беларусаў і беларускай літаратуры, так, як гэта трактуецца ў артыкуле В. Акудовіча. «У новай гісторыі беларусаў не было справядлівых войн... не маючы сваёй дзяржаўнасці, за чые б нацыянальныя інтарэсы (ці амбіцыі) ні пралівалі кроў беларусы, чые б войны ні выгрывалі... гэта ў рэшце рэшт усё было іх паражэнне». Таму не дзіўна, што «беларусы толькі цяпер (у гады Вялікай Айчыннай вайны. — **Г. Т.**), у бязмерных муках і вялікай мужнасці, пацвердзілі высокае званне нацыі, сталі ва ўласнай свядомасці, як і ў свядомасці другіх народаў, народам з вялікім гістарычным лёсам», — піша В. Акудовіч.

Беларуская нацыя, з усімі характэрнымі яе адзнакамі — агульнасцю мовы, тэрыторыі, эканамічнага жыцця і псіхічнага складу, які выяўляецца ў агульнасці нацыянальнай культуры — сфарміравалася, як вядома, на працягу XIX стагоддзя. І паколькі нацыя, па вызначэнню У. І. Леніна, — «непазбежны прадукт і непазбежная форма грамадскага развіцця», то можна толькі здагадвацца, што хацеў сказаць В. Акудовіч гэтым: **«пацвердзілі высокае званне нацыі»**.

**Ніхто не стане аспрэчваць уплыву падзей Вялікай Айчыннай вайны на нацыянальную свядомасць, аднак ці трэба гэты ўплыў так перабольшваць і прыпісваць яму заслугу абуджэння нацыянальнай свядомасці беларускага народа, бо менавіта гэтую думку хоча** сцвердзіць В. Акудовіч. Ва ўяўленнях крытыка, аказваецца, склалася свая канцэпцыя, свой вобраз беларуса напярэдадні другой сусветнай вайны, што і выявіцца пазней у яго падыходзе *да аналізу мастацкіх твораў*. Вобраз гэты амаль цалкам укладваецца ў рамкі славутай цытаты з М. Дабралюбава і вядомага ўрыўка з «Чыгункі» М. Някрасава. Навошта ўспамінаць пра шматвекавую трагічную і гераічную гісторыю барацьбы беларускага народа за сваю незалежнасць, калі гэта супярэчыць аўтарскаму разуменню нацыянальнага характару, паводле якога нават не залпы «Аўроры», а толькі вогнішчы Хатыняў змаглі нарэшце раскатурхаць соннага і абыякавага да ўсяго беларуса, прымусілі яго ўзяцца за зброю, усвядоміць самому і даказаць іншым, што ён народ з вялікім гістарычным лёсам!

Менавіта гэтую на свой капыл і густ ушытую нацыянальную сярмягу беларуса і імкнецца прымерваць крытык героям сучаснай беларускай прозы, не надта турбуючыся, што яна не зусім адпавядае канкрэтным гістарычным меркам і абставінам.

«Суровыя лейтэнанты», — сцвярджае В. Акудовіч, — не сказалі і не маглі сказаць усёй праўды пра вайну. ...Яны звузілі і мастацкія рамкі ваеннай прозы да жанру кароткай аповесці, што і натуральна, паколькі прозе, якая выяўляе «абвостраную» праўду вайны, было не пад сілу аб'яднаць у сабе эпічную прастору, якая распаўсюджваецца на у с ю праўду вайны». На думку В. Акудовіча, «бясконцае тыражыраванне амаль што аднаго подзвігу капітана Тушына.., значна звязала яе (ваенную прозу. — **Г. Т.**) на шляху да рэалістычнага ідэалу». І нават В. Быкаў, вялікую ролю якога «ў зніжэнні «матэрыяльнага» выніку подзвігу да яго духоўнага эквіваленту» крытык прызнае, «так і не змог канчаткова пераступіць у новую рэальнасць, утвораную не прыватнай праўдай вайны, а высокай непраходзячай праўдай жыцця».

Для таго каб зразумець, што мае на ўвазе крытык пад «у с ё й праўдай вайны», «рэалістычным ідэалам» і «новай рэальнасцю, утворанай... высокай непраходзячай праўдай жыцця», варта звярнуць увагу на тыя творы, хутчэй нават моманты ў творах, дзе ён гэтыя катэгорыі знаходзіць. Так, сур'ёзным здабыткам рамана І. Чыгрынава «Плач перапёлкі» крытык лічыць «гістарычна аб'ектыўны погляд на комплекс паводзін героя ва ўмовах акупацыі» і ў пацвярджэнне сваёй думкі прыводзіць дыялог з рамана, сутнасць якога зводзіцца да фразы «ў людзей пакуль што злосці на акупанта няма». Высока і цалкам справядліва ацэньваючы раман Я. Брыля «Птушкі і гнёзды», В. Акудовіч бачыць «праўду жыцця» ў тым, што Алесь Руневіч паводзіць сябе зусім інакш, чым героі нашай ваеннай прозы: карацей кажучы, «ні пра якія подзвігі *не думае, ён проста хоча хутчэй вярнуцца дадому*».

Цяжка не пагадзіцца з крытыкам, што значэнне і вартасць рамана Я. Брыля яшчэ недастаткова ацэнены і ўсвядомлены нашым літаратуразнаўствам. Нельга адмаўляць гістарычную і псіхалагічную праўдзівасць як самога твора, так і вобраза Алеся Руневіча. Але карані гэтай гістарычнай праўды ў абмалёўцы нацыянальнага характару, у адлюстраванні комплексу паводзін беларуса, праўды яго жыцця на вайне хаваюцца, думаецца, не там, дзе іх знаходзіць В. Акудовіч. Калі не забывацца на канкрэтна гістарычныя абставіны, у якіх знаходзіцца заходнебеларускі юнак, жаўнер войска польскага Алесь Руневіч, то яго імкненне дадому будзе такім жа натуральным і гэтаксама адпавядаць гістарычнай праўдзе і сутнасці нацыянальнага характару, як і імкненне Агеева («Кар'ер» В. Быкава) далучыцца да рэгулярнай арміі ці партызанскага атрада, каб змагацца з ворагам. А гэта ўжо само па сабе, на думку В. Акудовіча, з'яўляецца імкненнем да подзвігу. Аднак хіба можна не звяртаць увагу на тое, што другая сусветная вайна для Заходняй Беларусі пачалася ў 1939 годзе, што свядомасць заходнебеларускага юнака фарміравалася пад уплывам зусім іншых сацыяльна-палітычных умоў, чым у Савецкай Беларусі? Хіба можна не ўлічваць факты з біяграфіі пісьменніка, якія робяць вялікі ўплыў на тэматыку і асаблівасці творчай манеры? Аказваецца, можна. У выніку нацыянальная сярмяга В. Акудовіча да твару прыходзіцца герою Я. Брыля, затое зусім не пасуе героям В. Быкава.

У размове пра «Знак бяды» сваё разуменне нацыянальнага характару, у с ё й праўды жыцця беларуса на вайне крытык выказвае яшчэ больш канкрэтна: «...возьмем на сябе смеласць прадказаць, што нацыянальны характар вырасце ў творчасці пісьменніка (калі вырасце) не з Сотнікава, а з Петрака, пераадолеўшага сябе, сваю шматвекавую пакорлівасць і цярплівасць, сваю маральную абыякавасць да грамадскіх турбот, непрацiўленне і раўнадушша перад непазбежнасцю прыгнечанага лёсу». Цяпер зразумела, чаму «інтэлігентныя» героі В. Быкава, «ад пачатку запраграмаваныя на подзвіг», не маглі выявіць у с ё й праўды вайны і рэалістычнага ідэалу, бо гэта ж не яны, а «эгаістычна мудры, па-сялянску, мудры для с я б е Пятрок аб'ектыўна выяўляе беларуса напярэдадні апакаліпсічных выпрабаванняў».

Цікава, да якога ж часу нашы ўяўленні пра нацыянальны характар беларуса будуць суадносіцца выключна з вясковаю хатай, з воблікам «эгаістычна мудрага для сябе» селяніна?! Ніхто не стане пярэчыць, што напярэдадні другой сусветнай вайны Беларусь была пераважна аграрнай краінай. Але нават у аграрнай краіне нешматлікі рабочы клас і інтэлігенцыя з такім жа правам выяўляюць асноўныя рысы нацыянальнага характару, як і сяляне. І таму ўсе тыя «інтэлігентныя» героі В. Быкава незалежна ад узроўню адукаванасці і сацыяльнага паходжання, хацелася б таго В. Акудовічу ці не, аб'ектыўна выяўляюць не туркаў ці грузін, а такіх жа беларусаў, як Пятрок і Сцепаніда, Зазыба і Вапшчэткі, Алесь Руневіч і Міця Корсак.

Нельга не прызнаць, што часамі вёска і клас сялянства ў нашай літаратуры залішне ідэалізуюцца, але, думаецца, не менш шкоднай з'яўляецца і супроцьлеглая тэндэнцыя: свядомае ці несвядомае, насуперак рэальным гістарычным фактам, агульнае прыніжэнне духоўнага вобліку селяніна, яго маральна-этычных, жыццёвых норм.

В. Акудовіч, які так высока ацэньвае творчасць і асобу М. Гарэцкага, чамусьці забываецца на выказванне А. Ада-

**(Заканчэнне на стар. 12).**

**ПАДЗЕІ І ДАТЫ**

# ВЫТОКІ

АБ ВЫТОКАХ свайго таленту выдатныя пісьменнікі расказваюць па-рознаму, у розных жанрах — у аўтабіяграфічных аповесцях, эсэ, мемуарах. Але, па-мойму, найлепш робяць гэта паэты — у сваёй лірыцы, якой аддаюцца ўсё творчае жыццё.

Падобным узорам з'яўляецца лірыка Максіма Танка. У ёй — раскрыццё тайны паэтычнага даравання, яна льецца сокамі зямлі, дрэў, народнай мудрасці, гучыць адвечнай песняй, што з незапомных часоў звінела над роднай зямлёй, славячы яе прыгажосць, славячы радасці жыцця, перамогі, і аплакваючы нядолю чалавечую, пакуты, ахвяры ў барацьбе.

Празаічна кажучы: усё пачынаецца з роднай хаты, з роднага падворка, з лесу і поля, вытаптанага босымі нагамі. Але вось цуд. Здаецца, яны падобныя, нашы хаты, нашы краявіды, але сапраўдны мастак умее расказаць пра іх так, што расказ яго робіцца з'явай літаратуры, культуры, і ён чытаецца з цікавасцю і тымі, хто знаёмы з таямніцамі творчасці, і ўсімі тымі, каго з удзячнасцю называем **нашымі чытачамі.** І яшчэ адно: сапраўдны паэт вучыцца ў сваіх вялікіх настаўнікаў, але ніколі не паўтарае іх. І пра вытокі свайго даравання ён расказвае па-свойму. Таму гэта і цікава.

Калі я, будучы яшчэ настаўнікам, маладым пісьменнікам, прагна чытаў вершы, паэмы Максіма Танка пра яго азёрны нарачанскі край, то мне, быламу салдату, які бачыў і кольскія сопкі, і карэльскія азёры, і польскія, нямецкія прасторы ўгледжанай зямлі, край гэты — нарачанскі — здаваўся незвычайным, поўным паэтычных цудаў. Такая сіла паэзіі! Успамінаю: з хваляваннем ехаў я ўпершыню туды, на Нарач, ехаў у госці да Максіма Танка, да Міхася Лынькова, якія на пачатку пяцідзесятых гадоў пасяліліся на пустынным тады беразе Нарачы. І адбыўся цуд: край той, далёкі ад маёй Гомельшчыны, зачараваў гэтак жа, як некалі прасторы лугоў у пойме Сожа і Дняпра. Думаю, гэтай зачараванасці памагла паэзія Максіма Танка, з якім я ў той час шчыра пасябраваў. У любові той я верны дагэтуль. Недарэмна апошнія дзесяць гадоў не прызнаю ніякіх іншых курортаў, ні паўднёвых, ні паўночных, акрамя Нарачы. Гуляю па беразе, любуюся то на задумліва ціхую, то пагрозліва бурную Нарач, узіраюся ў супрацьлеглы бераг, дзе паміж гмахаў санаторыяў, курортнага пасёлка туляцца ля самай вады тры простыя драўляныя хаціны — дачы Танка, Лынькова, Куляшова — робіцца мне і радасна, і сумна. Радасна — ад неўміручасці паэзіі, сумна — ад хуткаплыннасці жыцця. Ці даўно мы там сустракаліся — Аркадзь Куляшоў, Андрэй Макаёнак, Максім Танк, Янка Брыль, Алесь Кучар — і пасля вячэрняга кастра слухалі мудрэйшага і старэйшага паміж намі — Міхася Ціханавіча Лынькова. Аднак гэта ўжо мінорная нота, не юбілейная. Але не будзем праганяць і яе, мы — рэалісты.

Неаднойчы наведваўся я і ў Пількаўшчыну. Хадзіў па тым полі і лесе, дзе пасвіў каровы Жэня Скурко, піў з тых крыніц, што паілі будучага вялікага паэта з грозным псеўданімам і чулай добрай душой, якая грэе яго лірычнае слова.

Хораша акунуцца ў вытокі паэта, якога любіш, сябра — усё роўна як і ў крыніцы свайго ўласнага маленства.

# З ЧАГО ПАЧЫНАЕЦЦА ПЕСНЯ

НАПЭЎНА, у кожнага ёсць свае любімыя паэты, напэўна, у кожнага ёсць асабістая, ім самім складзеная хрэстаматыя паэтычных каштоўнасцей, якая, магчыма, не заўсёды супадае з хрэстаматыяй афіцыйнай, школьнай... І гэта натуральна: у кнізе чытач шукае перш за ўсё тое, што найбольш сугучна ладу яго думак і пачуццяў, што найбольш блізка перажытаму ім.

І калі ў маёй паэтычнай бібліятэцы вершы Максіма Танка даўно ўжо займаюць месца ў шэрагу самых лепшых паэтаў сучаснасці, дык гэта, мне здаецца, не толькі таму, што ён шырока прызнаны мастак слова, але яшчэ і таму, што калыскай яго музы была падпольная рэвалюцыйная барацьба ў былой Заходняй Беларусі, дзе прайшло і маё маленства...

Калі перачытваеш раннія вершы Максіма Танка, напісаныя шмат гадоў назад, захапляе тое, як шчасліва ў іх спалучаюцца бытавыя малюнкі сялянскага жыцця з рамантычнай узнёсласцю, паэтычнай акрыленасцю. Скупымі, але ёмкімі дэталямі ён умее адлюстраваць духоўнае станаўленне свайго лірычнага героя, прасачыць, як паслухмяны сваім панам працаўнік вырастае да ўзроўню свядомага змагара, упэўненага ў перамозе сваёй справы, у тым, што ён плугам «выарэ хутка і сонца». Думаецца, адной з прычын зайздроснага даўгалецця ранніх танкаўскіх вершаў, іх непазбыўнага абаяння з'яўляецца тое, што ў іх рэвалюцыйны пафас паэта выказваўся не ў дэкларацыях, а знаходзіў вобразнае ўвасабленне ва ўсёй складанай гаме чалавечых пачуццяў і перажыванняў.

Любуючыся шчодрымі дарамі чалавечай працы — яблыкамі і памідорамі, якія павёз цягнік, каб «іх сонца дагарала на шыбах вітрын», паэт з болем у душы канстатуе, што гэтым сонцам ніколі ўдоваль не напіцца «сіротам малым з беспрацоўных кварталаў» (верш «Павязлі цягнікі»). Усведамленне гэтага нясцерпнага кантрасту паміж невычэрпнымі матэрыяльнымі і духоўнымі магчымасцямі, якія тояцца ў народзе, і сілай сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, што іх скоўвае, надае паэзіі М. Танка сапраўдны драматызм. З няўмольным сарказмам, з гнеўнай іроніяй кляйміць паэт прыгнятальнікаў народа, іх казённую дэмагогію, іх езуіцкае фарысейства, іх «справядлівасць панскую», дзякуючы якой ва ўсім краі адбываецца «магутны ўздым будаўніцтва касцёлаў, шыбеніц, астрогаў». Узмацненне карных рэпрэсій супраць бунтоўных мас працоўных, ахвяры і страты ў нялёгкай падпольнай барацьбе не маглі зламаць волю рэвалюцыйнага народа, які з надзеяй глядзеў на ўсход, верыў, што праб'е час уз'яднання са сваімі братамі ў адзінай вольнай сям'і: «Павук жалезны пераплёў акно. А мы гімн сонцу пішам на граніце...» І сёння гэтыя радкі, прасякнутыя непадробным юнацкім парывам, кідаюць выклік усім формам гвалту чалавека над чалавекам у краінах капіталу.

Цудоўная асаблівасць таленту Максіма Танка ў яго абвостраным адчуванні часу, у яго здольнасці з выключнай дакладнасцю ўлоўліваць дамінанты сацыяльнага і духоўнага жыцця грамадства ў той ці іншы перыяд. Ці не гэтая акрэсленасць грамадзянскага прыцэлу дапамагала паэту знаходзіць заўсёды свежыя і арганічныя мастацкія формы, у якіх паўнакроўна ўвасабляўся ідэйны змест яго твораў? Таму, нягледзячы на ўсе змены, якія спадарожнічалі развіццю творчасці паэта, яна заставалася на дзіва цэльнай.

Чытачы розных пакаленняў знаходзяць у паэта тое, што найбольш імпануе перажытаму імі, што з найбольшай сілай кранала пачуцці і розум у той ці іншы перыяд станаўлення нашага сацыялістычнага грамадства. Тыя, у чыёй памяці захаваліся страшныя малюнкі акупіраванай фашыстамі роднай зямлі і ўсенароднай вайны за яе вызваленне, відавочна, узялі ў свой чытацкі актыў такія вершы, як «Не шкадуйце», хлопцы, пораху», «Гастэла», «Байцу першага беларускага фронту», «Яшчэ нямала вёрст і дзён», «Маці», «Рэквіем».

Натуральна, прадстаўнікам больш маладзейшых чытацкіх генерацый бліжэй вершы паэта, напісаныя ў апошнія гады. Невымерна прасторны і ёмісты свет у новых паэтычных творах Максіма Танка. Здаецца, міма яго мастакоўскага зроку не праходзіць ні адна колькі-небудзь значная падзея нашага грамадскага жыцця, ні адна рыса ў духоўным вобліку сучасніка. Пры гэтым шматграннасць чалавечых інтарэсаў, шырыня тэматычнага дыяпазону не распыляюць мастакоўскай увагі паэта, не перашкаджаюць яму заставацца засяроджаным у сцвярджэнні галоўных ідэй сваёй творчасці — справядлівасці, высакародства, актыўнасці ў адстойванні грамадзянскіх і маральных прынцыпаў.

Здаралася, спрэчкі нашай крытыкі пра традыцыі і наватарства набывалі адкрыта схаластычны характар, калі адны ўзносілі як найвышэйшае дасягненне раскаваны асацыятыўны вобраз, вольны верш, а другія безапеляцыйна накладвалі табу на ўсякую спробу выйсці за рамкі сілаба-тонікі, за рамкі класічнай рытмічнай арганізацыі радка. Думаецца, творчы вопыт Максіма Танка дае добры адказ на пытанне, у чым сутнасць сапраўднага паэтычнага наватарства. Калі пошукі той ці іншай формы прадыктаваны не капрызамі моды, а патрэбаю спасцігнуць дух свайго часу, улавіць яго рытм, яго вобраз, спраецыраваны ў душэўным свеце сучасніка, тады гэтая форма не будзе падабенствам адзення з чужога пляча. У сваіх пошуках паэт абапіраецца на асноўны прынцып развіцця мастацкай творчасці — дыялектычную залежнасць новага ад старога. Калі чытаеш такія вершы Максіма Танка, як «Узыход сонца», «Хоць раз у год», «Аптымізм», «Каляндар рэвалюцыі», у якіх самыя звычайныя з'явы і рэчы нашага жыцця азораны святлом высокай паэтычнай думкі, чалавечай заклапочанасці тым, як уратаваць на зямлі самую галоўную каштоўнасць — Чалавека, — неяк не заўважаеш, што гэтыя творы напісаны верлібрам:

**Бадай, ні адна гісторыя**
**Каранаванай фаміліі**
**Не можа сапернічаць**
**з летапісам**
**Маёй мужыцкай дынастыі.**
**Яе радкі накрэслены**
**галавешкамі**
**Спаленых памешчыцкіх**
**маёнткаў,**
**Сціснутымі кулакамі,**
**Цяжкімі, як гнеў,**
**Яе аўтары непісьменныя**
**Замест подпісаў ставілі**
**крыжыкі.**
**Вырывалі каты не раз**
**Старонкі з гэтага летапісу,**
**Перакрэслівалі гісторыю роду**
**Штыкамі і бізунамі,**
**Але яе радкі,**
**Нібы кроў праз бінты,**
**Праступаюць праз барозны**
**ворыва,**
**Праз мае бяссонныя песні.**

Гэтыя радкі шчырыя, як споведзь, праўдзівыя, як жыццё, натуральныя, як выдых, меладычныя, як песня, — і таму сучасныя, і таму даходзяць да сэрца чытача.

Пра юбіляраў прынята гаварыць, што яны душэўна маладыя. І калі мне хочацца сказаць тое ж самае і пра Максіма Танка, дык гэта зусім не таму, каб аддаць даніну звычаю, а таму, што паэт і ў свае семдзесят пяць захоўвае такую творчую энергію, такую працаздольнасць, якой могуць пазайздросціць многія маладыя. Прага рэвалюцыйнага абнаўлення жыцця, з якой пачалася песня паэта, ніколі не пакідала яго музы, надавала ёй нястомную дзёрзкасць творчага пошуку, імкненне пераўтвараць свет паводле ідэалаў справядлівасці і гуманізму. Максіму Танку і сёння няма патрэбы перабудоўвацца, ён заўсёды жыў і жыве па календары рэвалюцыі, марачы пра чалавечую еднасць, якая ўвасобіцца ў камуністычным грамадстве:

**Знаю я, што Зямля —**
**Нівы, горы,**
**лясы,**
**акіяны—**
**Калышацца ў сетцы густой**
**Паралеляў і мерыдыянаў,**
**Падвешаная да Палярнай**
**Звязды**
**Ці да Месяца.**
**Паэтычна.**
**Што ні кажы.**
**Але вось што Зямля**
**Уся граніцамі зрэзана**
**На квадраты, трыкутнікі**
**І шматкутнікі,**
**Што не толькі людзі,**
**Але песні,**
**птушкі,**
**бярэзіны**
**Не могуць без візаў сустрэцца,**
**Пакутнікі,—**
**З гэтым я не магу**
**Пагадзіцца.**
**І таму я—за камунізм,**
**Які перакрэсліць**
**Граніцы.**

Нялёгкая, але шчаслівая доля тых мастакоў, якія сваім творчым подзвігам атоесамілі сябе з родным народам. Такімі былі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч... Такі сёння і наш сучаснік Максім Танк.

Пятрусь МАКАЛЬ.



На пачатку творчага шляху. 1936 г.



У час Тыдня беларускай літаратуры ў Літве. 1958 г.



У Цэнтральнай кнігарні Мінска. 1956 г.



На Дэкадзе латышскай літаратуры ў Беларусі з Янам Судрабкалнам.

# Вучыцца ў жыцця

За акном гуляла завіруха. Я сядзеў за партай і чакаў. Чакаў з нецярпеннем, калі скончыцца ўрок. Карцела хутчэй прачытаць ліст, які на пачатку ўрока мне аддала настаўніца. На зваротным адрасе было напісана: «Мінск, Максім Танк».

Шчыра кажучы, я сумняваўся, калі пасылаў ліст у Мінск: ці ж будзе вядомы паэт займацца перапіскай з вучнем з такой маленькай вёскі, як Шыцікі? Ведаў, што ў паэта хапае клопатаў. Чаму менавіта Максіму Танку напісаў ліст? Мо па дзі-

У хаце, дзе вырас Максім Танк, прыгадваліся многія радкі.

**Калі трэба была песня —**
**Ні ў чые не грукаў дзверы.**
**Я яе знаходзіў дома,**
**Як пад лаваю сякеру,**
**Як у прыпечку — цяпельца,**
**У сальніцы — жменю солі,**
**На дрывотні — кій дарожны,**
**Жаўрука на родным полі.**

А калі песні патрэбны паэт — а ён заўсёды патрэбны! — то:

**Мяне знойдзе яна ў хаце**
**У тым жа нарачанскім краі...**

Жартуюць, што начальнік і яго намеснік рэдка звязаны шчырым сяброўствам. Я ажно чатырнаццаць гадоў працаваў разам з Максімам Танкам у Саюзе пісьменнікаў. І з прыемнасцю ўспамінаю тыя гады нашай сумеснай працы. Мы ніколі не стваралі адзін аднаму праблем, бо не дзялілі ні ўлады, ні славы. Хораша было з такім кіраўніком! Мудры, дасціпны, спакойны, іранічны да ўсялякіх бюракратычных праяў. З высокім творчым аўтарытэтам, што вельмі важна ў «камандаванні» пісьменніцкім корпусам. Добры генерал. Не, маршал — маршал паэзіі!

Разумею, дружа, прагучыць банальна, калі скажу, што не веру, што табе 75. Але, павер, гэта так. Няхай жа гэтаму не верыць ніхто — ні чытачы, калі будуць чытаць тваю заўжды маладую паэзію, ні сябры твае, субяседнікі, калі будуць слухаць твае дасціпныя жарты.

Здароўя табе і новага творчага шчасця, дарагі Яўген Іванавіч!

**Іван ШАМЯКІН.**



З А. Макаёнкам. 1961 г.



З Б. Сачанкам сярод воінаў у час вучэнняў «Бярэзіна». 1978 г.



Б. Сачанка, М. Танк, С. Законнікаў, С. Залыгін, В. Пяткявічус, Н. Гілевіч. 1984 г.

Фота Ул. КРУКА.

**цячай наіўнасці, што і мой дзень нараджэння ў верасні. А мо таму, што захаплялі вершы паэта.**

**Я беражліва захоўваю лісты ад Максіма Танка. Пра адзін з іх мне хочацца расказаць. Бо яго радкі, мне здаецца, і сёння маюць асаблівае значэнне для тых, хто пачынае пісаць. «Вучыцца трэба і тады, калі будзеце працаваць самастойна. Мы ведаем у літаратуры такія выпадкі, калі першыя творы былі добрымі, цікавымі, але пазней аўтар не апраўдваў ускладзеных на яго надзей. І наадварот, былі выпадкі, калі першыя творы ніхто не хацеў друкаваць, але аўтар, настойліва працуючы над сабой, змог развіць свае здольнасці, свой талент і стаў вядомым пісьменнікам. У рабоце пісьменніка вучоба — аснова асноў». «Галоўнае, якім бы вы майстэрствам ні авалодалі, да намечанай мэты трэба ісці настойліва, трэба вучыцца на сваіх памылках і дасягненнях, на памылках і дасягненнях сваіх сяброў па вучобе, працы, вучыцца ў жыцця». Гэтыя добрыя словы дапамаглі мне ў жыцці. Авалодаў прафесіяй журналіста, пішу для дзяцей і юнацтва.**

**Дарагі Яўген Іванавіч! Я запомніў вашы добрыя, жыццесцвярджальныя словы. У гэты вераснёўскі дзень вы адзначаеце сваё сямідзесяціпяцігоддзе. І не толькі вы, а ўсе мы, хто знаходзіць у вашай паэзіі натхненне, духоўную радасць.**

**Ф. РАМАШКА,**
**член Саюза журналістаў СССР.**

г. п. Шаркоўшчына,
Віцебская вобласць.

# Дзе растуць вершы

Максім Танк — глыбока нацыянальны, менавіта беларускі паэт, паэт свайго народа — і па мове, і па светапогляду, і па мысленню, і па адносінах да чалавека, да жывой і нежывой прыроды. Але ж яго паэзія якраз дзякуючы гэтаму і з'яўляецца інтэрнацыянальнаю, калі хочаце, сусветнаю, прыдатнаю для ўсіх народаў зямлі.

Ён знаходзіць свае вершы ля помніка Авідзію і ля помніка Янку Купалу, ля вясковага беларускага калодзежа і ля неапалітанскай затокі, ля навагрудскай гары і ў аснежаных Татрах.

Яго вершы растуць у роднай Пількаўшчыне, якую, як ён сам, усміхаючыся, расказвае, заснаваў вясёлы, такі ўжо беларускі-беларускі грэк, і на сцежках Суомі, што сціпла і годна, як і паэтава радзіма, не адразу і не кожнаму раскрывае хараство сваіх прастораў і людзей; на беразе Нарачы і ў Парыжы, у афрыканскіх джунглях і ля ціхай лясной крыніцы.

Да паэта можа проста і звычайна прыйсці Хрыстафор Калумб і сказаць: «Браце, а я цябе тры дні шукаю». А ўсе гэтыя прывабныя і чароўныя дзяўчаты з Коста-Рыкі, Венеры Мілоскія, манашкі і іншыя цудоўныя вобразы жанчын свету, якімі так шчодра населена паэзія Максіма Танка, — якія ж яны беларускія, свае, з маленства знаёмыя, з мілым і светлым клопатам жыць, жаць, кахаць, нараджаць і люляць дзяцей.

А вобразы беларускіх жанчын з Танкавай лірыкі! Яны, сарамлівыя і ласкавыя, прыгожыя і цнатлівыя, пяшчотныя і вясёлыя, працавітыя і годныя, дастойна ўпісваюцца ў кветнік жанчын свету, і іх з гордасцю можна паказваць у любым Лууры зямлі.

Вось гэтае натуральнае спалучэнне нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў мудрай і змястоўнай паэзіі Максіма Танка заўсёды ўражвала і ўражвае.

**Янка СІПАКОЎ.**

# НАД БЯЗДОННЕМ СЭРЦА

Цяжэй за ўсё выказаць любоў. Мо таму мы так часта спазняемся са словамі любові, са словамі прызнання, што і слоў такіх назапашана няшмат, а і з назапашаных, як схочаш, не возьмеш — свае трэба знайсці, сваё сэрца насустрач гэтым словам адкрыць. Здаецца, і знойдзеш, і вымавіш, а і тут выйдзе — вядомае паўторыш, сказанае кімсьці раней...

Што ж, няхай вядомае. Няхай сказанае кімсьці раней. Занадта часта, у гаворках пра сучаснікаў, згадваем мы тых, хто, мякка кажучы, не варты таго, і чамусьці амаль не згадваем, што жывём у час вялікіх здзяйсненняў, побач з людзьмі сапраўды вялікімі і сваімі справамі і сваімі душамі. Мо хіба толькі ў дні юбілеяў... Вось і я нібыта чакала столькі год нагоды, каб сказаць, што сярод тых, хто нясе ў душы шчырае захапленне паэзіяй Максіма Танка, асобай яго, — і я. Даўно. З таго часу, як усвядоміла паэтычнае слова, пачула музыку яго, то ўзнёслую, пяшчотную, то суровую, мужную. З таго часу, як паверыла — безаглядна! да канца! — што паэзія «не ведае белага флага ў каханні, жыцці, рэвалюцыі».

Каханне — жыццё — рэвалюцыя... Яны — непадзельныя. У кожным чалавечым лёсе. Калі ж гэта лёс паэта, то ў ім — за ім — лёс народа, лёс зямлі яго.

**Не пісаў бы, не складаў бы**
**Я вас, думы-песні,**
**Каб не вецер шызакрылы,**
**Вецер напрадвесні;**
**Каб не вербы над магілай**
**І не шум бярозкі**
**Над прасёлачнай дарогай,**
**Над маёю вёскай;**
**І не кагаран пужлівых**
**Гоман — крык балючы,**
**Каб не білася так Нарач**
**Аб крутыя кручы;**
**Каб не тыя маладыя**
**Дні ў мурах астрожных**
**І напевы векавыя**
**Сосен прыдарожных, —**

пісаў (уплыў класічнай паэзіі добра чуцен, праўда?) Максім Танк на пачатку свайго творчага шляху, і колькі маладых паэтаў паўтарылі потым гэтыя словы! — паўтарылі, спасылаючыся на свой шлях, на сваю ўлюбёнасць у жыццё, на сваю знітаванасць з роднай зямлёй.

Так, ёсць паэты, якія выпраменьваюць энергію, кожным вершам, кожным радком нібыта вызваляючы выбуховую сілу слоў, ці слова, — яны заўсёды апярэджваюць свой час, ярка вылучаюцца сярод сучаснікаў і (звычайна) не маюць яркіх паслядоўнікаў. А ёсць іншыя — я назвала б іх волатамі духу! — тыя, у чыёй душы, у чыёй творчасці знаходзяць жыццёвую сілу карані спаконвечнай духоўнасці, праз чыю душу, праз чыю творчасць праходзіць, здаецца, сама повязь часоў, повязь спадчыннасці. І адны і другія неабходны паэзіі, каб яна жыла, развівалася. І ўсё ж...

Адкінуўшы міжвольнае «ўсё ж», прызнаюся, што аддаю перавагу тым, другім, чые вёрсты-гады становяцца вехамі не адно на шляху развіцця паэзіі, а і на гістарычным шляху народа.

Францішак Багушэвіч, Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Іван Мележ, Аркадзь Куляшоў, Уладзімір Караткевіч, Максім Танк... Яны — не проста ўлюбёнцы паэзіі (перш за ўсё — паэзіі!), яны — носьбіты глыбіннай сутнасці народнай, душы народнай (калі льга гаварыць у дадзеным выпадку пра душу). І не незвычайнасцю лёсаў сваіх чалавечых (хоць і лёс у кожнага з іх незвычайны!) гэта тлумачыцца, а абраннішцтвам, прадвызначанасцю і лёсу і таленту, пра якую не нам, смяротным, разважаць — тут, дай бог, як кажуць, адчуць, зразумець!

Вялікія тым, мажліва, і вялікія, што, апісваючы жыццё, жыццёвыя падзеі і чалавечыя лёсы, штоміг помняць пра чалавечую душу — пра д у ш у! Якая ва ўсім — усё, чаго кранаецца чалавек, адухоўлена ім, яго душой, і перадаць гэта на словах не проста, амаль немагчыма. Магчыма — вялікім.

Калі ёсць душа, значыцца, няма, не можа быць безвыходнасці і трагедыі, якія дыктавала, здавалася б, сама смерць — паміралі героі, жыць заставаўся іх дух, з намі (у нас) заставаліся, засталіся іх душэўныя пакуты, іх душэўныя сумненні, іх спадзяванні. Повязь часоў — гэта повязь людзей, калі не толькі словам — праз дыханне! — а і жывым дотыкам рук ад чалавека да чалавека, з пакалення ў пакаленне перадаецца спадчыннае, вечнае—вечная прага духоўнасці, вечнае памкненне вырасці ў чалавечага сына... Так (мажліва, зусім не ў адпаведнасці з крытычнымі крытэрыямі) вызначыла б я канцэпцыю творчасці Максіма Танка. «***Аловак адабралі...», «Чакаем сонца», «Люцыян Таполя», «Мой хлеб надзённы», «Рукі маці», «Перапіска з зямлёй», «Гісторыя вёскі Пількаўшчына»... Вершы можна называць і называць, доўжачы часавую прастору іх, — сутнасць застанецца тая ж: чалавек жывы (і выжыве!) толькі прагай духоўнасці, толькі памкненнем вырасці ў чалавечага сына (думаю, гэта гучыць і працей і больш дакладна, чым «сын свайго народа», «сын свайго веку», «чалавек з вялікай літары»).

**Я пісаў зямлі многа лістоў**
**Пяром, якім пішуць лірычныя**
**песні,**
**Гімны розныя,**
**маніфесты;**
**Пісаў я смыкамі ўсіх скрыпак,**
**Якія смяюцца і плачуць;**
**Пісаў спіцамі дрогкіх калёс,**
**Якарамі і мачтамі караблёў,**
**Штыком**
**і сапёрнай лапатай;**
**Пісаў кубкамі, з якіх п'юць, —**
**За здароўе і вечную памяць, —**
**Але пакуль што**
**Адказ атрымаў я,**
**Напісаны плугам.**
**Вось ён,**
**Нарэжце на скібы яго.**
**Частуйцеся,**
**Ешце...**

За радкамі верша — не проста жыццё паэта, не толькі яго разуменне жыцця, *набытае праз нялёгкі і пераканаўчы вопыт*, тут — разуменне жыцця, набытае за доўгія стагоддзі *існавання людствам.*

Шмат і шмат кім пісалася пра філасафічнасць паэзіі Максіма Танка, пра філасофскі *склад яго мыслення*, і, прызнаюся, кожны раз гэта выклікала ў мяне ўсмешку: няма паэта, творцы без сваёй філасофіі, *нельга гаварыць* пра жыццё, не адштурхоўваючыся ад назапашаных людствам ведаў пра яго. Іншая справа, наколькі засвоены гэтыя веды, гэтае веданне, наколькі глыбока асэнсаваны і адчуты, наколькі значны след пакідаюць яны ў душы — і ў паэзіі.

«Ave Maria», «Багіня Перамогі», «Венера Мілоская», «***Перш непакоіўся...», «Бронзавае люстэрка», «***Парог, вычасаны з успамінаў...», «Стрэлкі гадзінніка»... Я люблю гэтыя вершы Максіма Танка. Мо таму, што ў іх, мажліва, больш, чым у іншых, аголена глыбіня паэтавага сэрца, безабароннага ў сваёй улюбёнасці ў жыццё і людзей сэрца.

Памятаеце?

**Калі балансіруе**
**Нейкі там канатаходзец,**
**Ад жаху замершы, маўчыце**
**Ці просіце: «Годзе!»**
**Чаму ж тады кожны**
**Галёкае: «Біс!» — і смяецца,**
**Калі над бяздоннем іду**
**Свайго сэрца?**

Як бы ўдала ні складваўся паэтычны лёс Максіма Танка, як бы высока ні быў ацэнены яго паэтычны талент, ні званні, ні ўзнагароды не засланілі, не засланяюць паэта ад трывог і бедаў свету, ад гора блізкіх і далёкіх, чужых людзей. І гэта — у першую чаргу! — сведчанне сапраўднасці, значнасці яго таленту. Значнасці — у свеце паэзіі. І ў свеце.

Неаднойчы заўважана і сказана пра гэта. Неаднойчы заўважана і — забыта: заўважана ж! адзначана! Адзначана... А паэт — зноў сам-насам з чыстым аркушам паперы, сам-насам са сваімі сумненнямі... Мне думаецца, гэта так важна помніць! Помніць і штораз рабіць крок насустрач паэту, насустрач яго слову. Бо як жа інакш выказаць сваю любоў да яго?

**Таіса БОНДАР.**

## ПАЭЗІЯ

Сяргей ГРАХОЎСКІ



### Любімая і родная

Дзве родныя мовы, як два ручаі,
Зліліся і сталі крыніцай жывою.
Мне курскія ў Глуску пяюць салаўі,
І кружацца нашы буслы над Нявою.

Я з першага класа ужо зразумеў:
«...Плакала Саша, как лес вырубали...»
Пад гукі цымбалаў ад шчасця нямеў,
Калі за ракою спявала купалле.

Купала і Колас адкрылі мне зрок.
Душу зачароўвалі матчыны песні,
А Пушкінскі непераможны «Прарок»
І ў познюю восень прыносіць прадвесне.

Я ў ленінскім слове знаходжу заўжды
Падтрымку, адказ і параду,
І мне, як і ў даўнія тыя гады,
Не трэба зусім перакладу.

Заўсёды адданы праўдзіваму слову,
Я сэрцам знаёмыя гукі лаўлю,—
Люблю неўміручую рускую мову,
І роднае слова, як маці, люблю.

### Забаронца

Чыноўнік спакойна давесці умее,
Што белае чорным уявіш і ты.
«Народ,—ён тлумачыць,—не зразумее
Занадта дачаснай тваёй праматы.

Народу патрэбны інакшыя песні,
Згадзіся, а іх у цябе і няма.
Пішы, каб вясною здалося прадвесне,
А восенню—лютая наша зіма,

Пішы для народа патрэбную праўду,
А ты калупаешся ў дробнай брыдзе,
Таму нават звання дасюль не прыдбаў ты,
Таму не вядомы нікому нідзе.

Я ведаю цвёрда, што трэба народу,
На варце яго інтарэсаў стаю,
Каб укараціць крытыканаў пароду,
І ўзяць на цыгундар адвагу тваю».

Даслухаў яго, і, як токам, затрэсла:
«Народны заступнік» абедзве рукі
Да хрусту ўвагнаў у высокае крэсла,
Каб толькі не страціць рублі і пайкі.

Не, не абаронца ты, а забаронца.
Цябе нарадзілі за праўду раней,
Гатовага Месяц закрэсліць і Сонца,
Ды толькі народ за цябе разумней.

Што ён разумее, табе не закрэсліць.
Магчыма, пакруцішся трохі яшчэ
І вылеціш коркам з утульнага крэсла,
Як знізу і зверху табе прыпячэ.

### Ціхія пенсіянеры

Не толькі паэты знікалі народу на гора,
Знікалі званіцы, знікалі саборы.
Над плошчаю Волі белую вежу
Лашчыла сонца і ветрычак свежы.
Дзе тая вежа, дзе той гадзіннік?
Даўнейшы касцёл, нібы той халадзільнік,
Схаваўся ад сораму, што безгаловы,
«Спартак» раскашуецца там адмыслова.
Чыталася, як спракаветная кніга,
У «Слове» апетая наша Няміга.
Час і вайна яе пашкадавалі,
А знішчылі тыя, што мы ўзгадавалі,
Дабраліся ўрэшце, далі-такі рады
Новай фармацыі Герастраты.
Сабе задавалі дурную работу,
Даводзілі потым да сёмага поту,
Каб тое, што людзі стваралі вякамі,
Знішчыць дазвання сваімі рукамі
Сябе узвышалі, хваліла іх прэса,
А сверб руйнавання лічылі прагрэсам.
Іду праз Нямігу і плошчу дахаты
І часта пытаюся: «Хто ж вінаваты,
Што вуліцы зніклі, палацы, саборы,
Што столькі было і злачынстваў, і гора,
Што зніклі Гарэцкі, што знік Галавач,
Не вернецца Вольны з няволі, хоць плач,
Што згінулі недзе Чарот з Галубком,
Што ленінскай школы камбрыг і нарком
Знікалі ў жалобныя ночы, як сажа?
Дык хто за ўсе гэтыя страты адкажа?
А тыя, што нішчылі, білі, судзілі,
Ходзяць яшчэ паміж нас, як хадзілі,
Лісліва ўсміхаюцца, хлусяць без меры
Ціхія-ціхія пенсіянеры.
Сірочы праклён на іх каменем ляжа.
Няўжо за пакуты ніхто не адкажа?

### Купалаўцы

У гэтых вузкіх калідорах
Каторы год і нездарма
Сумуюць сцены па акцёрах,
Якіх ужо даўно няма.

Усе яны глядзяць з партрэтаў
З усмешкамі ў жывых вачах,
Нібы з грымёрных і буфетаў,
Яны з нябыту па начах

Пустою залаю на сцэну,
Паміж запыленых куліс
Ідуць адны другім на змену,
Нібы па выкліку на біс.

Пярэчыць Ржэцкая Галіне,
Ім Глебаў падае руку,
Адна ў шырокім крыналіне,
Другая—у андараку.

І Уладамірскі безупынку
Смяецца, плача і пяе,

## ДЭБЮТ



Валерый НЯХАЙ

# Жалезная Нінка

*Апавяданне*

Валерый Няхай нарадзіўся ў 1951 годзе ў г. Балхашы Казахскай ССР. У 1968 годзе закончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Жыве ў Мінску. Працуе старшым рэдактарам рэкламна-мастацкага камбіната. З апавяданнем выступае ўпершыню.

НІНКА ў спартыўным касцюме, трасучы рыжым хвастом на патыліцы, спружыніла на тонкіх нагах на паляне перад трыма мужчынамі і крычала:

— Ігнат, ну, ты, бугай, зноў баішся?

Бурыльшчык Ігнат, вялізны, аглобляй не заб'еш, стаяў у шэрай робе неяк бокам, панура касавурыўся на вяртлявую, як яшчарка, Нінку, пускаў дым з крывога мясістага носа. Бульдазерыст Кузьма і майстар дзядзька Вася пераміргваліся ў Нінкі за спіной.

— Слабакі, — крычала Нінка, і твар яе ад напружання пакрываўся плямамі. — Ігнат, мамант сібірскі, дрэнь насатая, ну, нападай, — не сунімалася Нінка і прытанцоўвала, як кабылка.

— Чуеш, Ігнат, калі жанчына просіць... — захіхікаў Кузьма.

Ігнат зірнуў на Кузьму. Кузьма — лысая галава гарбузом, на гарбузе акуляры і нос бульбінай — прыціх. Толькі прыжмурыўся, пацепваў вузкімі плячыма. Дзядзька Вася — з пузам, з бародкай клінам, — засунуўшы рукі ў кішэні, пазіраў хітравата то на Ігната, то на Нінку.

— Ігнат, — падаў голас дзядзька Вася, — рызыкні. Раптам сёння пашанцуе.

Ігнат ботам прыціснуў акурак, глыбей нацягнуў кепку на шырокі касцісты чэрап. Нінка прыціхла.

— Ну, рыжая, калі сёння дастану... — Ігнат выставіў падбародак, стукнуў кулаком па сваім калене.

Кузьма выбег наперад:

— Дзядзька Вася, спрачаемся на чырвонец, сёння зноў Нінка зваліць Ігната.

Дзядзька Вася падумаў, не паварочваючыся да Кузьмы, падаў яму руку:

— Добра. — І дадаў ужо Ігнату: — Глядзі ж, не падвядзі.

Ігнат набліжаўся да Нінкі. Тая, пругкая, як стальны дрот, прыціхла. Дзядзька Вася і Кузьма, заціснуўшы патухлыя цыгарэты ў пальцах, глядзелі. Ігнат, выставіўшы наперад кулак-гіру, памахваў ім пагрозліва:

— Паршыўка рыжая, лялька танканогая! — гудзе ён чмялём. — Ох і дабяруся я да твайго азадка!

Нінка драпежна ўсміхнулася. Яе лісіныя вочы заблішчэлі. Круглы, губасты Ігнатаў твар акасцянеў, плечы звузіліся.

— Нінка, — раптам крыкнуў Кузьма, — чырвоненькую папалам.

— Не крычы пад руку, — цыкнуў на яго дзядзька Вася.

Метраў за дваццаць ад гэтай кампаніі прыляпіліся адзін да аднаго сярод соснаў і ядлоўцавых кустоў шэра-зялёныя палаткі геолагаў. З адной палаткі, згінаючы тонкае тулава, выскачыў начальнік экспедыцыі Ілья. Светлая барада густа ахінала яго твар, прамыя валасы зачэсаны назад.

— Андрэй, — клікнуў Ілья, — ідзі зірні! Зноў наша Нінка дае спектакль!

Рог палаткі адхінуўся, і з яе выкаціўся сівавалосы, у капелюшы, насунутым на вочы, Андрэй, тоўсты і кароткі, як баравік. Ён, супрацоўнік упраўлення, прыбыў у экспедыцыю на некалькі дзён. Абодва — Ілья і Андрэй — былі ў ботах і штармоўках.

— Дык гэта і ёсць ваша Жалезная Нінка? — спытаў Андрэй. Тонкія яго вусны яшчэ больш павузелі ва ўсмешцы. — Вялікі быў гумарыст той, хто даў ёй такую мянушку. Дзе толькі душа трымаецца ў гэтым целе? Ты б не дазваляў ладзіць падобныя спектаклі. Здарыцца няшчасце — з цябе папытаюць.

— Ты яе не ведаеш. Яна не паддасца... Маркоціцца дзеўка. Замуж пара. Дваццаць два неўзабаве, а, колькі яе ведаю, з хлопцам ні разу не бачыў.

— Прыжылася ў вас? На кухню скаргаў няма?

— Малайчына. Смачна корміць! І тут, глядзі, што вырабляе!..

Сонца выглядвала з-за вяршалін соснаў, клала крывыя цені на траву. Ігнат, дробна пераступаючы, ішоў на Нінку. Яго вочы быццам палезлі на пераноссе, звузіліся. Нінка, жмурачыся пад сонцам, пільна сачыла за Ігнатам. Той ступіў яшчэ крок і, замахнуўшыся шырока, па-мужчынску, нанёс удар. Нінка адскочыла. У наступнае імгненне мільганула ценем Нінчына нага, і Ігнат, войкнуўшы, хапіўся за плячо.

— Нінка: урэж, урэж яму, — надрывіста вішчаў Кузьма і ажно прыгінаўся, пераступаў у азарце з нагі на нагу. Дзядзька Вася таксама хваляваўся, — схаваў жывот за папругу, нагнуў галаву, — назіраў спадылба за паядынкам.

Ігнат, устаяўшы на нагах, шумна выдыхнуў, зноў кінуўся наперад. Нінка трымала перад сабой кулачкі, кулачкі былі белыя і дрыжалі. Ігнат нахіліўся налева, замахнуўся левай, а ўдарыў правай, не замахваючыся. Нінчына рука адвяла ўдар, а яе нага, напятая, як струна, зноў узвілася ўверх і шмякнулася ў Ігнатаў жывот. Ігнат гыкнуў, бы захліпнуўшыся, і, раскінуўшы рукі як для абдымкаў, цяжка ўпаў на калені.

Дзядзька Вася мацюкнуўся. Кузьма зарагатаў. Нінка абмякла. Дыхаючы ротам, сказала глухавата:

— Усё, дзядзька Ігнат. На сёння хопіць.

Кузьма глядзеў на лісіны Нінчын профіль, выскаляўся:

— Нінок, чырвонец папалам, як дамовіліся? Чуеш, дзядзька Вася, гані даўжок! Ха, Нінок, на табе зарабляць можна!

Яго лысая галава пакачвалася на тонкай шыі, як кветка на сцябле. Дзядзька Вася палез тоўстымі пальцамі ў кішэню — даставаць дзесятку. Ігнат, патрэсваючы цяжкай галавой, падняўся, паціскаў сабе жывот, засмяяўся:

— Насабачылася, ліса!

Кузьма падышоў да Ігната:

— На бюлетэнь не пойдзеш?

— Ты, Нінок, наступны раз пагладзь ножкай гэтага гліста лысага, — сказаў дзядзька Вася. — Раскудахтаўся. — І так зірнуў на Кузьму, што той сціх. — А ты, Ігнат? Эх!.. Не мужчыны, карасі сушаныя. Каб не мае гады... — Дзядзька Вася адчайна махнуў рукой і пайшоў.

У экспедыцыю прыехаў новы наладчык. Вузказады, худы і доўгі, як спіца. Наладчыка звалі Браніслаў, яму было дваццаць сем гадоў. Цэлымі днямі Браніслаў прападаў на буравой, і Нінка, робячы сваю справу на кухні, сумавала. Ён спадабаўся ёй адразу. Першыя два дні Нінка і Браніслаў толькі абменьваліся позіркамі, а калі ён загаварыў з ёй, пачырванела, схапіла, што трапіла пад руку, — пустую каструлю, — і пайшла. Смяшлівыя Браніслававы вочы доўга праводзілі яе.

Нінка ў гэтыя дні не жартавала. Абеды гатавала смачныя, хадзіла ў сукенцы, акуратна прычэсаная. На трэці дзень Нінка замест чаравікаў абула басаножкі на шпільках. Цэлы дзень мучылася. Мужчыны пасмейваліся і пераміргваліся. Як Нінка і Браніслаў дамовіліся спаткацца ноччу — не даўмеліся.

Яны прыйшлі на лысы пагорак, дзе чорная, як дзёгаць, Бярэзіна робіць паваротак. Селі побач на цёплую ігліцу. Нізкі бераг збягаў да вады, у ёй ледзь-ледзь бяleліся гарлачыкі. У лесе з усіх бакоў штосьці шамацела, патрэсквала, а на вадзе радасна заходзіліся жабы.

— Ніна, тут пра цябе анекдоты расказваюць, мянушку прыдумалі. Дзе ты навучылася каратэ?

— З братам на трэніроўкі хадзіла. Ён у міліцыі працуе. Прыйду і сяджу. Гляджу, як яны б'юць адзін аднаго. Потым папрасілася, трэніравалася з імі.

— Ніна, не жаночы гэта занятак — мардабой.

— Я нікому морды не б'ю, — Нінка пакрыўдзілася і замоўкла. — Каратэ — гэта спорт, светапогляд, зразумеў? — сказала яна пасля паўзы. — Ды што ты разумееш?

— Няхай нічога. Мяне гэта не цікавіць. Няўжо заняцца больш няма чым? Глядзі, так і час можна ўпусціць.

— Мяне цікавяць толькі кнігі і спорт. На гэта заўсёды час знойдзецца.

— Спорт і кнігі! — перадражніў яе Браніслаў. — А жыць калі? Любіць, цалавацца, перажываць... Навошта табе гэта кніжнае каханне? А што вашы мужчыны бачаць? Работа і даміно.

# ТЭАТРАЛЬНЫ СЕЗОН: на скрыжаванні думак

**Напярэдадні тэатральнага сезона 1986/87 гг. рэдакцыя звярнулася да сваіх сталых аўтараў з анкетай і прапанавала падзяліцца ўражаннямі ад найбольш цікавых падзей, акрэсліць асноўныя тэндэнцыі і болевыя кропкі працэсаў, што адбываюцца ў сцэнічным мастацтве рэспублікі, паспрабаваць зазірнуць у дзень заўтрашні. У выніку атрымалася публікацыя («ЛіМ», 3 кастрычніка 1986 г.), якая выклікала цікаўнасць нашых чытачоў — напэўна, магчымасцю пазнаёміцца з рознымі думкамі і меркаваннямі пра сучасны тэатральны працэс.**

**І вось пярэдадзень чарговага тэатральнага сезона... Мы зноў звярнуліся да крытыкаў і тэатразнаўцаў, вырашыўшы пашырыць кола карэспандэнтаў і пакінуць толькі адно пытанне: «Чым быў адметны мінулы сезон у тэатрах рэспублікі?»**

## Рычард СМОЛЬСКІ:

Мне здаецца, што мінулы тэатральны сезон увойдзе ў гісторыю беларускай тэатральнай культуры 80-х гадоў некалькімі падзеямі.

Падзея першая — утварэнне Саюза тэатральных дзеячаў БССР у студзені 1987 г.

Падзея другая — правядзенне ў Мінску тэатральнага фестывалю «Прыбалтыйская тэатральная вясна-87».

Падзея трэцяя — выхад у свет заключнага тома (у 2-х кнігах) 3-томнай «Гісторыі беларускага тэатра».

Падзея чацвёртая — пачатак у студзені 1987 г. тэатральнага эксперыменту.

Цяпер крыху расшыфрую гэтыя падзеі, як я іх разумею і ўспрымаю.

Новы творчы саюз — роднае дзіця сённяшняга рэвалюцыйнага часу, сённяшняй перабудовы. Згадзіцеся, яшчэ тры гады назад такое было б проста немагчыма ўявіць — з'езд УТТ ў Маскве, прамова і прапанова Алега Яфрэмава, з чаго ўсё і пачалося... Я быў удзельнікам Устаноўчага з'езда ў Маскве і сведкам той вострай барацьбы, што ішла вакол назвы будучага творчага саюза, накірунку яго дзейнасці і г. д. Тут я хачу падкрэсліць галоўнае, прынцыповае — усё цяпер залежыць ад нас саміх, членаў СТД. Чакаць «чалавека збоку» не варта. Як і што зробім, тое і будзем мець.

Фестываль «Прыбалтыйская тэатральная вясна-87» выявіў крыўдную тэатральную сітуацыю, што склалася сёння ў нас. Я маю на ўвазе адсутнасць новых яркіх спектакляў, спектакляў-з'яў. За гэтым хаваецца шмат складаных праблем, якія паўсталі не сёння і не ўчора: дэфіцыт прафесійных рэжысёрскіх кадраў, нізкі ўзровень акцёрскага майстэрства. Беларуская драматургія таксама не на вышыні.

Выхад 3-томнай «Гісторыі беларускага тэатра» засведчыў наяўнасць кваліфікаванага атрада (праўда, нешматлікага) руплівых і працавітых тэатразнаўцаў. Але калі гаварыць пра сённяшні стан тэатральнай крытыкі, трэба з усёй самакрытычнасцю прызнаць: наш удзел, а тым больш наша ўздзеянне на творчы працэс, вельмі і вельмі сціплы. Эфект блізкі да нуля. Горка прызнаваць, але гэта факт. Не першы год ідзе размова пра неабходнасць падрыхтоўкі маладых крытыкаў на стацыянары ў БДТМІ, але, на жаль, тут не ўсё залежыць ад нашых жаданняў. Выйсце я пакуль бачу адно — кожнаму члену секцыі крытыкі СТД БССР трэба значна прыбавіць у сваёй дзейнасці, у сваёй рабоце. Нам, крытыкам, трэба шукаць нейкія больш эфектыўныя формы сувязі з рэдакцыямі газет і часопісаў, асабліва газет. Пакуль што з іх боку мы ўвагі не адчуваем, хоць у вядомай пастанове ЦК КПСС па купалаўскаму тэатру канкрэтна даручана рэдакцыям газет і часопісаў **шырэй**, я гэта падкрэсліваю, шырэй асвятляць творчую дзейнасць тэатраў.

Тэатральны эксперымент, у якім удзельнічаюць усе вядучыя тэатры рэспублікі (купалаўскі, коласаўскі, рускі, ТЮГ, а таксама тэатр оперы і балета), пакуль што вынікаў не дае. Пачакаем...

Яшчэ адна праблема, якую даволі выразна высветліў сёлетні тэатральны сезон. Праблема так званых «дацкіх» спектакляў. Яшчэ не так даўно была завядзёнка — кожны юбілей, свята абавязкова сустракаць гэткім спектаклем. Творчыя перамогі прыходзілі рэдка. Гэта факт. Але цяпер, як мне здаецца, тэатры кінуліся ў супрацьлеглую крайнасць.

Набліжаецца 70-годдзе Вялікага Кастрычніка, але штосьці не чуваць пра нейкія рэпертуарныя навінкі, звязаныя з гэтай падзеяй. Многія сёння гавораць так: маўляў, галоўнае — каб быў добры спектакль. Няхай гэта будзе камедыя, драма, меладрама на любую тэму, галоўнае, каб гэта быў сапраўдны мастацкі твор. Згодзен. Але, разам з тым, я мяркую: а чаму б кіраўнікам тэатраў не паклапаціцца пра стварэнне сапраўднага мастацкага твора пра рэвалюцыю, пра тую складаную эпоху, калі нараджалася сацыялістычная Айчына? Мы сёння шмат гаворым пра цікавасць да вытокаў, да гісторыі, дык чаму ж у 70-ю гадавіну Кастрычніка не паказаць гледачу хвалюючага спектакля пра людзей, якія рабілі рэвалюцыю, аддана верылі ў яе гуманістычныя ідэалы?

Глыбока непакоіць стан гістарычнай тэматыкі. Каму ж, як не нацыянальным тэатрам, у першую чаргу дбаць пра тое, каб у рэпертуары заўсёды быў цікавы мастацкі твор пра мінулае беларускага народа? Мяне, напрыклад, здзіўляе пазіцыя кіраўніка коласаўцаў В. Мазынскага, які вельмі шмат любіць пагаварыць з трыбун тэатральных з'ездаў і канферэнцый пра сваю зацікаўленасць развіццём беларускай культуры, а вось што тычыцца канкрэтных спраў, тут, як гаворыцца, не густа... Маўляў, п'ес няма. Я думаю інакш. Ёсць п'есы, ёсць проза, паэзія. Але іх трэба ўмець бачыць, умець рызыкаваць. Вось І. Пятроўскі не пабаяўся рызыкі, стварыў спектакль «Князь Навагрудскі» па п'есе Л. Пракопчыка і Д. Кальчанкі на сцэне гродзенскага тэатра, спектакль, які выконвае свае пазнавальныя функцыі, абуджае цікавасць да гісторыі. Традыцыі, закладзеныя У. Караткевічам і, дарэчы, В. Мазынскім (спектаклі «Званы Віцебска», «Кастусь Каліноўскі» ў коласаўцаў), трэба працягваць, развіваць у духу сённяшніх рэвалюцыйных працэсаў. Наогул, гісторыка-рэвалюцыйная тэматыка патрабуе самай пільнай увагі з боку драматургаў, рэжысёраў, крытыкаў, усіх, каго непакоіць рух тэатра. На крутых пераломах гісторыі (а сярэдзіна 80-х гадоў менавіта такі этап у жыцці савецкага грамадства) мы шукаем апору і падтрымку ў сваіх карэннях і традыцыях — гістарычных, рэвалюцыйных. Бясспрэчна, сённяшняму пакаленню гледачоў, асабліва моладзі, неабходны новыя спектаклі аб мінулым народнага жыцця, аб рэвалюцыі, аб Леніне і яго паплечніках-бальшавіках, створаныя з дакладным адчуваннем сучаснага эмацыянальнага і духоўнага стану грамадства, спектаклі, здольныя сцвярджаць ленінскі рэалізм мыслення, настойлівасць і натхнёнасць, умацоўваць ідэйную перакананасць савецкіх людзей.

Вось такі роздум выклікае сёлетні сезон — сезон складаны і супярэчлівы, сезон збірання творчых сіл. Толькі б не задоўжылася гэтае збіранне...

## Клара КУЗНЯЦОВА:

На пачатку мінулага сезона «ЛіМ» прапанаваў адказаць на пытанні анкеты. Перачытала цяпер, калі сезон завяршыўся, свае адказы і падумала: усё магу паўтарыць зноў.

Падзеі, якая б узрушыла, на жаль, не адбылося. Пацвердзіў гэта і фестываль «Прыбалтыйская тэатральная вясна», дзе нашы спектаклі па сваіх мастацкіх вартасцях значна саступалі лепшым пастаноўкам гасцей.

Адбыўся І з'езд СТД БССР, пяць рэспубліканскіх тэатраў пачалі эксперымент, які дае ім вялікія магчымасці ў арганізацыі вытворчага працэсу. Пра сапраўдныя вынікі пакуль што меркаваць цяжка, але відавочна адно — нашы тэатры сёння жывуць гэтак жа, як жылі і раней. Паўтару — не з'явілася спектакляў накшталт «Гавары!..» ці «Дыктатура сумлення». Дарэчы, ажыццёўленая ў Гомельскім драматычным тэатры пастаноўка п'есы М. Шатрова падалася непераканаўчай у спосабе акцёрскага існавання, пастановачным рашэнні. Адпаведнай была і рэакцыя глядзельнай залы. Сёння глядач настолькі адукаваны, у гэтым яму дапамагае прэса, тэлебачанне, у пэўнай ступені кіно, што здзівіць, узрушыць можна толькі арганічным спалучэннем новых ідэй і новым узроўнем іх мастацкага асэнсавання. Патрабуецца новы спосаб кантакту з аўдыторыяй.

Усе праблемы засталіся. Назаву некаторыя. Недасканаласць акцёрскага і рэжысёрскага майстэрства. Дэфіцыт рэжысёрскіх кадраў — і пры гэтым нядбайныя адносіны да тых пастаноўшчыкаў, якія працуюць. Па-ранейшаму існуе «табу» пры размове аб творчым стане нашых тэатральных акадэмій. Прыгадаем абмеркаванне гастроляў тэатра імя Якуба Коласа. «Табу», відаць, рэгламентуецца друкам. Якая ж ад гэтага карысць? Толькі шкода. Засталося неўладкаваным становішча Маладзёжнага тэатра. Калектыў працягвае бадзяцца па розных пляцоўках, што не можа не адбіцца і на якасці мастацкай прадукцыі.

З абласных тэатраў давялося пабачыць спектаклі Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра. Агульнае ўражанне — станоўчае. Двойчы пабывала ў Гомельскім абласным драматычным тэатры. Паездкі былі выкліканы нездаровай сітуацыяй. І на сённяшні дзень няма міру пад гомельскімі «алівамі». Так склалася, што прыход чарговага галоўнага рэжысёра амаль заўсёды выклікае канфлікт у калектыве. Уласныя амбіцыі бяруць верх над агульнымі інтарэсамі. І ў дадзеным выпадку галоўны рэжысёр не паразумеўся з гомельскімі пастаноўшчыкамі, якія пацвердзілі свае права на працу. Усё гэта ўплывае на творчы стан, на маральны клімат. Убачаныя спектаклі паказалі, што акцёрская трупа прафесійна моцная. Шкада, што энергія калектыву скіравана не на справу.

Вынікі невясёлыя. Уражанне такое, што тэатры нашы, разпораз трапляючы на магістральную дарогу жыцця, звыкла збочваюць на спакойныя каляіны.

## Уладзімір НЯФЁД:

Сёння мяне вельмі турбуюць многія аспекты стану цяперашняга сцэнічнага мастацтва. У гэтым маім кароткім выступленні я не змагу грунтоўна аргументаваць сваю пазіцыю, але хачу звярнуць увагу на, як мне здаецца, галоўны недахоп усёй нашай тэатральнай справы. Многія дзеячы сцэнічнага мастацтва, драматургі і рэжысёры (найперш яны), а таксама і некаторыя акцёры страцілі разуменне прызначэння тэатра ў жыцці народа. Тэатра як кафедры, з якой можна шмат сказаць і зрабіць людзям дабра. Так думалі Гогаль, Шчэпкін, Бялінскі, Станіслаўскі... Да гэтага заклікае нас грамадзянскае сумленне.

Не буду цяпер пералічваць шматлікія прыклады няўдалых спектакляў у розных нашых тэатрах. Скажу толькі, што цэлы шэраг такіх спектакляў вылучаецца бездухоўнасцю. І трэба, нарэшце, зразумець, што менавіта бездухоўнасць — найпершы вораг сапраўднай мастацкай творчасці.

Калі драматургу або рэжысёру, тэатру ў цэлым няма чаго сказаць гледачу, тут ёсць над чым задумацца. Пачытайце хоць бы паэта А. Блока, які яшчэ ў 1918 г. заяўляў: «Усім целам, усім сэрцам, усёй свядомасцю слухайце рэвалюцыю». І тым больш У. Маякоўскага, які сказаў: «Мая рэвалюцыя». Так многа гэтым сказана. Ці не служаць гэтыя заклікі непарушным запаветам кроўнай сувязі савецкіх мастакоў з інтарэсамі народа? Не, я не заклікаю да лозунгаў, але імкнуся зразумець, дзеля чаго напісана тая альбо іншая п'еса, пастаўлены той ці іншы спектакль? І што нясе гэты спектакль гледачу?

Так, у нашым сённяшнім жыцці (як і ва ўчарашнім і пазаўчарашнім) было і ёсць шмат дрэннага. Але ж хіба ў сярэдзіне, дапусцім, XIX стагоддзя гэтай дрэні было менш? А. Дабралюбаў сказаў жа пра Кацярыну ў «Навальніцы» М. Астроўскага — «прамень святла ў цёмным царстве». Дык чаму ж многія драматургі адмаўляюцца ад паказу таго добрага, што ёсць у нашым жыцці, не бачаць яго і не спрабуюць прывабіць гледача гэтым добрым на вартыя справы і здзяйсненні? А не бачыць гэтага добрага — значыць, не разумець сучаснага жыцця, значыць, упірацца лбом у той ці іншы канкрэтны факт, магчыма, выпадковага паходжання.

Чаму ў любой шэкспіраўскай трагедыі («Рамэа і Джульета», «Гамлет», нават «Макбет») ёсць гэты «прамень святла»? А ў многіх п'есах нашых сучасных драматургаў нярэдка — ніякага пробліску. Толькі песімізм. Яшчэ М. Салтыкоў-Шчадрын асуджаў такое павярхоўнае, натуралістычнае адлюстраванне жыцця: «Бачу плот — кажу: плот; бачу паясніцу — кажу: паясніца». Як быццам сэнс убачанага факта драматурга і не датычыць.

Зусім нядаўна ў Мінску прайшлі гастролі тэатра імя Якуба Коласа. Пра любы наш тэатр сёння мы перш за ўсё павінны меркаваць па рэпертуары аб нашай рэчаіснасці. Які ж гэты рэпертуар у коласаўцаў? Апроч «Вечара» А. Дударава (пра гэтую п'есу і спектакль напісана так шмат, што не хацелася б паўтарацца), гледачы ўбачылі «Стары дом» А. Казанцава і «Зінулю» А. Гельмана.

Што можна сказаць пра п'есу і спектакль «Стары дом»? Я ўбачыў на сцэне суцэльны бруд, выліты на нашых сучаснікаў. Тут ва ўсіх жыццё ніяк не складваецца. Усе хлусяць і здраджваюць адно аднаму. Ніхто не выклікае ні даверу, ні павагі. А фабула п'есы? Двое школьнікаў, ён і яна, заканчваючы дзесяты клас, страсна любілі адно аднаго. Сустракаліся на падстрэшку. Але раптам ён, проста так, без дай прычыны, узяў ды здрадзіў ёй з самотнай, пакрыўджанай жыццём жанчынай. А далей мы даведаемся, што ў гэтых былых школьнікаў, як і ў тых, хто акружаў іх, жыццё так і не адбылося. А ў фінале на падстрэшак падымаецца другая пара — ён і яна. І ясна — усё паўторыцца спачатку.

Думаю, што сцвярджэнне такой безвыходнасці і бездухоўнасці ніяк не адпавядае ні вялікай праўдзе жыцця, ні задачам нашага тэатра.

Што ж датычыць спектакля «Зінуля», то яго я ўспрыняў, як анекдот, як насмешку над сур'ёзнымі праблемамі нашага жыцця.

Калі я ўжо загаварыў аб рэпертуары коласаўцаў, то не магу не спыніцца і на іншых назвах. Спектакль «Рамэа і Джульета». Хто ж можа запярэчыць супраць такога выбару! Але спектакль аказаўся значна ніжэй за творчыя магчымасці некалі славутага калектыву. Пра гэта ў тэатры павінны сур'ёзна падумаць. Мне здаецца, рэжысёру тут нестае асэнсавання праблемы гэтай трагедыі, а выканаўцам галоўных роляў — і глыбіні пачуццяў, і ўмення выявіць іх. Але гэта не адзінкавы прыклад. Узровень увасаблення класічнага рэпертуару на коласаўскай сцэне выклікае засмучэнне.

Не магу не сказаць пра легкадумны падыход да выбару сучаснага замежнага рэпертуару. Чым, як не чыста касавымі інтарэсамі можна тлумачыць з'яўленне на сцэне тэатра п'есы «Гэты страсна закаханы» П. Саймана? Тэатру патрэбны грошы? Вядома. Але зноў хочацца спытаць: а навошта і дзеля каго існуе тэатр?

У сувязі са сказаным, не ў парадку проціпастаўлення, а для выяснення ісціны, хацелася б адзначыць наступнае. У Мінску гастраляваў Гродзенскі абласны тэатр. Я даўно не бачыў яго спектакляў. Цяпер ён мяне парадаваў. Глыбокай павагі заслугоўвае сур'ёзная спроба тэатра расказаць пра адзін са старажытных і драматычных перыядаў у гісторыі беларускага народа ў спектаклі «Князь Навагрудскі». Заўважу таксама, што тэатр паказаў добры спектакль аб жыцці сучаснага буржуазнага грамадства — «Лепш застанься мёртвым». Гэты спектакль можа быць прыкладам прадуманага выбару сучаснай замежнай п'есы і яе паўнацэннага вытлумачэння.

Яшчэ праблема, якая не можа застацца без увагі, асабліва ва ўмовах праводзімага тэатральнага эксперыменту, праблема стаўлення да акцёрскіх лёсаў. На прыкладзе коласаўскага тэатра можна меркаваць аб тым, што гэта праблема вырашаецца дрэнна. Дзіўна, але факт! У час гастроляў мы не змаглі ўбачыць у больш сур'ёзным рэпертуары і на поўную сілу такіх акцёраў, як Ф. Шмакаў, У. Куляшоў, З. Канапелька, Б. Сяўко, С. Акружная, Г. Дубаў, Г. Каралькова, Т. Шашкіна, М. Цішачкін і шэраг іншых. А творчасць гэтых акцёраў — сапраўдная каштоўнасць тэатра!

Праблем шмат. Гаворачы аб коласаўцах, я маю на ўвазе і іншыя тэатры. Трэба ўсім нам думаць над тым, як вырашаць гэтыя праблемы.

**Вячаслаў РАКІЦКІ:**

Сезон спрабаванняў урэшце прачнуцца, сезон добрых памкненняў і ўрокаў, у меншай ступені яркіх дасягненняў — так не пабаюся ахарактарызаваць дзевяць працоўных месяцаў нашай сцэны.

Падзеі: пачатак эксперыменту ў вядучых тэатрах, аб'яднанне тэатральных дзеячаў у творчы саюз з вялікімі абавязкамі і правамі, бліскавічны след літоўскага «Дзядзькі Ванi» і рыжскага спектакля «Заўтра была вайна» на фестывалі ў Мінску, маскоўская справаздача купалаўцаў пасля пятнаццацігадовага перапынку, гастролі віцябчан і гродзенцаў... Спаць не было часу. Думаю, што і не хацелася.

Хацелася іншага — пераадолець заімшэласць, заскарузласць як арганізацыйных, так і творчых стэрэатыпаў. Далёка не ўсё атрымалася, ой як не лёгка даюцца першыя крокі. Але было б дзіўна чакаць імгненных перамог. Падумаем пра ўрокі.

Паглядзелі коласаўцаў, практычна ўвесь бягучы рэпертуар. Адзначылі, што наш славуты калектыў перажывае не самыя лепшыя свае дні: арыентацыя на касу, пэўная абмежаванасць рэжысёрскіх пошукаў, невыразнасць грамадзянскай і мастакоўскай канцэпцыі. Хваробы, уласцівыя не адно толькі коласаўцам. Не адно толькі беларускаму тэатру. Тым не менш, на мой погляд, патэнцыял трупы высокі. Тым не менш культура, уласцівая толькі гэтай сцэне, насуперак усяму, і аб'ектыўнаму, і суб'ектыўнаму, — існуе. Тэатр па-ранейшаму імкнецца гаварыць з гледачом на сваёй мове.

Купалаўцы ў Маскве. Я быў сведкам таго, як і спецыялісты, і гледачы паставіліся да нашага тэатра з павагай. У цэлым пагаджаюся з досыць высокай ацэнкай, якую далі маскоўскія калегі мастацтву вядучага сцэнічнага калектыву Беларусі. І разважаю над урокамі гастроляў — люстэрка апошніх сезонаў. Рэпертуарны накірунак прынцыпова верны. Ёсць і свае аўтары. Але, здаецца, бракуе народна-гістарычных драм, накшталт «Людзей на балоце» і «Раскіданага гнязда». Тэатр мае адметнае аблічча, сваю тэму. Тэатр паслядоўна развівае плённыя традыцыі, а таксама нясе груз з году ў год назапашаных выдаткаў. Мінулы сезон купалаўцаў — напамінак нам, крытыкам і тэатразнаўцам, што калектыў заслугоўвае (а мо і патрабуе) глыбіннага аналізу ягонага мастацтва. Па ўсім комплексе сур'ёзных праблем.

Рускі тэатр імя М. Горкага. Менавіта ён найбольш выявіў няўстойлівае тэатральнае надвор'е гэтага сезона. Размытая колеравая гама, праўда, шэры колер усё ж прaступаў («Ноч анёла»). «Царства зямное», напрыклад, — каторая ўжо спроба са спазненнем на дзесяцігоддзі звярнуцца да сапраўднай заходняй драматургіі, і зноў няўдалая. Тэатр вучыўся патрабавальнасці да самога сябе — спектакль паводле твораў Зошчанкі не дайшоў нават да грамадскага прагляду. Але, упэўнены, ён даў падставу для сур'ёзных разважанняў у калектыве. А завяршылі горкаўцы сезон прынцыповай, на маю думку, удачай — спектаклем «Начныя карлікі і Антыгона» паводле Л. Разумоўскай. Смеласць, адкрытасць пазіцыі, пранізлівая аж да крыку інтанацыя, рашучае адмаўленне сацыяльна-маральнага дуалізму, які стаў ледзь не нормай жыцця для многіх дарослых, а пасля і іх дзяцей.

Глядзеў «Начных карлікаў» і думаў: а чаму такі твор не з'явіўся ні ў Маладзёжным тэатры, ні ў ТЮГу? Чаму ў Маладзёжным тэатры вострая праблематыка «Рамонту» М. Рошчына патанула ў эстрадным стракаценні? І было сумна... Будзем чакаць наступных спектакляў, а разам з імі спрабаваць зразумець, якія ж ідэі спавядае новы калектыў.

Усё больш і больш аддаляецца ад праблем сучаснай моладзі і ад сучаснай эстэтыкі Тэатр юнага гледача. Хіба ж не з'яўляецца для нас урокам спектакль Латвійскага ТЮГа «Заўтра была вайна», які выклікае ў падлеткаў слёзы ачышчэння страсным расказам пра драматычны лёс перадваеннага пакалення. Нашаму ТЮГу бракуе новых мастацкіх ідэй, мастацкасцю як галоўнай умовай поспеху спектакля тут ахвяруюць. На жаль, тэатр не ўвайшоў у душу сённяшніх юных мінчан. А пустое месца лёгка і проста запаўняе пошласць.

Тэатр не можа ўсхвалявана ўзнавіць старонкі нашай гісторыі, стварыць яркія вобразы лепшых сыноў Радзімы, не выхоўвае пачуццё гонару за сваю нацыянальную культуру. І тэатр таксама вінаваты, што мова замежных рок-груп бліжэйшая сучасным падлеткам, чым Купалава слова...

Тэатры працавалі. Думалі. Спрачаліся. Шукалі. Дасягалі пэўных вынікаў. Рабілі памылкі. Вучыліся працаваць па-новаму, самастойна. Больш звярталі ўвагу на перабудову вытворчага, а не творчага характару. А дзеля вынікаў творчых патрэбна новая, сугучная часу драматургія і больш разнастайная, дзёрзкая рэжысура, якая, да таго ж, павінна займацца павышэннем акцёрскага майстэрства. На вырашэнні гэтых праблем, думаецца, і будзе засяроджана ўвага ў сезоне будучым.

## ВІНШУЕМ

Сёння немагчыма ўявіць наша тэатральнае мастацтва апошніх дваццаці гадоў без спектакляў, пастаўленых Барысам Луцэнкам. Былі сярод іх і ўдалыя, і тыя, дзе рэжысёр не здолеў да канца ажыццявіць сваю задуму. Але яны не пакідалі гледача абыякавым, прымушалі задумацца, чымсьці кранаді, хвалявалі, абуджалі жаданне гаварыць аб іх.

Прыгадваю, як дваццаць гадоў назад, у снежаньскі вечар, пасля прэм'еры спектакля па п'есе В. Розава «Традыцыйны збор», я стаяў каля службовага ўваходу ў купалаўскі тэатр і чакаў, калі выйдзе Луцэнка... Вельмі хацелася пагаварыць, выказаць свае ўражанні ад толькі што ўбачанага. Парушаючы тагачасны дагматызм у разуменні станоўчага героя, на сцэну ўварваліся жывыя людзі, простыя, звычайныя,



# З АДЧАЕМ І АДВАГАЙ

### Барысу ЛУЦЭНКУ—50

якія дзякуючы рэжысёру натуральна і шчыра загаварылі пра свае будзённыя, «нізкія» клопаты, загаварылі праўдзіва, адкрыта.

Але сапраўдны поспех прыйшоў да маладога рэжысёра тэатра імя Я. Купалы тады, калі ён звярнуўся да сцэнічнага ўвасаблення твораў беларускай нацыянальнай драматургіі. Пасля першай цікавай спробы ў гэтым напрамку — пастаноўкі п'есы С. Грахоўскага «Рудабельская рэспубліка», дзе рэжысёр імкнуўся адысці ад традыцыі, стварыць неадназначны вобраз Салаўя, легендарнага змагара за ідэі Кастрычніка, Б. Луцэнка ставіць «Зацюканага апостала» А. Макаёнка. У новай рабоце рэжысёр выразна выявіў сваю здольнасць спалучыць у яркім тэатральным відовішчы праўду жыцця з метафарычнай сцэнічнай умоўнасцю. А потым Б. Луцэнка паставіў славутае «Раскіданае гняздо» Я. Купалы... Разуменне стылістычнай блізкасці купалаўскай драматургіі і паэзіі дало рэжысёру магчымасць глыбока і пераканаўча спалучыць у спектаклі часовае і вечнае, праблемы канкрэтна-рэальныя і агульначалавечыя, агульнафіласофскія.

Прыйшоўшы ў 1973 годзе ў Рускі тэатр БССР імя М. Горкага, Б. Луцэнка здолеў узварушыць калектыў, заразіць яго смелымі ідэямі і планамі. Дагэтуль захоўваецца ў рэпертуары тэатра пастаўленая ім складанейшая трагедыя В. Шэкспіра «Макбет». Усім арсеналам пастановачных сродкаў, усёй сваёй багатай фантазіяй Б. Луцэнка імкнуўся падкрэсліць вастрыню і глыбіню маральнай праблемы ў «Макбеце». За ўсе забойствы, за парушэнне мяжы чалавечнасці Макбета, як яго задумаў і бліскуча сыграў Р. Янкоўскі, карае перш за ўсё сіла сумлення; асоба, якая хацела сцвердзіць сябе, разбураецца, таму што сродкі гэтага сцвярджэння бесчалавечныя. Вядомы савецкі тэатразнаўца, даследчык В. Шэкспіра А. Барташэвіч так напісаў пра пастаноўшчыка «Макбета» ў Мінску: «Ён уклаў у «Макбета» ўсяго сябе, усё, што ведаў і ўмеў. Так, магчыма, і трэба ставіць шэкспіраўскія трагедыі — з адчаем і адвагай».

Адчаем і адвагай, смелым рэжысёрскім пошукам пазначаны многія іншыя пастаноўкі Б. Луцэнкі. Гледачам запомніліся «Трохграшовая опера» Б. Брэхта, «Васіль Цёркін» А. Твардоўскага, «Апошнія» М. Горкага (Б. Луцэнка паставіў гэты спектакль разам са сваім інстытуцкім педагогам, выдатным выхавацелем многіх беларускіх рэжысёраў і акцёраў У. Маланкіным), «Лазня» У. Маякоўскага, «Трагедыя чалавека» І. Мадача, «Сінія коні на чырвонай траве» М. Шатрова, «Узнятая цаліна» М. Шолахава і многія іншыя спектаклі. Імкненнем глыбока раскрыць аўтарскую задуму першакрыніцы ў спалучэнні з пошукам выразнай формы тэатральнага відовішча вылучаюцца і тагачасныя яго пастаноўкі па творах беларускай драматургіі і прозы: «Апошняя інстанцыя» М. Матукоўскага, «Вяртанне ў Хатынь» А. Адамовіча, «Пайсці і не вярнуцца» паводле В. Быкава. У 1980 годзе Б. Луцэнка ставіць у Берліне «Рэвізора» М. Гогаля, ставіць па-свойму, зноў не традыцыйна. На жаль, нашы гледачы не бачылі гэтага спектакля, меркаваць аб ім мы можам толькі па цікавых водгуках у прэсе ГДР.

Асобныя яго задумы і спектаклі не хацелі разумець «нарматыўная» крытыка і чыноўнікі ад культуры. Лічу, што належна не ацэнена, напрыклад, надзённасць і вастрыня луцэнкаўскай «Лазні» (цяпер бы такі спектакль!), глыбіня «Трагедыі чалавека», адзначанай першым прызам на Усесаюзным фестывалі венгерскай драматургіі, з поспехам паказанай у Будапешце і так мала ў нас. У кантэксце быкаўскага «Знака бяды» актуальна гучыць сёння і трактоўка Б. Луцэнкам «Узнятай цаліны», з якой тады многія не згаджаліся...

Сёння, калі ў нас усталёўваюцца сапраўды дэмакратычныя нормы жыцця, мабыць, варта інакш зірнуць на творчасць адметнага мастака, а таксама на «гісторыю» колішняга канфлікту Б. Луцэнкі з часткай групы рускага тэатра, яго звальненне з пасады галоўнага рэжысёра... Упэўнены: у мастацтве далёка не ўсё павінна вырашацца большасцю галасоў, адкрытым ці тайным галасаваннем.

У апошнія гады Б. Луцэнка ўзначальвае Тэатр-студыю кінаакцёра. У тэатр, у які раней ніхто не хадзіў, цяпер нялёгка патрапіць. Калі ў Б. Луцэнкі пытаюцца, у чым спецыфіка тэатра кінаакцёра, ён адказвае проста: павінны быць добрыя спектаклі, бо праца ў іх — лепшая школа для кінаакцёраў. Пастаўленыя Б. Луцэнкам у Тэатры-студыі спектаклі «Глядзіце, хто прыйшоў» У. Аро, «Шчасце маё...» А. Чарвінскага, «Не баюся Вірджыніі Вулф» Э. Олбі пазначаны адкрытай публіцыстычнасцю і пранікненнем у глыбіні псіхалогіі персанажаў, «Саракавыя...» і «Дзівак з Ганчарнай вуліцы» па І. Чыгрынаву — імкненнем спалучыць дзеянне на сцэне і на кінаэкране.

Не выпадковы, думаецца, і яго прыход да опернай рэжысуры. Вялікую ўвагу надае Б. Луцэнка музыцы амаль ва ўсіх сваіх драматычных пастаноўках, быў паспяховы вопыт «Чалавека з Ламанчы» (разам з А. Кацам) і «Трохграшовай оперы», вырашанай у жанры мюзікла. «Кавалер руж» Р. Штрауса прывабіў Б. Луцэнку, па яго ж прызнанню, магчымасцю паспрабаваць аб'яднаць эмацыянальна-пачуццёвае, падсвядомае ўспрыманне музыкі са зместам оперы, дзе за знешняй лёгкасцю і забаўляльнасцю схаваны вялікі гуманістычны сэнс. Прэм'ера «Кавалера руж» адбылася ў тэатры оперы і балета БССР напярэдадні закрыцця сезона — спектакль, які заслугоўвае спецыяльнай падрабязнай гаворкі, толькі пачынае сваё жыццё.

Па натуры Барыс Луцэнка — максіміаліст. Ад усіх, хто разам з ім стварае мастацтва тэатра, ён патрабуе вышэйшага прафесіяналізму і бездакорнага выканання сваіх службовых абавязкаў, ад акцёраў — поўнай самааддачы, а часам, здаецца, і ўвогуле немагчымага. Адсюль — непазбежныя канфлікты і непаразуменні. Па сабе ведаю, як нялёгка, але цікава працаваць з ім, як цяжка нават сябраваць з ім, бо ён максіміаліст і ў сяброўстве.

Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.

## РЭПЛІКА

# У ПОШУКАХ «ИЗЯЩНОГО» ІНТЭРВ'Ю...

Незвычайны расказ дырэктара і мастацкага кіраўніка Сухумскага дзяржаўнага грузінскага драматычнага тэатра імя К. Гамсахурдзіа Г. Каўтарадзе запісала В. Нікалаева і апублікавала ў газеце «Советская Белоруссия» (1987, 13 жніўня). У выказваннях паважанага акцёра і рэжысёра «о самом главном, самом дорогом для него сейчас — о театре...» дзівосным чынам сышліся думкі і разважанні вядомых дзеячаў тэатра — Л. Додзіна і А. Яфрэмава, якімі яны ў свой час падзяліліся з чытачамі адпаведна газеты «Смена» (1985, 29 верасня) і часопіса «Сельская молодежь» (1985, № 2, с. 2).

Так, Л. Додзін гаворыць, што «...любой театр мертв без притока свежих сил, без новых, молодых идей. И удачи или неудачи каждого, кто пробует что-то в театре, дают этому театру очень ценные уроки». З нязначнымі зменамі гэтае сцвярджэнне галоўнага рэжысёра Ленінградскага Малога драматычнага тэатра пераўтвараецца ў асабістую заўвагу Г. Каўтарадзе: «Не секрет, что любой театр мертв без притока свежих сил, без новых молодых идей. И удачи или неудачи каждого, кто пробует что-то новое в нашем театре, становятся для нас очень ценными уроками».

Далей В. Нікалаева, «ничтоже сумняшеся», прыпісвае Г. Каўтарадзе «апрацаваныя» словы А. Яфрэмава. Кіраўнік МХАТа прызнаецца: «Мне иногда говорят: «Как же, мол, так, у вас под одной крышей, во МХАТе, идут такие разные спектакли — «Тартюф», «Вагончик», «Так победим!», «Наедине со всеми», «Обвал» — не разрушает ли это единство прославленной труппы, не разъединяет общность методологии?» Нет, нет и нет. Только в мертвом театре спектакли единообразны. Вообще единообразие — признак иссякшего таланта, творческой смерти». Грузінскаму рэжысёру (вядома, з іншымі назвамі спектакляў) «дасведчаны» крытык укладае ў вусны наступнае: «Мне иногда говорят, как же, мол, так, у вас под одной крышей идут такие разные, не похожие один на другой спектакли — «Закон вечности» Н. Думбадзе и «Чайка» А. Чехова, «Объявляю закрытым!» А. Чхаидзе, «На дне» М. Горького, «Венецианский купец» В. Шекспира, «1832 год» Г. Батиашвили — не разрушает ли это единство труппы, не вредит ли цельности вашего коллективного творчества? Я отвечаю — нет, нет и нет. Вообще, считаю, что единообразие — признак иссякшего таланта, творческой смерти». Якое змілаванае супадзенне!..

Пад выказванні зноў-такі Л. Додзіна хвацкае пяро В. Нікалаевай бойка падстаўляе імёны, натуральна, грузінскіх акцёраў. Чытаем у «Советской Белоруссии»: «Не сглазить бы, но мне везет на единомышленников. (...) И это далеко не полный список тех, кто готов самоотверженно каждый вечер выходить на сцену и стремиться к «полной гибели всерьез». Чытаем у «Смене»: «Не сглазить бы, но мне везло и везет на тех, кто меня окружает. (...) я мог бы продолжать список тех, кто готов не только самоотверженно каждый вечер выходить на сцену и стремиться к «полной гибели всерьез»...»

Аўтар інтэрв'ю настолькі апантаны ў сваім імкненні «ўзняць узровень мыслення» свайго субяседніка, што не можа «здрадзіць сабе» і з «зайздросным» уменнем укладае ў вусны Г. Каўтарадзе і додзінскія высновы. Як жа да густу прыйшліся В. Нікалаевай словы Л. Додзіна!

Додзін гаворыць: «Я думаю, что сегодня, как никогда, нужен театр, вырывающий человека из бега повседневности. Театр, в который нелегко погрузиться и из плена которого также нелегко вырваться. С годами оформилось желание такого вот трудного театра. (...) Когда-то казалось, что с годами придет мастерство, умение, легкость навыка, но пришло лишь ощущение сложности, бескрайности, непознаваемости нашей профессии, нашего дела. (...) Ведь всякое прикосновение к искусству требует работы — мучительной работы ума, нервов, души».

В. Нікалаева запісвае: «Я думаю, что сегодня, как никогда, нужен театр, вырывающий человека из бега повседневности. Театр, который, возможно, не сразу впускает человека в круг своих образов, но и из плена которого потом нелегко вырваться. С годами у меня оформилось стремление именно к такому вот трудному театру.

Когда-то казалось, что с годами придут мастерство, умение, легкость навыка, но пришло лишь ощущение сложности, бескрайности, непознаваемости нашей профессии, нашего дела; убеждение в том, что всякое прикосновение к искусству требует работы — мучительной работы ума, нервов, души...».

Што гэта? Можа, гумарыстычны калаж ці вясёлкавы першакрасавіцкі жарт, прызначаны дзеля таго, каб палепшыць настрой гасцей з Сухумі сярод непагадзі, якая напаткала іх гастролі ў Мінску?

На жаль — не...

Гэткае невялічкае «изящное» інтэрв'ю, якое запісала (лічы — спісала!) В. Нікалаева, не што іншае, як мядзведжая паслуга без віны вінаватай газеце і Г. Каўтарадзе, здольнаму самастойна і цікава адчуваць, мысліць, выказвацца. Гэткая так званая «творчасць» шляхам аперацый з чужым тэкстам нараджае недавер, выклікае зняважу да тэатразнаўчага цэха, дыскрэдытуе журналіста, тэатральнага крытыка.

В. ІВАНОЎСКІ,
А. САВІЦКАЯ,
Г. СЯУКОВІЧ.

г. Мінск.

# Хто дапаможа запаліць ліхтар?..

## МАСТАК НА ПЕРЫФЕРЫІ

У ГЭТЫМ мікрараёне Барысава, дзе ўсе дамы, нібы блізняты, дзе маладзенькія елачкі блізкага лесу літаральна падступаюць да вокнаў, жыве сям'я Стасевічаў. Яны былыя выхаванцы Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Віктар — графік, Галя — мастак па габеленах. Вось ужо амаль дзесяць гадоў як яны ў Барысаве. Віктар працаваў у дзіцячай мастацкай школе, потым рашыў цалкам прысвяціць сябе творчай працы. Галя ўвесь час — у майстэрнях Барысаўскага мастацкага вытворчага камбіната.

Тады, пасля заканчэння інстытута, прыехала маладая сям'я жыць і працаваць у Наваполацк. Полаччына для Віктара — родны край. Тут і сёння жывуць яго бацькі, тут ён вучыўся ў школе, упершыню ўсвядоміў сябе чалавекам, тут прыйшло жаданне стаць мастаком. Дыпломная работа Стасевіча — графічныя лісты паводле беларускіх народных песень — экспанавалася на ўсесаюзнай выстаўцы маладых, атрымала ганаровы дыплом. Былі зроблены першыя дзіцячыя кніжкі ў выдавецтве. Марылася пра многае... Шмат надзей ускладала на малады горад і будучую працу і Галіна. У Наваполацку ёсць філіял вытворчых майстэрняў Мастацкага фонду БССР, дзе іх сустрэлі зычліва, паабяцалі цікавую творчую работу.

На жаль, жыццё аказалася не такім ружовым. І пачалося, як гэта бывае заўсёды, з быту. Маладой сям'і — дачцэ Алесі было ўжо два гады — выдзелілі пакой у бараку, які займала гарсанэпідстанцыя. Адначасова пакой павінен быў служыць і творчай майстэрняй для абодвух. Напачатку Віктар жартаваў, маўляў, добра жыць на рабоце: ніколі не спознішся і раней не пойдзеш. Але калі праз два гады ў гарвыканкоме сказалі, што з жыллём у горадзе цяжка і трэба яшчэ цярпець, ды і ўвогуле лепш будаваць кааператыўную кватэру, энтузіязму ў Стасевічаў ужо амаль не было. (Дарэчы, забягаючы наперад, скажу, што і сёння сярод некаторых гарвыканкомаўскіх чыноўнікаў бытуе думка, што мастакі — народ багаты, могуць будаваць сабе кватэры). Не праявілі вялікіх клопатаў пра маладых спецыялістаў і гарком камсамола, і гарадскі аддзел культуры. І гэта тым больш дзіўна, што на той час Стасевічы былі адзіныя ў наваполацкіх майстэрнях, хто меў вышэйшую спецыяльную прафесійную адукацыю: пераважная большасць наваполацкіх мастакоў — выпускнікі мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педінстытута, дзе, як вядома, вучаць на выкладчыка малявання і чарчэння, а не на мастака-афарміцеля, графіка ці жывапісца...

Можа, Віктар і Галіна дрэнна працавалі? Дык не. Спашлюся на думку іх былых калег:

В. Лук'янаў, член Саюза мастакоў БССР:

«Стасевічы — надзвычай цікавыя творчыя асобы. Мы радаваліся, калі яны прыехалі да нас працаваць, бо прынеслі з сабой сапраўдную творчую атмасферу. На жаль, з-за няўвагі да іх творчасці з боку тагачаснага кіраўніцтва майстэрняў, абыякавасці да іх лёсу гарадскіх арганізацый яны вымушаны былі адсюль паехаць. Мне шкада, што яны — не ў Наваполацку».

В. Шапо, мастак:

«Мы нібыта ажылі з прыездам Стасевічаў. Столькі было творчых спрэчак, задум!.. І іх першыя афарміцельскія работы былі вельмі цікавыя, арыгінальныя»...

А. Канавалаў, мастак, супрацоўнік Полацкага гісторыка-археалагічнага запаведніка:

«І Віктар, і Галя перш-наперш дбалі пра творчасць. Віктар нават у сваё чыста афарміцельскія работы заўсёды стараўся ўключыць ці жывапіс, ці графіку, ці іншыя мастацкія прыёмы. Працаваў, можа, не так хутка, як некаторыя, але заўсёды якасна».

Вось такую памяць пра сябе пакінулі Стасевічы ў Наваполацку. Дарэчы, нядаўна музей гэтага маладога горада, дакладней, яго карцінная галерэя, закупіў некалькі жывапісных работ Віктара, а Галю запрасілі афармляць Палац культуры будаўнікоў.

Дык што — «хэпі энд»? Лічыць так было б вельмі прымітыўна, ды ўрэшце, не толькі пра гэта хацелася б мне сёння паразважаць. Тым больш, што прыклад Стасевічаў вельмі тыповы і выходзіць за рамкі толькі Наваполацка ці таго ж Барысава, дзе зараз жывуць мастакі. І жывуць, дарэчы, у кааператыўнай кватэры (з дапамогай бацькоў і на свае з цяжкасцю сабраныя зберажэнні пабудавалі).

Для чаго я ўсё гэта расказваю? У інтэрв'ю газеце «Чырвоная змена» вядомая наша мастачка Нінэль Шчасная прызнала, што ўвага і клопат пра маладых не сталі, на жаль, яшчэ нормай для старэйшых творцаў. А я дадам: асабліва для тых маладых, хто жыве не ў сталіцы, хто не ўмее ці не можа «пастаяць за сябе», быць навідавоку. Я далёкі ад празмернага захвальвання тых жа Стасевічаў, на маю думку, ім часам не хапае глыбокага асэнсавання сваёй грамадзянскай прыналежнасці, погляду на жыццё праз прызму няпростых і трывожных праблем, іх творчасць магла б і павінна быць больш глыбока нацыянальнай. Тым не менш, гэта мастакі, мастакі сур'ёзныя, мастакі цікавыя. І не іх віна, а іх бяда, што яны пакуль не вельмі вядомыя шырокаму гледачу. Куды больш мы бачым на розных мастацкіх выстаўках у сталіцы і ў абласных цэнтрах шэрых, безаблічных работ, халоднага, з разлікам, рамесніцтва. Я хачу тут не толькі, як гэта журналісту звыкла, кінуць папрок афіцыйным асобам, якія адказваюць за работу з маладымі, я хачу звярнуцца і да нашых творчых асоб: чаму «мецэнацтва» ў самым лепшым сэнсе гэтага слова знікае ў «мэтраў», чаму яно ўсё больш саступае дробнай групаўшчыне і клопату пра ўласныя здабыткі? На жаль, гэта не толькі ў мастакоў...

Сёння ў Наваполацку жыве і працуе яшчэ адна цікавая сям'я. Гэта Сяргей і Рыта Цімохавы. Ён скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі, яна атрымала вышэйшую мастакоўскую адукацыю ў Львове, а да гэтага вучылася ў Мінску, у Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве. І хоць іх шлях — і чыста творчы, і бытавы, — таксама далёка не засланы ружамі, усё-такі часы мяняюцца да лепшага. Хоць парасткі нейкай увагі пачынаюць з'яўляцца. І мне вельмі б хацелася, каб іх станаўленне, іх творчы рост праходзілі ў больш спрыяльных умовах, чым у Стасевічаў, каб на гэты раз і Наваполацк не страціў цікавых творцаў, і каб шлях іх у мастацтва быў больш плённы і шчаслівы.

ПЕРАЧЫТАЎ напісанае, і зноў уявіў сабе маркуемага апанента. «Дык у чым увесь пафас? — са з'едлівай кпінай у голасе запытаецца ён. — Не далі кватэру Стасевічам, дайце Цімохавым...». Вядома, не, хаця не будзем занадта сціплымі: і ад уладкаванасці быту шмат што залежыць. Давайце прыгадаем, колькі мы бачылі выставак маладых, дзе — не толькі плакатныя малайцы ў рабочых спяцоўках і замалёўкі на тэмы даўно вядомых палотнаў? Зноў нагадаю Н. Шчасную: «Калі мы па-сапраўднаму адкрыем дарогу маладым людзям, людзям пошуку, спыняцца ўсялякія шушуканні аб «забароненых» работах і «апальных» мастаках. Рашэнне, паўтаруся, адно — больш самых розных выставак...» Гэта адзін бок справы.

А ў афарміцельскіх работах? Самыя апетытныя «кавалкі» зноў жа не ў маладых. Той жа Стасевіч расказваў, колькі пошуку, сіл і намаганняў прыклаў ён, каб зрабіць эскіз афармлення адной з барысаўскіх аптэк. Уключыў туды некалькі тэматычных жывапісных палотнаў. Дык вось, эскіз ухвалілі, зацвердзілі на мастацкім савеце, а жывапісныя работы заказалі зусім іншым мастакам з пасадамі і званнямі.

Цяпер аб праве мастака прадаць хоць за чыста сімвалічную цану сваю работу. Гэта ў апошні час сталі праводзіцца вернісажы, прынамсі, у Мінску, у Полацку... Але вось задумалі наваполацкія мастакі, якія стварылі кааператыў, прынесці свае работы ў магазін «Кветкі», але аказалася, што гэта не так проста.

А хто з маладых можа пахваліцца, што адбыўся разбор яго творчасці проста ў майстэрні з удзелам вопытных майстроў, мастацтвазнаўцаў, каб расказалі пра іх пошукі і праблемы без параднасці і прыхарошвання па радыё ці тэлебачанні, на старонках перыядычных выданняў? Што ж, камсамол, да яго гонару, бывае, і пашле ў творчую камандзіроўку на ўдарную будоўлю. Ну, а хто піша не пра будоўлі, якую ён увагу адчуе?

Іншымі словамі, праблем у выхаванні творчай мастакоўскай моладзі нямала. Мне гэта нагадвае сітуацыю, калі ў прыцемках цеснай майстэрні (дарэчы, пра недахоп і адсутнасць майстэрняў я ўжо не казаў, бо гэта найгалоўнейшы дэфіцыт, які латаральна павяз у зубах усіх) цяжка разгледзець, што там хаваецца ў кутах: шэдэўры ці танныя падробкі. Дык хто ж запаліць ліхтар, хто дапаможа высвеціць формы і лініі, вынесці на суд і абмеркаванне найгалоўнейшы здабытак мастака — творчасць?

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.**

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА ВАЙНУ І ПРА НАРОД...

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).**

мовіча, які называў Максіма Гарэцкага «сапраўдным сынам вёскі і сапраўдным інтэлігентам» і дадаваў яшчэ, што ў асобе Гарэцкага «лепшыя рысы селяніна і інтэлігента зліліся чыста, незамутнёна».

В. Акудовіч піша пра «шматвекавую пакорлівасць і цярплівасць... маральную абыякавасць да грамадскіх турбот, непраціўленне і раўнадушша перад непазбежнасцю прыгнечанага лёсу» беларускіх сялян напярэдадні другой сусветнай вайны. Як жа суаднесці гэтую характарыстыку з тым, што ў гады грамадзянскай вайны ўжо ў жніўні 1918 года на тэрыторыі, акупіраванай нямецкімі захопнікамі, дзейнічала больш за 100 партызанскіх атрадаў? Партызанская дзейнасць прадаўжалася на Беларусі і ў час белапольскай інтэрвенцыі, што адлюстравалася не толькі ў народнай свядомасці, але і ў мастацкай літаратуры («Дрыгва» Я. Коласа, «Партызаны» К. Крапівы), а таксама і ў гісторыі. Косаўскі расстрэл (1927 г.), Асташынскае выступленне сялян (1932 г.), узброенае выступленне ў Кобрыне (1933 г.), паўстанне нарачанскіх рыбакоў (1935 г.), урэшце дзейнасць Беларускай сялянска-рабочай грамады, Таварыства беларускай школы і іншых рэвалюцыйна-дэмакратычных, нацыянальна-вызваленчых арганізацый на тэрыторыі Заходняй Беларусі, думаецца, у стане развеяць міф аб спрадвечнай абыякавасці і пасіўнасці беларуса, з якой ён дажыў аж да часоў другой сусветнай вайны.

**Мы ўзышлі не з насення, што ветрам занесена,**
**Мы не дзікай травы самаросныя парасткі.**
**У глыбінях зямлі, гераічнай і песеннай,**
**Нашых душ карані — з вузламі упартасці.**
**Каліноўскі дарэшты пазбавіў нас кволасці —**
**Веру-мужнасць сваю завяшчаў нам з-пад вісельні.**
**З гнеўнай лірай Купалы і з эпасам Коласа**
**Мы спазналі сябе і свой голас узвысілі —**

так пісаў Н. Гілевіч у вершы «Лірычны каментар да нашага радаслоўя».

Як бачна, гістарычная праўда не зусім адпавядае праўдзе В. Акудовіча, але тым горш для гістарычнай праўды... «...Калі б не валявое намаганне аўтара (В. Быкава. — **Г. Т.**), чамусьці «прынізіўшага» Петрака і «ўзвысіўшага» Сцепаніду, то мы ўжо мелі б зусім новы і вялізны ў сэнсе паўнаты і значнасці рэалістычнага ўзнаўлення, самы сапраўдны наш нацыянальны характар на самым карэнным зломе гісторыі», — лічыць крытык. Калі забыцца на асабістыя ўяўленні В. Акудовіча аб нацыянальным характары, незразумелым і неабгрунтаваным падаецца папрок за «ўзвышэнні» Сцепаніды і «прыніжэнні» Петрака. Бо менавіта сацыяльная актыўнасць Сцепаніды, яе неабыякавасць да грамадскіх праблем расцэньваюцца крытыкам ні больш ні менш... як толькі валявое намаганне В. Быкава. Аднабаковы, тэндэнцыйны падыход да гістарычнай праўды, да разумення рэалістычнага ідэалу прыводзіць крытыка да суб'ектывізму і адвольнасці ў аналізе мастацкіх твораў. Так, В. Акудовіч знаходзіць, што быкаўскі Пятрок «ужо даўно прабіваўся на свет белы і прабіваўся па-за творчымі памкненнямі мастака і нават насуперак ім». Ад гэтай высновы трохі павявае містыкай. Больш таго, папярэдняя творчасць (да «Знака бяды») В. Быкава дае падставы ўсумніцца ў яе бязгрэшнасці. Вобраз Петрака, думаецца, арганічны і натуральны для творчасці вядомага празаіка. Тая душэўная чуласць, далікатнасць і сціпласць у характары Петрака, якія В. Акудовіч лічыць прыкметай нацыянальнай забітасці і прыгнечанасці, што і прыводзіць яго да думкі аб штучным аўтарскім прыніжэнні Петрака, — бяруць свой пачатак у быкаўскіх вобразах «інтэлігентаў», людзей з чуйнай і паэтычнай душой, якім асабліва цяжка прыходзіцца ў жорсткіх і бесчалавечных умовах вайны.

Крытык чамусьці не хоча заўважыць, што, нягледзячы на ўсю «становасць» і сацыяльную значнасць вобраза Сцепаніды, духоўны свет Петрака больш глыбокі, складаны і супярэчлівы. Пятрок — селянін, земляроб, але, у адрозненне ад Сцепаніды, ён земляроб не па «прызванню», а хутчэй воляй лёсу, абставінамі жыцця. Яго характар у нечым прадвяшчае і растлумачвае тыя вялікія міграцыйныя хвалі, якія ў пазнейшы, пасляваенны час абрынуцца з вёскі на горад. Пятрок — у душы мастак; канечне, ён яшчэ не Сымон-музыка, але ён з тых, хто падрыхтоўвае глебу для нараджэння музыкаў. Менавіта таму ён так ахвотна аддае Сцепанідзе права рашаючага голасу ў сваіх сямейных, жыццёвых справах, бо ён калі яшчэ і не зусім чужы ў асяроддзі, якое яго нарадзіла і дзе ён жыве, то ўжо і не зусім свой.

«...Схільнасць да подзвігу... паўплывала... на занядбанне духоўнага патэнцыялу вобраза Петрака і, думаецца, што дарма, бо ў цэлым Пятрок — гэта ўдача, значэнне якой выходзіць за рамкі беларускай літаратуры, але асабліва важная гэта ўдача для яе, як і для творчасці самога пісьменніка», — піша В. Акудовіч. Логіку гэтага выказвання, здаецца, не кожны ў стане зразумець. Як жа так: вобраз Петрака — удача, значэнне якой выходзіць за ўсялякія магчымыя рамкі, і ўдача, нягледзячы на тое, што В. Быкаў занядбаў духоўны патэнцыял гэтага вобраза, свядома яго «прынізіў»? Здаецца, што крытык тут пачынае супярэчыць сам сабе. А адбываецца гэта таму, што ігнараванне канкрэтных гістарычных фактаў, тэндэнцыйны падыход да аналізу літаратурных твораў даюць свой, можа, нечаканы і для самога крытыка, плён.

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

**Ніна ГАРАГЛЯД**



### *Сустрэча з родным домам*

А за акном лугі, пралескі...
Мчыць мяне поезд Янаў-Палескі
У край, праз гады куды сцежка кліча,
Каб да матулі шчакой прытуліцца.
Стану на грэблі. Гляну на хату.
Сэрцам адчую, што вінавата:
Рэдкаю госцяй сюды залятаю.
За мітуснёю пра дом забываю.
Вось і матулька. Выйшла насустрач.
На галаве — падарунак мой — хустка
Белаю птушкай за ветрам ірвецца.
Плача матуля і разам смяецца.
Я абдыму яе кволыя плечы.
— Пойдзем да хаты. Наперадзе вечар
Шчырай гамонкі, успамінаў светлых...
Хай не канчаецца водпуск мой летні!

●

У пушчы Белавежскай
Шумяць яліны, сосны
І стройныя алені
Бягуць па травах росных.
Каб да крыніц схіліцца,
Вады папіць гаючай...
Іх не спалохай рухам
І позіркам калючым.
Усё жывое прагне
І ласкі, і цяпла...
Лес цягнецца да сонца,
Як людзі да святла!

●

На дачушку гляджу імклівую.
Усё маё. Наросхрыст душа.
У трынаццаць — такая шчаслівая.
Не кране хай яе іржа
Раўнадушша, разліку, чэрствасці,
Што, нібыта чарвяк, нас точыць.
Хай жыццё будзе светлым вершам,
Хай адкрыта глядзіцца ў вочы!

●

Восень позняя
У шыбу стукае
То дажджом,
То галінкай клёна.
Абляцеў пад акном
Клён любімы,
А нядаўна яшчэ быў
Зялёны.
Так і я. Апушчу квола
Плечы.
Дзе заняць
Прыгажосці былой?
Восень шэпча:
— Прыйшоў твой вечар...
А так хочацца быць
Маладой!

●

Зямля скамянела.
І гулкія крокі
Далёка чуваць.
Аддаюцца ў вушах...
Ды цешу сябе,
Што часова ўсё гэта.
Вось толькі як быць,
Калі ў чалавека
Каменнаю стала душа?

---

**НАШ ДУХОЎНЫ СВЕТ: ВЫТОКІ і АБСЯГІ**

# Знікла памятка дзён...

ЗНІКЛА брукаванка на плошчы Мяснікова ў Мінску. «Касметычны мазок» гарадскіх добраўпарадчыкаў яшчэ раз (ці апошні?) кранўўся твару нашай сталіцы. Знікла адметная рыска, пратталінка даўніны, лапік каштоўнай гісторыі горада, памятка першых гадоў савецкага часу.

Не пабаюся сцвярджаць, што гэта акт разбуральны — парушаны, часткова разбураны адзін з цэнтральных фрагментаў гістарычнага асяроддзя Мінска. Не трэба быць вялікім знатаком, каб такое сцвярджэнне прыняць. На плошчы стаяць будынкі, якія даўно спрачаліся паміж сабой: ці то яны былі сведкамі будаўніцтва брукаванай плошчы, ці то брукаванка была сведкай іх з'яўлення на свет. Цяпер не спрачаюцца: яны асірацелі. Назаўсёды.

А мы, жыхары горада? Адчулі чарговы сімптом сіроцтва?

Дзіўная рэч: маё маленькае даследаванне грамадскай думкі на гэты конт паказала, што людзі ўспрынялі знос брукаванкі асуджальна, не падзяляючы довадаў, якія маглі б апраўдаць вандальную ўпраўнасць горадаўпарадчыкаў. Адзін вадзіцель таксі, напрыклад, прызнаўся, што раней ён пры кожным зручным выпадку, везучы гасцей Мінска, зварочваў сюды і сцішаным ходам акцэнтаваў увагу на рэліктавым бруку. «І як?» — запытальна паглядзеў я на таксіста. «Гэта заўсёды рабіла ўражанне, людзі міжволі пачыналі распытваць пра горад».

Таксіст здзіўляўся. Ён рэгулярна глядзіць «Клуб падарожжаў», там што ні горад, то свае традыцыі, куткі гістарычнай экзотыкі, захапляючыя экскурсы ў мінулае. Запомніў ён і цікавы аповяд пра брукаванкі. «Няўжо ж у іх, у немцаў, асфальту не хапае?» — нібыта прастадушна спытаў ён у мяне, а ў вачах — самавітая кемнасць і разуменне здаровага сэнсу.

Я не запытаў у таксіста, ці даводзілася яму калі-небудзь выходзіць на гулкую маставую ў калоне дэманстрантаў. Думаю, для многіх мінчан яна асацыіруецца з кумачовым шэсцем святочных калон, урачыстым выхадам на галоўную плошчу сталіцы.

Асацыяцыі тут дарэчы. Ва ўсіх нас нібыта паменшала слыху, быццам усе мы патроху пазбавіліся чуйнасці. Побач з помнікам вялікаму правадыру той кавалачак брукаванкі, нібыта марская ракавіна, прыцягваў і рэха далёкіх рэвалюцыйных падзей, і пралетарскі крок новай эры, і чаканныя рытмы першых ваенных парадаў.

А як тут не ўспомніць класічна вядомы шадрынскі скульптурны вобраз — «Булыжнік— зброя пралетарыяту. 1905 г.»?

Такое ўражанне, быццам з кнігі роднага горада хтосьці выдраў старонку. Не старонку — дык абзац, радок. Кожны кампанент дарагі. Тэкст — няпоўны.

Хіба не супярэчыць гэта вопыту захавання гістарычнай памяці? Вопыту, які на сённяшні дзень, здавалася б, аднолькава засвоены і тымі, у каго варта яго пераймаць, і тымі, каму пераймаць неабходна. Мінск, як вядома, з ліку апошніх. Уявіць прыкра, як пасля пераажыўшыя нас будуць змушаны шукаць нейкі «ўсярэднены» варыянт, каб паяднаць наша невуцтва і абыякавасць з вялікай гісторыяй народа. Зрэшты, сёння ўжо настальгічна шукаем.

Няёмка і сорамна бачыць, як абразліва ігнаруецца думка калі не грамадства, дык яго сталай, перадавой, свядомай часткі — палічыце, колькі ў Мінску ганараваных урадам людзей, адзначаных прызнаннем народа, ды і светам прызнаных — у галіне навукі, пісьменства, мастацтва. А многія ж «пастаўлены перад фактам». Нібыта ўсе яны тут — староннія, чужыя, з базара бягуць на цягнік.

Здавалася б, ёсць досыць асэнсаваная сумная хроніка страт, якія выпалі на лёс Мінска. Аднак «герастратны» механізм не спынен. Ён дзейнічае спадцішка, і мы не ведаем усіх вынікаў яго заўтрашняй дзейнасці, якія — можа стацца — зноў прывядуць да высновы, што **ўся сусветная практыка зводзіцца да таго, каб захаваць нашчадкам кожны камень, які шліфаваўся гадамі, а мы яшчэ гэта як след не ўсвядомілі.**

Наша адсталасць? Заскарузлае, наступальнае невуцтва? Жаданне перакроіць свет на свой лад, пад свой «культурны» ўзровень?

Усё не нова і як быццам «на слыху».

Не бяруся рабіць шырокавяшчальныя абагульненні, аднак развагі ўсё больш схіляюць да іх. З аднаго боку, «чалавекам у інтэр'еры горада» мне бачыцца з недалёкага часу няшчасны ханурык, які пакалечыў мінскую рэліквію — Хлопчыка з лебедзем. Шалапутнае святатацтва? Так. Жорсткі ўрок бездухоўнасці, п'янай развязанасці? Безумоўна.

З другога боку, «чалавек у інтэр'еры горада» — актыўны і дасведчаны прыхільнік традыцый, чуйны апякун гістарычнай памяці роднага горада. Гэта ён звоніць у інстанцыі, парушае спакой кабінетаў, часам лезе, як кажуць, на ражон, зарабляючы нярэдка ярлыкі...

А цяпер я дазволю сабе рытарычнае пытанне: да якой катэгорыі можна аднесці людзей, з чыіх ведама, згоды, указання чыніцца планамернае і часам свядомае разбурэнне памяці горада (зразумела, не толькі Мінска)?

Апаганенне помніка або памяці мы ўспрымаем гнеўна, з запалам і ўзрушэннем. Гэта нармальна. Такая наша рэакцыя абумоўлена адкрытай варожасцю да нас, сімптомам нянавісці, відавочным выпадам супраць грамадства. Але ўчыняць адкрыта выклік асмеліцца або ўсеўладарны вар'ят-грабежнік, або наняты герастрат. Таму існуе падспудная, па-дзеловому спакойная, нярэдка самаўлюбёная і нахабная форма апаганення. Часам яна мімікрыруецца, спачатку знаходзячы зручныя апраўданні, а затым — прымаючы неверагодна анёльскі выгляд.

Вось кажуць: трава забыцця. Мінулым летам у Віцебску бачыў я гэтую траву. Не абы якую: светла-зялёную, газонную. З кусцікамі дэкаратыўнай ружы пасярэдзіне. Якраз там, дзе былі знесены (дакладней, сцёрты з твару зямлі) гістарычна каштоўныя будынкі, так неабходныя кожнаму гораду. Выпадковы прахожы, напэўна, не здагадваецца, якая «каранёвая сістэма» ў гэтай травы, у гэтых ружаў. Падумае, звычайная. Нішто сабе лугавінка з райскай зелянінай, свежымі пялёсткамі кветак. Цешыць вока, дорыць прыемныя эмоцыі.

А той, хто ведае, на якім месцы пасеяна гэта «райская» травіца, не раз адчуе на сэрцы горыч і крыўду. Бо гэта **трава забыцця,** бо гэта **ружы бяспамяцтва.**

Знікла памятка дзён... Гэта ж, нарэшце, вялікая наша непавага да брукароў (лічы, выраджаная прафесія), іх цяжкай ручной працы ўклепч, іх поту і майстэрства, руплівай цярплівасці і самаахвярнасці. Успамінаю міжволі земляка Іосіфа Кохана, майстра адметнай школы брукарства, які заўсёды засмучаўся, калі ўведваў, што недзе яго брукаванку «залілі» асфальтам. «Не той фасон» — зазначаў стары, падкупляючы таемнасцю свайго стойкага густу.

Прызнаюся шчыра: пісаў гэтыя нататкі, а рука прагна цягнулася да тэлефоннай трубкі. І ўсё ж цярпліва не рабіў гэтага перад неабходнасцю дапісаць **свой** боль, **сваё** абурэнне, **свае** меркаванні. І толькі затым набраў некалькі нумароў — запытацца, чым кіраваліся «адпаведныя» таварышы, даючы згоду на знос брукаванкі; якімі патрэбамі настоена змена апраткі вуліцы — чорна-бліскучага покрыву на шэры безаблічны асфальт; якія довады будуць выстаўлены для апраўдання «стратнага моманту» (як прызнае пасля адзін з удзельнікаў дыялогаў у ГалоўАПУ Мінгарвыканкома)?

— ...Даруйце, а вы хто будзеце? — адказаў мне даволі раздражнёны голас.

— Я ўжо прадставіўся: чалавек, які любіць свой горад. Можна так?

— Але калі вы любіце свой горад, дык чаму не ўзнімаеце праблему жылля, якога не хапае ў Мінску, кепскага забеспячэння магазінаў патрэбнымі таварамі, у рэшце рэшт, ёсць праблема азелянення горада?

Так пачаўся дыялог. Я разумею, у тэлефоннай размове можна міжволі збіцца на графаманскі тон і адкрытую дэмагогію. Таму не спяшаюся называць субяседніка. І ўсё ж рэакцыя яго паказальная. Адчуваўся добра завучаны прыём— як мага зручней асадзіць чарговага «патрыёта». А ў словах чулася халодная браня расхожага клішэ, што выдавалася за вычарпальны довад.

— Вы ўсведамляеце, што вашы словы супраць вас? — задаю пытанне і адказу не чую. А чую пытанне з увярэдлівымі ноткамі ў інтанацыі.

— Ну хіба няма ў вас іншых клопатаў, апроч брукаванкі?..

Субяседнік як не чуў мяне. «Чалавек, які любіць горад» яго ўсё ж раздражняў, уяўляўся звычайным ананімам-злапыхліўцам, чые амбіцыі і сапраўды часам не маюць граніц і каштуюць камусьці нямала здароўя. І ўсё ж адказ на сваё пытанне я хацеў пачуць. Хоць два словы, хоць слова.

Пачуў. Праўда, не тады па тэлефоне, а крыху пазней, у адным з кабінетаў ГалоўАПУ. Як усё проста! Паляпшэнне пакрыцця. Бяспека руху. Зручнасці. Маўляў, каб ехаць было шпарчэй і гладчэй, каб не надта трэсла (дзесьці ў паперах гэта, можа, гучыць і не так, з больш вычарпальнымі тэхнакратычнымі выкладкамі, аднак сэнс іх прыкладна такі). ...Можна, аказваецца, да найдрабнейшых дэталей абгрунтаваць зношванне тралейбусаў аб брук і не падумаць, што за самадзейным «палепшыць» можа стаяць «разбурыць», надмесці разам са смеццем пласты гісторыі, хай сабе і не такой далёкай.

Увогуле, ці маем мы права ўсё ў горадзе паляпшаць? Магчыма, больш высакародна было б даглядаць, берагчы, любоўна шанаваць тое, што пакінуў нам такі нялітасцівы час. Я не жыхар мікрараёна Паўднёвы Захад, але калі б быў ім, напэўна, адчуваў бы не клопат пра сябе, а хутчэй віну сваю, няёмкасць за тое, што пракладка тралейбуснай лініі ў гэты раён прадвырашыла лёс брукаванкі, што гэта дбанні аб маім камфорце «асушылі» запаведны пятачок. Сляпое падпарадкаванне разумнага сэнсу матэрыяльным выгодам, пагадзіцеся, гучыць тут літаральна і вельмі нагадвае з'яву, якую Іван Васільеў назваў падзёншчынай.

На вялікі жаль, вярнуць плошчы Мяснікова яе брукаваны ўбор сёння ўжо не ўяўляецца магчымым. «Справа», як кажуць, зроблена. Гэта не назва вуліцы, якую, у згодзе з тым жа разумным сэнсам, заўжды не позна аднавіць...

Таму думаецца вось пра што. Яшчэ не акацілі асфальтам лічаныя метры бруку на вуліцах па-над Свіслаччу. А хто дае гарантыі, што гэта не сёння-заўтра здарыцца? Хто ахоўвае ў горадзе пакінутыя нам воляй лёсу тыя пратталінкі даўніны? Не будынкі, не сцены, на якіх ёсць ахоўныя шыльды, а па сутнасці пядзі зямлі?

Ва ўпраўленні культуры гарвыканкома, як і ў гарадскім савеце Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, гэтыя пытанні выклікалі больш здзіўленне, чым зацікаўленасць.

Цяпер, бадай, наша чарга здзіўляцца. І чакаць нетрафарэтнага адказу на другое пытанне: чаму ў нашым горадзе амаль не «пахне» гісторыяй, і ўвогуле, ці адпавядае часу сістэма ахоўнасці гарадскіх рэліквій?

Хачу быць правільна зразуметым: брукаванка — усяго слядок, пячатка гісторыі, матэрыяльна выразная клетачка памяці горада. Як мала? Як многа, калі мець на ўвазе галоўнае — ахова памяці павінна весціся і на гэтым, **клетачным** узроўні!

Калі мы не набудзем імунітэт, які ахавае нас ад пагардлівых адносін да аднаго дрэва, то мы не далічымся рэліктавых садоў і паркаў. Калі мы не набудзем імунітэт, які ахавае нас ад пагардлівых адносін хоць бы да адной, роднай нам назвы,— ці ўстаім перад напорам стыхіі, якая можа дарэшты разбурыць моўнае асяроддзе. Нарэшце, калі мы не набудзем імунітэт, які ахавае нас ад пагардлівых адносін да «нейкай брукаванкі», то хто ведае, ці акажацца ён больш устойлівым перад такімі ж адносінамі і да сапраўды вялікага помніка гісторыі і культуры. Аксіёмы звычайнай ашчаднасці, бліскучае пацвярджэнне якіх мы знаходзім у разбуральным летапісе роднай сталіцы. (Побач са стваральным ёсць і такі, менш вядомы).

Да гэтых невясёлых разваг над гісторыяй адной мінскай брукаванкі хачу дадаць яшчэ некалькі меркаванняў на тэму «Чалавек у інтэр'еры горада».

Апошнім часам шмат гаворым пра тапанімічны пейзаж

**(Заканчэнне на стар. 14—15).**

**Саўлюс Шальцяніс — адзін з самых адметных літоўскіх празаікаў і драматургаў сярэдняга пакалення. Яго першая кніга выйшла ў 1966 г., праз два гады была пастаўлена першая п'еса. Аўтар аповесцей «Вакацыі», «Арэхавы хлеб», «Дуокішкіс» і інш., шэрагу апавяданняў і кароткіх навел, п'ес «Гільяціна», «Ясон», «Літуанік», «Прэч, кашчавая, заўсёды прэч!» (апошняя пастаўлена ў многіх тэатрах краіны і за мяжою). У сааўтарстве з Л. Яцынявічусам напісаў п'есу «Загоншчыкі агню» (пастаўлена ў Брэсцкім тэатры пад назваю «Казка пра Моніку»), якая лягла ў аснову лібрэта першага літоўскага мюзікла на драматычнай сцэне. Творчасці Шальцяніса ўласцівы паэтычнасць і тонкае пранікненне ў душу чалавека, асабліва маладога і зусім маленькага. Многія яго навелы, апавяданні, аповесці і п'есы перакладзены на мовы народаў СССР і замежныя мовы. Апавяданне «Цукар на памяць» на рускай мове не друкавалася.**

Саўлюс ШАЛЬЦЯНІС

# Цукар на памяць

*АПАВЯДАННЕ*

Казік трапіў у лагер дзякуючы сваім трусам, а я ці то за металалом, ці то за актыўны ўдзел у працы піянерскай арганізацыі, сам добра не ведаю: прыйшоў да нас дамоў у час абеду мужчына ў сінім галіфэ, спытаўся, ці напраўду гэта я перапужаў усіх да смерці, а пасля заявіў, што заўтра роўна ў шэсць раніцы я мушу быць з зубною шчоткаю і іншымі асабістымі рэчамі каля раённага аддзела народнай асветы, адкуль мяне даставяць у гэты лагер — дарэчы, зусім бясплатна, і няма тут чаго турбавацца, не на дваццаць пяць гадоў ад'язджае сын, вернецца здаровы, шчаслівы і ў штаны не ўлезе — усе адтуль вяртаюцца таўсцейшыя.

Вось так, можна сказаць, сам лёс у сінім галіфэ пастукаўся ў нашы дзверы, нават кавалак хлеба ў горле захрас, і я быў нечакана закінуты ў сапраўдны піянерскі лагер, але не каля мора, пра што марыў усю ноч да шасці ў дрымоце (мора вялікае, разоў у пяць большае за луг, што за нашай хатаю, амаль не відаць другога берага, і тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак з чырвонымі гальштукамі на шыі грабуць, шчаслівыя, на аднамесных і двухмесных байдарках, ловяць рыбу на спінінгі, бамбукавымі вудачкамі і на жывую рыбку — клюе так, што ажно не верыцца, — строгі мужчына ў сініх штанах заходзіць у гэты момант па калені ў ваду і чысціць зубы маёй празрыстай, як бурштын, шчоткаю і парашком), а ў сасновым лесе каля маленькай рачулкі, без рыбы, без байдарак, у другім атрадзе на другім паверсе вялікага драўлянага будынка, побач з Казікавым ложкам. Увечары, калі гарністы далі адбой, а выхавацелька растлумачыла, што трэба заплюшчыць вочы і засынаць, я перавярнуўся на правы бок, таму што лежачы на левым чуеш, што сэрца б'ецца, быццам званы ў касцёле, і ўбачыў каля сваёй галавы спалоханае вока, якое пільна ўзіралася ў мяне: ложак мой быў прысунуты ўпрытык да суседняга. Хлопчык імгненна зажмурыўся, я зноў перавярнуўся на левы бок, на якім і праспаў да самае раніцы (сон мой, вядома, быў кепскі), — і толькі раніцаю і даведаўся, што завуць суседа Казікам. Спачатку я не зразумеў, чаму гэта ён зранку такі напалоханы: баяўся ўставаць, а калі ўстаў, дык ніяк не мог адважыцца пайсці мыцца — глядзеў усё на свой ложак, нібыта пакінуў пад коўдраю вельмі дарагую рэч, што-небудзь накшталт сярэбранага гадзінніка. А я тым часам засцілаў свой ложак і паклаў на якую хвілінку падушку на ягоны ложак, і неяк так у мяне атрымалася, што, падымаючы сваю падушку, я пацягнуў незнарок Казікаву коўдру і зразумеў, што яна мокрая. Дзякуй богу, усе ўжо пайшлі мыцца і ніхто, апроч мяне і самога Казіка, гэтага не прыкмеціў. А Казік, як ён мне пасля прызнаўся сам, думаў у той момант, што я пачну крыўляцца, быццам якая малпа, галёкаць, схаплю мокрую коўдру і стану кожнаму ў лагеры падносіць яе пад самыя вочы: глядзіце, маўляў, у другім атрадзе — га, га, га! — рыбак аб'явіўся!..

Але я не толькі не стаў рабіць усяго гэтага, а нават наадварот: пачырванеў, нібыта сам быў на Казікавым месцы — таму што бывае іншы раз у сне, быццам бяжыш на двор, прыбяжыш нарэшце туды, дзе цябе ніхто не бачыць, — і раптам, спалоханы, прачынаешся. Калі я яму так растлумачыў, што з любым чалавекам усякае можа здарыцца, ён адразу ж стаў сябе пачуваць шмат ямчэй і назваў і сваё імя, і прозвішча, сказаў, адкуль ён і як сюды трапіў, ну, і я яму таксама расказаў, як прыйшоў да нас мужчына ў сінім галіфэ і як кавалак хлеба захрас у горле. Мы абодва засмяяліся, і жыццё не здавалася ўжо нам больш такім безнадзейным.

Пасля снедання мы памылі коўдру ў рэчцы і, схаваўшыся ў кустах, сушылі яе да абеду, а матрац сам павінен быў патроху за некалькі дзён высахнуць. Але кожную ноч здаралася ўсё тое ж самае і нават горш, таму што Казік, мусіць, увесь час думаў пра гэта, а калі думаеш і баішся, дык так яно ўсё якраз і здараецца. Увесь першы тыдзень у лагеры прайшоў прыкладна так: увечары, лежачы ў ложку, Казік глядзіць на мяне, глядзіць, быццам я мог бы хоць гэтую ноч адаспаць за яго, а я яго супакойваю і пераконваю шэптам, што не варта здавацца, трэба напрагчы волю і тады ўранку, як і для ўсіх людзей, будзе свяціць сонца, будуць спяваць птушкі і г. д. Я стаміўся, дальбог, і праз тыдзень гаварыў з Казікам ужо нават не гледзячы на яго і спрабаваў хоць бы ўдзень уцячы ад яго, але ён хадзіў за мною, быццам быў да мяне прышыты, і ўвесь час стараўся размаўляць са мною смела і весела, хоць і быў ніжэйшы за мяне ростам ці не на тры галавы — такі маленькі, быццам бы і пад сонцам ніколі не быў і вітамінаў не еў ніякіх. А ў сталовай увогуле не было як ад яго ўратавацца, гэтак агідна пачынаў Казік дагаджаць мне: так і сунуў мне ці не ў самы рот свой пончык з павідлам, які ўсе праглытвалі, нібы галодныя ваўкі, адным кавалкам — можна было падумаць, што ён ужо гэтак налопаўся, што нічога больш не хацеў, а пончыкі з павідлам дык і зусім не любіў!

Я таксама быў тут самотны, мне часта рабілася сумна, і я паціху ўсё адно як вар'яцеў, ратуючыся ад Казіка. Прынамсі, сем хлапчукоў, з якімі я хацеў пасябраваць, знайшлі сабе іншых сяброў і мелі тысячу цікавых спраў і сакрэтаў, мы ж з Казікам толькі адзін — сакрэт мокрае прасціны! І наш галоўны клопат: як яе памыць, каб ніхто нічога не ўбачыў, як высушыць, каб ніхто не ўбачыў! А старшыня савета дружыны Сара Блюмберг, выхаванка дзіцячага дома са сталіцы, нават ні разу не ўзняла на мяне вочы — гуляла пасля абеду сама з сабою ў шахматы і грызла ражкі свайго шоўкавага з жоўтаю строчкаю гальштука. Вядома, з прывязаным да мяне Казікам я для яе быў прасцяк і звычайны няўдачнік...

Неяк у нядзелю мы сядзелі ўтраіх у альтанцы — я, Казік і Сара. Па бляшаным даху барабаніў дождж. Сара Блюмберг нахмурыла бровы, нарэшце зірнула на мяне з Казікам і, раззлаваная, змахнула з дошкі рукою шахматы, ляпнула гэтаю дошкаю, схаваўшы ў яе драўляныя фігуркі, і пабегла ад нас, не зважаючы на дождж.

— Ліе, — сказаў Казік.

— Дождж мне знайшоў! — усё адно як адрэзаў я.

— Ну, напраўду, дождж мне знайшоў, не з цукру ж — не растанем! — адразу ж засмяяўся Казік.

Праз іржавы дах альтанкі на шахматную дошку і на крэсла, на якім яна ляжала, падалі кроплі дажджу — сумна, калі так пуста навокал, калі нават шахматы мокрыя і крэсла мокрае, здаецца, нібы сто гадоў ніхто тут не сядзеў.

— Казік, — сказаў я раптам, зусім збянтэжаны, — а што, каб ты ўвечар падсунуў пад сябе кавалак бляхі...

Казік паглядзеў на дах альтанкі, кіўнуў галавою, а потым, саромеючыся, запытаўся:

— А дзе ўзяць бляху? З даху мо садраць?

Вядома, бляха з даху альтанкі была нягодная, іржавая, апроч таго, у нас не было інструментаў, акрамя сцізорыка, але я ўспомніў, што за лагерам, на звалцы, валяецца прыгожы, бліскучы, ацынкаваны кавалак бляхі, калі яшчэ толькі, вядома, яго ніхто адтуль не сцягнуў.

І ў тую ж ноч Казік ляжаў у ложку, нічога не баючыся, — спакойны-спакойны, усё адно што бульбяны парастак, які з падвала цягнецца да сонца, — на знойдзеным мною кавалку бляхі, у некаторых мясцінах, праўда, таксама крыху ржавай, але ўсё адно даволі прыстойнай з выгляду.

— Ну як ты? — спытаў я. — Не трэ нідзе?.. Не ціснe?.. Можа, трэба, каб пасярэдзіне быў большы прагіб?

— Якраз, — прашаптаў Казік. — Дзякуй, лепей і быць не можа...

І чамусьці ціха заплакаў, відаць, праз задавальненне, якое адчуваў, лежачы на блясе.

Ледзь не кожны дзень Казік пісаў дамоў лісты, усё цалаваў і цалаваў у апошнім сказе сваіх бацькоў, хоць тыя, як высветлілася, нібыта і не ягоныя былі бацькі, і маніў ім, маніў, як толькі мог, што яму тут так хораша, што ён тут такі шчаслівы! А колькі разоў у дзень тут яго кормяць! Колькі разоў глядзеў ён тут у клубе бясплатна кіно «Чортаў перавал»! Таму я ўвесь час думаў, што ён і мне маніць, калі расказвае па начах пра свой родны Жуклішкес, пра сваіх сапраўдную і несапраўдную матак, або пра гіганцкую пароду трусоў. Не, у трусоў я верыў, бо ён паказваў мне выразку з піянерскай газеты, дзе было ясна, чорным па беламу сказана, што Казік — лепшы ў раёне трусавод, але ўсё астатняе, пра што ён нашэптваў мне па начах на вуха, здавалася ці не казкаю. Я, аказваецца, не ведаў, што так бывае ў жыцці, і засынаў збянтэжаны, а мая галава, перапоўненая Казікавым шэптам, гудзела, усё роўна як мурашнік ягоных братоў і сясцёр, якія пайшлі ўслед за маці сабакам жыта жаць, гэта значыць, слізкай сцяжынкаю... Пра што ён мне, урэшце, толькі ні шаптаў...

Вядома, я і без Казіка ўжо знаў, не вельмі дакладна, праўда, але ўсё ж такі ўяўляў, што людзі нараджаюцца з жывое маці, неяк самі па сабе, гэтаксама, як кветкі ў прыродзе праз рыльца і песцік, але Казік разагнаў усе мае сумненні і, што важна, расказаў пра ўсе гэтыя рэчы так проста і праўдзіва, пэўна, не жадаючы хлусіць, што я адчуў сябе і дурнем, і падманутым, і засаромеўся, быццам падглядзеў штосьці праз замочную адтуліну або прачытаў чужы ліст... Дык вось, Казік расказваў, што сапраўдная яго маці жыве цяпер не ў Жуклішкесе, а недзе ў Казахстане ці каля Казахстана (у Казіка быў адзін яе ліст), дакладна ён не ведаў, бо другая яго маці, цяперашняя, мыла ягоны пінжак, а ў кішэні застаўся канверт, так што цяпер толькі і можна было прачытаць на ім адно кароткае рускае слова «КРАЙ».

— Край, край, гэта я дакладна помню, — сказаў мне Казік, калі мы стаялі ў клубе каля вялікай карты Савецкага Саюза і шукалі тое месца, дзе

# Знікла памятка дзён...

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13).

нашых вуліц. Ён аднастайны да беднасці, хоць нядаўна мы і пабагацелі са шчодрага куфэрка памяці: у Мінску часткова адноўлены некаторыя назвы, ліквідаваныя незаслужана. Гэта робіць і гонар, і абавязвае. На добры лад, вуліца павінна жыць сваёй назвай, а назва — прысутнічаць у жыцці вуліцы, пускаць глыбокія карані ў яе побыт і традыцыі. Карацей кажучы, што ні вуліца — то свой адметны матыў: у назвах магазінаў, кафэ, атэлье, у мастацкім аздабленні. Калі з гэтай пазіцыі сёння ўважліва глянуць на горад, убачым, якое нагрувашчванне выпадковасцей месціцца паўсюль. Адсутнасць матываў відавочная. Сумбур—дый годзе. На яго месца павінна заступіць **арганізацыя справы на карысць вобразнасці і адухоўленасці.** Гэта, у сваю чаргу, навучыць нас і вуліцы называць умела, з большай адказнасцю, запатрабуе эрудыцыі, творчасці, культуры. Мяркую, першай такой вуліцай магла б стаць Няміга. Які шанц для мастакоў, архітэктараў, усіх, каму дораг родны горад, гісторыя славянства!

А скажыце, каму будзе кепска, калі сааўтарам горада стане кожны з нас, яе жыхароў? Нікому. Спробы задзейнічаць грамадскую думку — гэты сапраўды залаты рэзерв — апошнім часам пракідаюцца. Скажам, летась парадаваў многіх мінчан дэмакратычны захад праз «Вячорку» наладзіць конкурс на лепшую назву гарадскога свята. Масы шчыра ўспрынялі гэты жэст, досыць дружна адгукнуліся на заклік. Прапаноў было шмат цікавых і нестандартных. Аднак засмучае, што ніводная з іх не папала «пад густ». Жэст, у рэшце рэшт, адвёў усё. Чаму ж была аддадзена перавага? Варыянту «Мінск-86». Але ж свята не вылічальная машына, не якая іншая робатападобная істота, каб мець такое халодна-бясстраснае найменне. Нават вайсковыя вучэнні, дарэчы сказаць, праходзяць пад больш выразнымі назвамі. Ды галоўнае, урэшце, не ў гэтым. Проста жэст, высакародны, як здавалася напачатку, ператварыўся (прынамсі, так выглядала) у фігуру староннямга адмаўлення, фармальна-спажывецкіх адносін да грамадскай думкі. Голас мас, шчыры і даверлівы, быў папросту праігнараваны. Ці дапушчальна было, хоць бы з меркаванняў тактоўнасці, так рабіць? Асабліва калі ўлічыць, што за публікацыямі «Вячоркі» з надзеяй сачылі тысячы чытачоў, гатовыя салідарна прыняць не адну з прапаноў. Сёлета, зноў праз «Вячорку», была зроблена спроба вярнуцца да адной з мінулагодніх прапаноў—назваць галоўнае гарадское свята «Сябрынай». З задавальненнем падпісаўся б пад гэтай назвай.

Думаецца, сёння настаў час папытацца ў гараджан і аб тым, якія помнікі яны хацелі б бачыць, якім — пакланяцца і радавацца, да якіх насіць кветкі, вадзіць дзяцей і гасцей, ля якіх — сустракацца каханым, спяваць песні і чытаць вершы прысвячэння. Ці, можа, хто асцерагаецца, што цяжка пры гэтым пазбегнуць «перакосаў», праяў «мясцовага патрыятызму» і гэтак далей. Чым тут крыць? Здаецца, час лютага недаверу да людзей мы перажылі і па-сапраўднаму «выпакутавалі публічнасць».

Вопыт (а лепш сказаць, урок) шырокага абмеркавання праектаў помніка Перамогі на Паклоннай гары ў Маскве балюча сведчыць, як шмат намі ўпушчана за многія папярэднія гады, наколькі большую маральна-духоўную аддачу (і сёння, і заўтра) маглі б мець помнікі, узведзеныя ў сааўтарстве з народам.

Горад-герой Мінск параўнальна нядаўна абагаціўся на помнік, які сваім гмахам закранае воблакі, а для многіх мінчан і жыхароў Беларусі свяцейшым і даражэйшым застанецца велічна-ўрачысты, велічна-зямны абеліск на плошчы Перамогі. Асабіста я ўсю глыбіню пашаны перад імёнамі вызваліцеляў і пераможцаў прынясу сюды. Усю паўнату Мінуты Маўчання зведаю тут.

Зрэшты, калі ўжо беларусы, як прынята лічыць, былі ўсю дарогу сціплым народам, дык ці варта гэту думку пра нас абвяргаць тварэннямі гігантаманіі, у якіх, дарэчы, выяўляецца не столькі веліч подзвігу, колькі «ўмельства» патраціць адпушчаныя дзяржаўныя сродкі з небывалым купецкім размахам. Яшчэ горш тое, што подзвіг падаецца ў вобразе, на мой погляд, неапраўдана абагуленым, надта аддаленым ад



## РАЗАМ З НАМІ — У АВАНГАРДЗЕ МОДЫ



**130 сучасных мадэлей з абсалютна новых відаў трыкатажных палотнаў распрацавала новая мастацка-вытворчая фірма — Рэспубліканскі Дом мадэлей трыкатажных вырабаў.**

**Хутка кожная з гэтых мадэлей зможа стаць вашай.**

Па заказе Беларускага рэспубліканскага Дома мадэлей.

## ДЗІВОСНА ПЕРАЎТВАРАЮЦЬ КВАТЭРУ



**дэкаратыўныя парцьеры Магілёўскага вытворчага аб'яднання шаўковых тканін.**

**Лёгкія і шаўкавістыя, яны цудоўна драпіруюцца, утвараючы мяккія складкі. Шматвобразнасць расфарбовак і ўзораў дазваляе выбраць на парцьеры такую тканіну, якая будзе гарманіраваць з інтэр'ерам кватэры.**

**Акрамя таго, парцьеры са штучнага шоўку доўга захоўваюць яскравасць і сакавітасць фарбаў, добра мыюцца і прасуюцца.**

**Зробяць прыгожай і ўтульнай вашу кватэру парцьеры Магілёўскага камбіната шаўковых тканін.**

Па заказе Беларускага рэспубліканскага Дома мадэлей.



## УСЕ КОЛЕРЫ РОДНАГА КРАЮ

**Спакойныя і чыстыя, яны ажываюць у жывапісных узорах брэсцкіх дываноў.**

**Пры гэтым доўга застаюцца яркімі і свежымі, а ворс — пругкім дзякуючы ўдаламу спалучэнню натуральнай воўны і сінтэтыкі, трывалай афарбоўцы, апрэціраванню.**

**Вырабы Брэсцкага дывановага камбіната за высокую якасць, прыгажосць малюнкаў і дасканаласць аддзелкі на кірмашы ў Плоўдзіве ў 1985 г. удастоены Залатога медаля.**

**Брэсцкія дываны — гэта своеасаблівыя творы мастацтва, якія доўгія гады будуць упрыгожваць ваш дом.**

Па заказе Беларускага рэспубліканскага Дома мадэлей.



## ЗАЛАЦІСТАЙ НАМАЛЯВАНЫ САЛОМКАЙ



**і магутны зубр, і стройная бярозка, і памятныя мясціны рэспублікі, і традыцыйны арнамент...**

**Інкруставаныя саломкай шкатулкі, дэкаратыўныя пано, хлебніцы і сальніцы нададуць кватэры нацыянальны каларыт.**

**Такія сувеніры — цудоўны падарунак з Беларусі.**

**Вырабляе іх Жлобінская фабрыка мастацкай інкрустацыі і Брэсцкая фабрыка сувеніраў.**

Па заказе Міністэрства мясцовай прамысловасці БССР.



## КОЖНАЯ НОВАЯ МАДЭЛЬ — КРОК НАПЕРАД

**таму, што новыя ўзоры абутку, зробленыя мінскім абутковым аб'яднаннем «Прамень», заўсёды больш зручныя, прыгажэйшыя і лепшыя, чым папярэднія.**

**ДЗЕЦЯМ «Прамень» дорыць лёгкія гусарыкі і сандалі, боцікі па ножцы, трывалы школьны абутак;**

**ДЗЯЎЧАТАМ і ЖАНЧЫНАМ — прыгожыя туфлі на кожны дзень і на свята, уцепленыя боцікі на поліурэтане;**

**МУЖЧЫНАМ — паўчаравікі, сандалеты, уцепленыя чаравікі...**

**Сёлета аб'яднанне падрыхтуе і выпусціць больш за 300 новых мадэлей абутку.**

**Шчасліва крочыць у новым абутку з маркай «Прамень»!**

Па заказе Беларускага рэспубліканскага Дома мадэлей.



# НА БЛАКІТНЫМ ЭКРАНЕ

**З 14 па 20 верасня**

**14 верасня, 19.50**
**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЁ ПІСЬМО...»**
Агляд пошты за тыдзень.

**14 верасня, 20.15**
**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНЫ 70-ГОДДЗЮ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА.**
Выступленне вакальнага ансамбля «Калінка» вёскі Капланцы Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці.

**16 верасня, 18.15**
**«ЗАПРАШАЕ ЧАСОПІС «ПОЛЫМЯ».**
Вядзе перадачу намеснік галоўнага рэдактара Г. Пашкоў.

**16 верасня, 21.40**
**«ТЭАТР І ЧАС».**
Вядучы — кандыдат мастацтвазнаўства В. Раніцкі.

**17 верасня, 18.50**
**«ШАНУЙЦЕ ПЕСНІ СВАЕ».**
Сустрэча з народнай спявачкай Н. Пашкевіч.

**17 верасня, 19.50**
**«ЧАС РАСКРЫВАЕ СХОВЫ».**
Перадача падрыхтавана да 75-годдзя народнага паэта Беларусі Максіма Танка.

**18 верасня, 19.50**
**ПАКАЗВАЕ ГОМЕЛЬ.**
Літаратурна-мастацкі часопіс «Радзімічы».

**19 верасня, 11.15**
**«РОЗДУМ».**
Вядучы — мастацтвазнаўца У. Бойка.

**19 верасня, 11.55**
**«СТАРОНКІ БЕЛАРУСКАЙ МУЗЫКІ».**
Вядучая — музыказнаўца Л. Макаранка.

**19 верасня, 13.05**
**«СЛОВА—ПАЭЗІІ».**
Вершы беларускіх паэтаў.

**19 верасня, 15.20**
**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ.**
Я. Шабан. «Шрамы». Спектакль тэатра-студыі моладзі Мінскага Палаца культуры чыгуначнікаў.

**19 верасня, 18.30**
**«КРЫНІЦА НАТХНЕННЯ—ЖЫЦЦЁ».**
Народны артыст СССР З. Стома раважае аб сваім жыцці ў мастацтве. Будуць паказаны ўрыўкі са спектакляў і фільмаў з яго ўдзелам.
Вядучы — кандыдат мастацтвазнаўства В. Раніцкі.

**19 верасня, 19.55**
**«ВЕЛІКАПОЛЛЕ».**
Прэм'ера дакументальнага фільма Беларускага тэлебачання, які расказвае пра таленавітага вучонага, у мінулым калгаснага агранома Б. І. Кулінчыка. Аўтары сцэнарыя М. Мартынюк і А. Колас. Рэжысёр—В. Урагаў.

**19 верасня, 23.15**
**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ».**
Музычная праграма з удзелам вакальнага ансамбля Дзяржтэлерадыё Латвійскай ССР «Рэмікс».

**20 верасня, 18.45**
**«САПРАЎДНАЕ».**
Рэпартаж з гарадскога свята паэзіі ў парку імя М. Горкага, прысвечанага 105-й гадавіне з дня нараджэння Якуба Коласа.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 21552 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі—33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.